## Шаноўны чытач!

Ты трымаеш у руках першы нумар рэгіянальнага часопіса «Сьвіцязь». Спадзяемся, што ён стане **тваім** часопісам і ты зробіш усё магчымае для яго падтрымкі.

Наш разліковы рахунак 702003 у Белбізнесбанку г. Гродна, код 705, часопіс «Сьвіцязь».

# 1.94 СЬВІЦЯЗЬ





Адрас рэдакцыі:

Рэспубліка Беларусь,

230023, г. Гродна, Ажэшкі, 49,

тэл. 45-26-27,

факс 45-47-79.

Выдавец: Гродзенскае абласное адзьдзяленьне Беларускага Фонду культуры

Выходзіць 4 разы на год.

## У НУМАРЫ:



## СЛОВА ДА ЧЫТАЧА

Задача захавання нацыянальнай культурнай спадчыны актуальная для кожнага народа, бо культура існуе ў часе і, натуральна, вымушана супрацьстаяць яго імкненню ператварыць усё ў небыццё.

Для беларускай культуры, лепшыя здабыткі якой на працягу многіх стагоддзяў мэтанакіравана вынішчалі і рабавалі, а тое, што нельга было разбурыць ці вывезці, хавалі пад цяжкім покрывам забыцця — гэтая задача звышактуальная.

Але як на справе, а не ў закліках зберагаць нацыянальную культурную спадчыну? Якая рэальная роля культурнае спадчыны ў жыцці сучаснага беларускага грамадства?

Пытанні гэтыя на Беларусі пастаўлены дастаткова востра. Але ў дзейнасці дзяржаўных устаноў, якія абавязаны зберагаць помнікі гісторыі і культуры, істотных зменаў амаль не назіраецца. Супрацоўнікі аддзелаў культуры ў пераважнай большасці не маюць дастатковых гістарычных ведаў і асноўную частку сілаў і часу трацяць на падрыхтоўку справаздач.

У гэтай сітуацыі нельга спакойна назіраць, як разбураюцца гістарычныя помнікі, знікаюць рэшткі народных традыцый, а астатковы прынцып фінансавання культуры, як і раней, душыць кашчавою рукой кволыя парасткі культурнага адраджэння.

Менавіта адчуванне асабістае адказнасці за лёс нацыянальнай культуры кіравала актывістамі Гродзенскага абласнога аддзялення

Беларускага фонду культуры, калі яны вырашылі распачаць выданне рэгіянальнага гістарычна-культурнага часопіса «Сьвіцязь», першую кніжку якога мы аддаем у твае рукі, шаноўны чытач.

Мы разумеем усю складанасць выдання беларускамоўнага, нацыянальна арыентаванага часопіса ў сённяшняй Беларусі, дзе нават развагі пра незалежнасць і самастойнасць, пра адметнасць нацыянальнае культуры лічацца крамолаю, дзе робіцца ўсё дзеля таго, каб пераканаць народ, што ён не мае ні самастойнасці, ні традыцый, ні характару, ні сілаў, ні ідэалаў, што ён з'явіўся невядома адкуль і павінен дбаць толькі пра тое, пад чыё заступніцтва аддацца, абы выжыць у незнаёмым свеце.

Мы прадбачым большасць матэрыяльных цяжкасцяў, якія прыйдзецца пераадольваць, каб забяспечыць выданне часопіса. Мы ўпэўнены, што нам не пазбегнуць папрокаў у «хутаршчыне», у адыходзе ад «магістральнага шляху сусветнага духоўна-культурнага прагрэсу».

І, нягледзячы на гэта, распачынаем выданне часопіса.

Мы — людзі не толькі сённяшняга дня. Культура народа ў кожны гістарычны перыяд ёсць сума, квінтэсенцыя ўсяго, што ён пражыў і перажыў. А раз гэта так, то зразумела, што без засваення назапашанага продкамі немагчыма культурнае адраджэнне, дзяржаўнае быццё нашае Бацькаўшчыны.

Мушу падкрэсліць, што для нас пытанні культуры не абмяжоўваюцца адно гістарычнаю спадчынай, якая ў нас надзвычай багатая. Мы бачым праблему значна шырэй. Гэта і мова, і адукацыя, і экалогія, і сацыяльныя пытанні, і пытанні інфармацыі, якія ў наш час набываюць вырашальную ролю. Нас хвалюе, што беларуская мова надта павольна становіцца моваю адукацыі, моваю навукі, моваю выхавання, моваю зносінаў.

Натуральна, менавіта на гэтым падмурку пабудавана праграма «Сьвіцязі». Мы будзем друкаваць даследзіны па гісторыі Гарадзеншчыны і яе культуры з даўнейшых часоў да сённяшняга дня, знаёміць чытача з творамі нашых землякоў. На старонках часопіса знойдзецца месца для публіцыстычных артыкулаў, інтэрв'ю навукоўцаў, літаратараў і мастацтвазнаўцаў, а таксама архіўных матэрыялаў, мемуараў і пісьмаў чытачоў.

«Сьвіцязь» будзе інфармаваць пра культурнае жыццё нашых суайчыннікаў у Польшчы, краінах Балтыі, друкаваць творы беларускіх аўтараў, якія жывуць па-за межамі Бацькаўшчыны.

Задум і памкненняў у нас нямала, і ўжо сёння мы адчуваем, што без тваёй дапамогі, шаноўны чытач, здзейсніць іх будзе вельмі цяжка.

Адышоў час раскідаць камяні — настаў іх збіраць. Мы толькі пачынаем разумець, наколькі гэта цяжкі час. Але і ўдзячны.

**Прафесар Сяргей ГАБРУСЕВІЧ.**

## «НА ЎЗВЫШШЫ КУПАЛАЎСКАЙ СПАДЧЫНЫ»

**Сёння вядзецца праца над кнігай артыкулаў Ф. В. Гінтаўта пра Янку Купалу «На ўзвышшы купалаўскай спадчыны», складальнікам якой з'яўляецца Руслан Казлоўскі. Ён і ўзяў інтэрв'ю ў аўтара пра змест і праблематыку гэтай кнігі.**

**— Франц Віктаравіч, скажыце, калі ласка, адкуль Вы ведаеце Янку Купалу, яго сям'ю, а таксама іншых вядомых асобаў: П. Глебку, А. Куляшова, П. Труса?**

— Жыццё так склалася, што на яго працягу я ведаў шмат знакамітых людзей. Жыў у адным двары з сястрою Купалы Марыяй Дамінікаўнай (Аўлачынскай) у Ляўшове. Сюды ж нярэдка наведваўся і сам Янка Купала, яго жонка, маці. У час вучобы ў Белпедтэхнікуме (1927—1931) сябраваў і быў добра знаёмы з Лукашом Калюгам, Сяргеем Астрэйкам, Пятром Глебкам, Паўлюком Трусам, Аркадзем Куляшовым, Алесем Кучарам і іншымі навучэнцамі, якія ў будучым сталі вядомымі на Беларусі людзьмі. Бязумоўна, знаёмства з імі аказала моцны ўплыў на светапогляд, ды і на само жыццё...

**— Што паслужыла да напісання серыі артыкулаў?**

— Магчыма, я ніколі і не звярнуў бы асаблівай увагі на многія свае ўспаміны, каб мяне не падбухторылі мае знаёмыя літаратары з Гродзенскага дзяржуніверсітэта і некаторыя Купалавы землякі з Лагойшчыны. Вялікая роля ў гэтым належыць Уладзіміру Каратаю (псеўданім Максім Луманін) і пляменніку Купалы Эдуарду Аўлачынскаму. Менавіта на стагоддзе святкавання Купалаўскага юбілею ўзнікла ідэя напісаць свой першы артыкул «Жменька думак, згадак пра Янку Купалу» («Полымя», № 5, 1984).

**— Я знаю, што Вам вядомы «маларaскрытыя» або раскрытыя з памылкамі старонкі з жыцця Купалы. Некалькі Вашых артыкулаў былі надрукаваны ў часопісе «Полымя», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» і іншых выданнях. Як аднесліся да гэтай, у многім новай, інфармацыі, выдаўцы, музеі, тыя ж літаратары?**

— На жаль артыкулы прайшлі мала заўважанымі. Мне здавалася, што новая інфармацыя зацікавіць шырокія колы літаратурнай грамадскасці, магчыма, нават будуць дыскусіі са мной на старонках друку, завяжацца перапіска. Але гэтага не здарылася. Ды і ўзнікалі пэўныя праблемы з публікацыяй артыкулаў. Так, «Гаротны лёс Анопаў», у якім закраналася праблема захавання гістарычнай спадчыны пра Купалу, праляжаў у «ЛіМе» аж паўгода.

**— Франц Віктаравіч, неяк у размове Вы мне казалі аб некаторых прычынах таго, што ў біяграфію Янкі Купалы трапіла шмат «дэзінфармацыі» і памылак, якія не выпраўлены і да сённяшняга дня. Як і чаму гэта адбылося?**

— Прычынаў тут шмат. Можна нават сказаць, што ў пэўным сэнсе вінавата гісторыя нашага грамадства. Улады КПСС не былі па-

сапраўднаму зацікаўлены ў захаванні купалаўскае спадчыны. Мы добра ведаем, што сям'я Аўлачынскіх і сам Раманоўскі былі рэпрэсаваныя. Самога Купалу не арыштавалі, бо ён у свой час спрабаваў здзейсніць самазабойства. Гэта выратавала ад арышту Коласа ды і многіх іншых. Улады спалохаліся, што арышт такіх вядомых людзей можа выклікаць адмоўны рэзананс ва ўсім свеце. У будучым, ужо пасля вайны, яны спрабавалі загладзіць віну за здзекі. Пакуль была жывая жонка Купалы, цётка Уладзя, справа захавання спадчыны нейкім чынам рухалася, а як толькі яна памерла — ініцыятыва была прыпынена.

**— А якую ролю ў жыцці Купалы адыгрывала Уладыслава Францаўна?**

— Пытанне цікавае, але складанае, коратка адказаць на яго немагчыма. Трэба паглядзець на яе як на чалавека. Уладыслава Францаўна была адзінай асобай, якая зрабіла тое, што другім не пад сілу. Яе дзеянні на ніве беларускай культуры сёння недастаткова даследаваны. Дарэчы, да яе адносіліся з вялікай павагай у розных установах. І не толькі таму, што яна жонка Купалы. Цётка Уладзя валодала ўласным аўтарытэтам. Яе веды не былі ніжэйшымі за веды таго ж Зыгмунда Чаховіча, Антона Лявіцкага. Не завіхалася яна асабліва «сярод вады і агню», як завіхаюцца звычайна жонкі, яна ўзбагачала «Смарагды кроз» духоўных узвысяў свайго мужа. Біёграфы Купалы не надавалі асаблівага значэння ролі Уладыславы Францаўны ў духоўным развіцці Купалы, і дарэмна. Купала быў чалавекам не прыстасаваным да жыцця. Цётку Уладзю можна назваць анёлам ахоўным, які берагаў яго ад побытавых цяжкасцяў, з'яўляўся «хадзячай энцыклапедыяй», да якой у любы час можна было звярнуцца: атрымаць адказ. Без яе Купала быў бы даволі бездапаможны ў мітуслівым ветры жыцця, бо сам ад прыроды быў спакойны, лірычны і, як я ўжо казаў, зусім не прыстасаваны да жыцця.

**— Дарэчы, яна і на Ваш лёс паўплывала істотна.**

— Так. Не магу не выказаць ёй вялікай удзячнасці. У свой час яна дапамагла ўгаварыць майго бацьку, каб ён мне дазволіў вучыцца ў пачатковай школе, якую я потым скончыў на выдатна. Яна ж дала параду, у якой школе далей вучыцца — на той час гэта была прэстыжная доследча-паказальная сямігодка пры педфаку БДУ. Далей прапанавала вучыцца ў Белпедтэхнікуме. Катэдж на вуліцы Омшай, у якім яна жыла, знаходзіўся ў зялёным садочку. Сюды я заходзіў кожны раз, калі наведваў Мінск. Пасля смерці паэта ў гэты дом, як і раней, заглядалі многія пісьменнікі, а таксама іншыя прыхільнікі Купалы. Пасля вайны наведвалі многія пацярпелыя пад час рэпрэсій: дачка Ядвігіна Ш. Ванда—жонка Лёсіка, жонка Гартнага і іншыя.

**— З біяграфіі Купалы выпала не толькі Уладыслава Францаўна, але і такія вядомыя, нават легендарныя асобы як Зыгмунд Чаховіч і Ядвігін Ш.**

— Сапраўды, звесткі аб іх замоўчваліся. Нават у энцыклапедыч-

ным даведніку «Янка Купала» (Мн., 1990) аб іх гаворыцца вельмі мала. А той жа Зыгмунд Чаховіч, паплечнік Кастуся Каліноўскага, менавіта ён даў першы штуршок у адукацыі Яся, менавіта ў Селішчы пад уплывам Чаховіча Купала распачаў свае першыя паэтычныя спробы на польскай мове, а не ў 1902 годзе, як аб гэтым гаварылася ў біяграфіі. Творчасць Ядвігіна Ш. увогуле на нейкі час была забыта і яго роля ў станаўленні будучага песняра Беларусі таксама. Быў забыты і Ясь Аўлачынскі, а ён жа матэрыяльна падтрымліваў сям'ю Купалы. У сваіх успамінах Раманоўскія амаль не згадвалі гэтых людзей.

**— Я ведаю, што нават пры друкаванні Вашых артыкулаў рабіліся пэўныя памылкі з тымі ж датамі, выкрэсліваліся кавалкі, з якімі гэтага рабіць нельга.**

— Сапраўды, у публікацыі аднаго з маіх артыкулаў («Старонкі паэтычнай спадчыны», «Полымя», № 7, 1992) было шмат недарэчнасцяў. Так, была выпраўлена адна дата, некаторыя сказы і цэлыя абзацы былі выкінутыя, а яны мелі прынцыповае значэнне. І ўсё гэта без маёй згоды. Самае страшнае, што гэтыя памылкі могуць пайсці і далей.

**— Скажыце, у Вашу кнігу акрамя біяграфічных звестак пра Купалу ўвойдзе яшчэ што-небудзь?**

— Так, безумоўна. Гаворачы пра старонкі жыцця Купалы, я расказваю не толькі аб людзях, якія паўплывалі на яго лёс. (З. Чаховічу, Я. Аўлачынскім, А. Лявіцкім), але нават і аб прататыпах вобразаў з яго твораў. Бо ўсе яны паходзілі з тых жа мясцінаў, дзе жыў Купала: Гіляры Аўлачынскі стаў Сцяпанам Крыніцкім у «Паўлінцы», Франусь Аўлачынскі — Пранцысем Пустарэвічам, сёстры Франуся — Паўлінкай і гераіняй паэмы «Адплата кахання». Таксама чытачы даведаюцца аб некаторых фактах з жыцця Лукаша Калюгі і Сяргея Астрэйкі, маіх сяброў па Белпедтэхнікуму. Мяркую, кніжка будзе цікавай не толькі для навукоўцаў, але і для больш шырокага чытача.

**— І ў заключэнне пытанне на іншую тэму. У апошнім нумары «Нашай Нівы» Антон Адамовіч падае сенсацыйную інфармацыю, што існаваў усё ж такі «Саюз вызвалення Беларусі» (СВБ), заснаваны як «Саюз ваяўнічых безбожнікаў» (СВБ), і спасылаецца на Вас як на аднаго з хаўруснікаў.**

— Не, не. Такога не было. Сапраўды, тады значкі СВБ («Саюза ваяўнічых безбожнікаў») насілі амаль усе ў Белпедтэхнікуме. Проста аднойчы ў кампаніі Сяргей Астрэйка пажартаваў і расшыфраваў па-новаму гэтую абрэвіятуру як «Саюз вызвалення Беларусі». Жарт паказаўся ўсім вельмі дасціпным і быў падхоплены «шырокімі масамі». Ну, а гэта паслужыла выдатнай глебай для НКУС, каб потым кінуць многім абвінавачанне ў контрэвалюцыі.

**— Вялікі Вам дзякуй за інтэрв'ю. Я спадзяюся, што кніга «На ўзвышшы купалаўскай спадчыны» выправіць многія недарэчнасці ў біяграфіі Янкі Купалы, а новыя, дакладней даўно забытыя факты зоймуць пачэснае месца ў экспазіцыях музея.**





**Андрэй МАЙСЯЁНАК — кандыдат медычных навук. Аўтар шасьці манаграфій па біяхіміі вітамінаў, шэрагу артыкулаў па гісторыі медыцыны і культуры Гродзеншчыны. Працуе ў Інстытуце біяхіміі Акадэміі Навук Беларусі ў Гродне.**



**Андрэй МАЙСЯЁНАК**

## ФОНД ХРАПТОВІЧА НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ

Імя Яўхіма Літавора Храптовіча, нашага выдатнага земляка, палітычнага і грамадскага дзеяча XVIII ст. Рэчы Паспалітай, асветніка, наватара, бібліяфіла доўгія гады было выкрэслена з нашай гісторыі і культуры. Радавод Храптовічаў уваходзіць сваімі каранямі ў дахрысцыянскі час і непарыўна звязаны з Беларуссю, з Навагрудчынай, адкуль, дарэчы, і сам Яўхім Храптовіч. Выхаванец Віленскай акадэміі і шэрагу прэстыжных навучальных установаў Еўропы, Храптовіч стаў носьбітам многіх прагрэсіўных і перадавых поглядаў і ідэй у галіне адукацыі, культуры, эканомікі. Ён — ці не самы актыўны дзеяч Адукацыйнай камісіі, падканцлер і канцлер Вялікага княства Літоўскага, аўтар праектаў звода законаў Літвы—Беларусі і агульнадзяржаўных законаў Рэчы Паспалітай. Вядомы яго наватарскія захады ў эканоміі Шчорсы Навагрудскага павета, дзе ён адзін з першых скасаваў паншчыну, уводзіў перадавыя метады агратэхнікі і перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі (гл. арт. К. В. Дмитриев, Р. И. Гришко в сб. ст.: Наш Радавод. Кн. I, Гродно, 1990, с. 127). Але асабліва вядома яго дзейнасць як стваральніка бібліятэкі ў Шчорсах, якая ўжо пры яго жыцці стала першаякасным нацыянальным фондам, уключаючым шматтысячны кнігазбор, старадрукі, рукапісы, карты, музейныя калекцыі. Бібліятэка і музей былі шырока адчынены для творчай працы навукоўцаў і літаратараў, сярод якіх можна ўзгадаць такія постаці як А. Міцкевіч, Я. Чачот, Я. Лелевель, У. Сыракомля, А. Ельскі, Я. і А. Снядзецкія, І. Даніловіч, Ю. Ярашэвіч.

Лёс фонду Храптовіча, як і многіх іншых нацыянальных каштоўнасцяў, драматычны. Многае загінула, але ж значныя часткі збору захоўваюцца ў музеях і бібліятэках Пецярбурга, Кіева, Масквы, часткова, у прыватных калекцыях. Большая частка кнігазбору трапіла падчас эвакуацыі ў першую сусветную вайну ў Кіеўскі ўніверсітэт св. Уладзіміра, перажыла шмат катаклізмаў і знаходзіцца там да сённяшняга дня. Каштоўнасць бібліятэкі Храптовіча, як і збору рукапісаў, якія знаходзяцца ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы Расіі імя Салтыкова-Шчадрына, для справы беларускага нацыянальнага адраджэння заўсёды была відавочнай. Не дзіўна, што пасля ўзнікнення пытання аб беларускім нацыянальным універсітэце, ініцыяванага радай БНР у 1918 г., адной з галоўных прадумоў вырашэння гэтага пытання было: «увайсьці ў перагаворы з Кіеўскім універсытэтам св. Уладзіміра аб звароце бібліотэкі і коллекцыяў Віленскага універсытэту, а таксама не адчыненай бібліятэкі гр. Аполінар Мікалаевіча Хрэптовіча-Буцэнёва» («Беларускі шлях», № 71 ад 20 чэрвеня 1918 г.).

Аднак збег падзей у 1918-21 гады не спрыяў ні стварэнню сапраўднай беларускай дзяржаўнасці, ні станаўленню справы нацыянальнага адраджэння, да якога імкнуліся адданыя сэрцы Беларусі, ідэйныя нашчадкі Яўхіма Храптовіча. Выканаць яго тэстаментны наказ аб звароце бібліятэкі нацыянальнаму універсітэту не выпала ні ў 1918 г., ні ў сярэдзіне 20-х гадоў, калі ўжо амаль была атрымана згода аб перадачы кнігазбора на Беларусь у сувязі са зваротам Народнага камісарыята асветы БССР у снежні 1924 г. (гл. дакументы надрукаваныя ў № 1 бюлетэня «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі» за 1989 г.). У міжваенны час нашчадак Храптовіча граф Канстанцін Апалінаравіч Храптовіч-Буцянёў прымаў безвыніковыя захады аб вяртанні кніжных і мастацкіх калекцый; ён жа спрабаваў стварыць новы кнігазбор у Шчорсах. Вядома, што ў 1940 г. шчорсаўская бібліятэка была знішчана падчас нацыяналізацыі маёнтка апошняга яго ўладальніка, але ж мясцовым жыхарам пэўную частку кніг удалося зберагчы.

У пасляваенныя гады справа бібліятэкі і калекцый Яўхіма Храптовіча доўгі час была забытая. Часцей за ўсё імя Храптовіча ўзгадвалася толькі як уладальніка кнігазбору, які спрыяў Адаму Міцкевічу ў яго творчых здабытках. Усё ж і ў «застойныя часы» гучалі заклікі да вывучэння бібліятэкі Храптовічаў, як помніка культуры Беларусі (гл. артыкул В. А. Цыбулі ў бюлетэне «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, № 3, за 1973 г.). Аўтар звяртаў увагу даследчыкаў і краязнаўцаў на асаблівую каштоўнасць бібліятэкі Храптовічаў як крыніцы матэрыялаў па гісторыі Літвы—Беларусі, сярод якіх зборы гістарычнай літаратуры, геральдычныя зборнікі, арыгіналы і копіі дакументаў аб магдэбурскім праве, прывілеі, храналогіі, палітычныя прамовы і г. д.

У часы перабудовы грамадскасць Беларусі, перад усім камісія «Вяртанне» Беларускага фонда культуры, зноў пачала працу па высвятленні лёсу і магчымасці вяртання ў Беларусь бібліятэкі і архіва

Храптовічаў, прыняты пэўныя захады ў 1988 г. праз Міністэрства культуры па хутчэйшым вяртанні бібліятэкі Храптовічаў на Гродзеншчыну (гл. «Вяртанне», дакументы і архіўныя матэрыялы па праблемах пошуку і вяртання нацыянальных каштоўнасцяў, якія знаходзяцца за межамі Рэспублікі Беларусь, Мн., 1992, с. 50). На думку Т. І. Рошчынай члена камісіі «Вяртанне», загадчыка аддзела рэдкай кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі: «Адзін з магчымых напрамкаў работы па бібліяграфічным уліку помнікаў кніжнай культуры — рэканструкцыя страчаных, альбо апісанне захаваных гістарычных кніжных калекцый, якія існавалі на Беларусі — напрыклад, Радзівілаў, Сапегаў, Храптовічаў і іншых. У дадзеным выпадку друкаваныя каталогі калекцый — найбольш верагодны шлях вяртання іх на Бацькаўшчыну, асабліва калі фізічнае вяртанне (нават захаваных частак) пад вялікім пытаннем. Праграма бібліяграфічнай рэканструкцыі магла б уключыць шэраг тамоў: рэпрынтныя выданні захаваных вопісаў, ілюстраваны каталог захаванай часткі кнігазбору, манаграфію па гісторыі бібліятэкі. Гэта, у першую чаргу, магло б датычыць бібліятэкі Храптовічаў, для вяртання якой Беларускі фонд культуры прыкладае немалыя намаганні (гл. «Вяртанне», с. 43).

Грамадскасць Гродзеншчыны не магла не адгукнуцца на згаданыя культурныя ініцыятывы. Імя Яўхіма Літавора Храптовіча зноў прагучала сярод іншых славутых землякоў Прынямоння на міжрэспубліканскай навуковай канферэнцыі па гістарычным краязнаўстве Беларусі і генеалогіі ў лістападзе 1990 г. (г. Гродна). Распрацоўка ў 1990-91 гг. канцэпцыі стварэння мемарыяльнага комплексу А. Міцкевіча праф. Б. Клейнанм і сябрамі створанага ў Гродне камітэта памяці А. Міцкевіча прадугледжвала правядзенне рэстаўрацыйных работ у Шчорсах, дзе часткова захаваўся сядзібна-паркавы ансамбль Храптовічаў, пабудаваны ў XVIII ст. Праблема грунтоўнай рэканструкцыі і адбудовы Шчорсаўскага палаца, магчымасці вяртання на сваё «гістарычнае» месца бібліятэкі і іншых скарбаў культурнага фонда Храптовічаў абмяркоўвалася на міжнароднай навукова-краязнаўчай канферэнцыі «Спатканне над Свіцяззю», якая адбылася ў чэрвені 1992 г. Пра значэнне бібліятэкі Храптовіча, як значнага элементу ўсяго «Міцкевічаўскага шляху» на Гарадзеншчыне гаварылі прафесары Б. Клейн і С. Габрусевіч, краязнаўца М. Арановіч і гісторык літаратуры Я. Адравонж-Пянёнжак. Гісторыя будовы дварцовага ансамбля ў Шчорсах падрабязна была разгледжана мастацтвазнаўцам з Гродна І. Трусавым. Ад імя Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі з рэфератам на тэму «Фонд Храптовіча: ідэя стварэння і шляхі рэалізацыі» выступіў аўтар гэтага артыкула. Пасля дыскусіі навукоўцы пагадзіліся з прапановай аб мэтазгоднасці акумуляцыі страчаных бібліятэчных і рукапісных збораў у Гродне пры адначасовай распрацоўцы канцэпцыі стварэння музейнай экспазіцыі ў Шчорсах з перспектывай рэстаўрацыйных прац на сядзібна-паркавым ансамблі.

Чаму ў вырашэнні пытання аднаўлення «Фонда Храптовіча» дамінуе Гродна, як месца найбольш адпаведнае сутнасці справы, яе

гістарычным акалічнасцям і, галоўнае, перспектывам развіцця і выкарыстання каштоўнай кніжнай калекцыі? Перш за ўсё таму, што старажытны горад над Нёманам з'яўляецца універсітэцкім горадам, дзе існуюць гістарычны факультэт і факультэт беларускай філалогіі і культуры, што ў значнай ступені забяспечвае эфектыўнае выкарыстанне гістарычна-культурнага матэрыялу студэнтамі, аспірантамі і навукоўцамі. З другога боку, было б выканана пажаданне А. М. Храптовіча-Буцянёва, які прадугледжваў карыстанне бібліятэкай студэнтамі нацыянальнага універсітэту на сваёй Бацькаўшчыне. Але галоўным аргументам з'яўляецца тая акалічнасць, што ў г. Гродне ўжо існуе фонд Храптовіча.

Як вядома, у Гродне знаходзіцца адзін з буйных помнікаў палацава-сядзібнай архітэктуры сярэдзіны XVIII ст. — Новы замак (гл. артыкул А. М. Кулагіна ў бюл. «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі», № 4, 1976 г.). Пасля шматлікіх перабудоў і разбурэнняў ён быў адноўлены ў формах класіцызму ў 1953 г. і выкарыстоўваўся як рэзідэнцыя абкама КПБ да 1990 г. У канцы 1990 г. узнікла пытанне аб далейшым выкарыстанні гэтага будынка, якое было вырашана Гродзенскім абласным Саветам на карысць Дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея. Гэта дало магчымасць стварыць аддзел рэдкай кнігі і старадрукаў, які да гэтага часу меў у сваіх фондах каля 20 тыс. тамоў кніжных і перыядычных выданняў, большая частка якіх неапрацавана і не сістэмізавана. Значную працу па вывучэнні кнігазбору Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея зрабіў краязнаўца і мастацтвазнаўца І. Р. Трусаў. Менавіта дзякуючы яго працы стала магчымым разгледзець пытанне аб перспектывах развіцця аддзела рэдкай кнігі і старадрукаў у кантэксце стварэння фонда Храптовіча ў Новым замку. Пытанне ўпершыню разгледжана на пастаяннай камісіі па навуцы, культуры, адукацыі і выхаванні Гродзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў 30 ліпеня 1991 г. і аднадушна падтрымана.

Такім чынам размеркаванне аддзела рэдкай кнігі і старадрукаў Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея ў памяшканні Новага Замка, перспектыва пашырэння фондаў і яго плошчы, а таксама гістарычны факт існавання фонда (бібліятэка, калекцыі, архіў) Храптовічаў на Гродзеншчыне ствараюць прадумовы развіцця азначанага аддзелу ў Нацыянальны гісторыка-культурны фонд імя Я. Л. Храптовіча. Да гэтага трэба дадаць, што Храптовіч, як канцлер Вялікага княства Літоўскага, неаднаразова быў у Гродне, а ў Новым Замку ўдзельнічаў у соймавых паседжаннях. Разам з Антоніем Тызенгаўзам ён быў паслом ад Гродна на каранацыйным сойме 1764 г. Існуе думка, што Храптовіч з'яўляўся кіраўніком паўстання 1794 г. у Гродне, а ў 1795—96 гг. гасцяваў у Новым Замку ў караля Станіслава-Аўгуста (гл. арт. К. В. Дзімітрыева і Р. І. Грышко).

Ідэя стварэння фонду Храптовіча была падтрымана мясцовай грамадскасцю, радай Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі, Праўленнем абласнога аддзялення Беларускага фонду культуры. Падтрымку ідэі стварэння фонду выказалі Вучоная Рада аддзела рэдкай кнігі і старадрукаў (9 кастрычніка 1991 г.), удзельнікі міжнароднай навуковай канферэнцыі «Культура народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі XIII—пач. XX ст.» (24 кастрычніка 1991 г.), камісія па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета БССР (28 лістапада 1991 г.). За стварэнне нацыянальнага фонду ў Гродне выказаўся старшыня праўлення Беларускага фонду Культуры І. Г. Чыгрынаў і дырэктар нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтру імя Ф. Скарыны А. І. Мальдзіс. Міністэрства культуры Беларусі цалкам падтрымала ідэю стварэння фонду сваім рашэннем 4 студзеня 1993 г., акрэсліўшы, аднак, дзейнасць фонду як рэгіянальнай установы.

4 сакавіка 1992 г., у дзень 180-годдзя з дня смерці Я. Храптовіча, у будынку Новага Замка адбылася вечарына, прысвечаная памяці выдатнага земляка, грамадскага і палітычнага дзеяча, і аднаўленні дзейнасці фонду імя Храптовіча на Гарадзеншчыне. Слова пра жыццё і дзейнасць Храптовіча бралі А. Пяткевіч, І. Трусаў, С. Дрозд. Загадчыца аддзела рэдкай кнігі і старадрукаў В. І. Шоцік пазнаёміла прысутных з гісторыяй кніжных фондаў музея, падкрэсліўшы значную ролю колішняга дырэктара Ю. Ядкоўскага. Узгадвалася пра дзейнасць Аддзела па пашырэнні фондаў кнігазбору, асабліва беларускамоўных выданняў. Ад імя дэпутацкай камісіі па навуцы, культуры, адукацыі і выхаванні калектыву музея была выказана падзяка за захаванне больш як 20 тысяч асобнікаў кніг і перыядычных выданняў гістарычнай, даведчай, навуковай, мастацкай і краязнаўчай літаратуры. У гэты ж дзень у фонд Храптовіча былі зроблены першыя ахвяраванні і падарункі. Ад Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі А. Майсёнкам у кнігазбор фонда Храптовіча былі перададзены акадэмічнае выданне «Радзівілаўскага летапісу», поўны збор «Беларускіх календароў» (Беласток), іншыя беларускамоўныя перыядычныя выданні. Каштоўныя кнігі перадалі І. Р. Трусаў і жонка вядомага палітычнага дзеяча Заходняй Беларусі Е. І. Марцінчык. Па воле рашэння ўдзельнікаў вечарыны абавязкі арганізацыйнага камітэту па стварэнні нацыянальнага фонду імя Я. Л. Храптовіча былі ўскладзены на Раду Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі.

На працягу 1992—93 гг. аддзел рэдкай кнігі і старадрукаў Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея правёў вялікую працу па вывучэнні кнігазбору, яго ўлiку, пашырэнні фондаў і сувязяў з іншы-

мі бібліятэкамі, архівамі і ўладальнікамі бібліятэк. Ідзе штодзённая праца па вывучэнні самога фонду, старадрукаў, высвятляюцца крыніцы і час утварэння музейнай бібліятэкі. Як сведчыць у сваёй публікацыі супрацоўніца аддзела рэдкай кнігі і старадрукаў Л. І. Коўкель, значная частка старадрукаў у фондзе паходзіць з бібліятэкі Гродзенскіх дамініканаў (канец XVIII—пач. XIX ст.), пазней перададзенай Гродзенскай мужчынскай гімназіі. Гэтыя каштоўныя выданні на польскай мове і латыні XVI—XVIII ст. пазначаны экслібрысам гарадзенскіх дамінікан і пячаткай гімназіі («Наш Радавод», кн. 4, частка 1, с. 164). Другімі значнымі бібліятэчнымі зборамі ў складзе фонду Аддзела рэдкай кнігі і старадрукаў з'яўляюцца выданні з прыватных бібліятэк Красінскіх і Патоцкіх, а таксама бібліятэка Гродзенскага музея міжваенных часоў, як і прыватны кнігазбор яго дырэктара Ю. Ядкоўскага. Прысутнасць у азначаных фондах энцыклапедычных выданняў, значная колькасць перыёдыкі, гістарычнай і краязнаўчай літаратуры, якая датычыць, у значнай ступені, гісторыі заходне-беларускага рэгіёну, дазваляе разглядаць працэс фармавання фонду Храптовіча як агульнанацыянальную з'яву.

Рашэннем сесіі Гродзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў ад 5 жніўня 1992 г. стварэнне нацыянальнага фонду І. Храптовіча на базе гісторыка-археалагічнага музея аднесена да галоўных задач па вывучэнні і захаванні культурна-гістарычнай спадчыны ў Гродзенскай вобласці. Распрацаваны мэтанакіраваныя прапановы па вяртанні бібліятэкі і архіва Храптовічаў у супрацоўніцтве з установамі культуры Украіны і Масквы (гл. артыкул Т. Рошчынай, А. Фурса ў часопісе «Спадчына», № 3, 1992 г., с. 57). Аднак галоўным аргументам у справе вяртання спадчыны Храптовічаў можа стаць рэальная дзейнасць фонду яго імя ў Гродне.

Менавіта таму Гарадзенскаю краязнаўчай асацыяцыяй, Гродзенскім абласным аддзяленнем Беларускага фонду культуры прыкладаюцца рознабаковыя намаганні арганізацыйнага характару, каб стварыць галоўнае — суполку зацікаўленых людзей, якія сваёй мэтанакіраванай дзейнасцю змаглі падтрымаць ідэю ўтварэння нацыянальнага фонду рукапісаў, старадрукаў, рэдкай кнігі і перыёдыкі імя Яўхіма Літавора Храптовіча. Супрацоўнічаць у актыве (магчыма Радзе?) фонду згадзіліся такія вядомыя даследчыкі як В. Грыцкевіч і М. Мікалаеў (Санкт-Пецярбург), А. Нарбут і Ю. Лабынцаў (Масква), Ю. Туронак і А. Міранович (Польшча), В. Кіпель і Я. Запруднік (ЗША) і інш. Вялікі водгук прапанова аб стварэнні фонду Храптовіча атры-

мала сярод дэлегатаў і ўдзельнікаў з'езду беларусаў свету (ліпень 1993 г.), ад якіх ужо атрыманы шматлікія ўнікальныя выданні беларускага замежжа. Рада Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі прымае і неабходныя фінансавыя прапановы па забеспячэнні дзейнасці фонду, развіцці аддзела рэдкай кнігі і старадрукаў Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея.

У сённяшні час, калі вяртанне і захаванне нацыянальнай спадчыны Беларусі набывае новыя моцныя імпульсы, зразумела неабходнасць аднаўлення дзейнасці фонду Храптовіча на яго радзіме ў Прынёманскім краі. Можна яшчэ раз падкрэсліць, што дзейнасць фонду гэта не толькі справа вяртання нацыянальных каштоўнасцяў на Бацькаўшчыну, але і стварэнне ўмоў для акумулявання гістарычнага і літаратурнага матэрыялу ў рукапіснай і друкаванай форме, іканаграфічнага і мастацкага характару, які адлюстроўвае лёс і жыццё розных сацыяльных і рэгіянальных пластоў (у т. л. дыяспары), але непарыўна звязаны з гісторыяй і культурай нашай Радзімы. Менавіта таму стварэнне фонду мэтазгодна арыентаваць на музейную базу, якая ідэальна магла б спалучыць яго шматгранную збіральніцкую дзейнасць. Нарэшце, задача фонду і пашырэнне справы вывучэння гістарычна-культурнай спадчыны, стварэнне ўмоў для рознабаковаг і паглыбленага яе вывучэння, асабліва для моладзі, аспірантаў, студэнтаў, навукоўцаў, шырокае інфармаванне ўсіх зацікаўленых асоб аб знаходках, унікальных дакументах, новых паступленнях. Магчыма лагодная будучыня дазволіць выдаваць фонду на першым этапе інфармацыйны бюлетэнь, а пазней і адпаведны часопіс. Ёсць прапановы аб мэтазгоднасці стварэння рэгіянальнага асветніцкага цэнтру і навуковай асацыяцыі пры фондзе, арганізацыі таварыства садзейнічання фонду Заходняй Беларусі.

Арганізатары аднаўлення дзейнасці фонду Храптовіча чакаюць водгука і дапамогі з боку кнігалюбаў, уладальнікаў прыватных бібліятэк, краязнаўцаў. Безумоўна будзе карысная рознабаковая падтрымка з боку ўсіх зацікаўленых устаноў па стварэнні матэрыяльна-фінансавай базы фонду Храптовіча, пашырэнні яго кнігазбору. 4 студзеня 1994 г. споўнілася 265 год з дня нараджэння Яўхіма Літавора Храптовіча. Можна спадзявацца, што ў сувязі з гэтым юбілеем праца па стварэнні фонду яго імя набудзе новы ўзровень, які дазволіць не толькі ўшанаваць памяць Храптовіча, вярнуць яго калекцыі на Бацькаўшчыну, але і прадоўжыць яго вялізную культурна-асветніцкую дзейнасць на Беларусі.





**Уладзімір УРБАНОВІЧ — педагог, фальклярыст, краязнавец. З 1952 года настаўнічаў у Валеўскай сярэдняй школе, дзе стварыў літаратурна-краязнаўчы музэй. Аўтар кніг «Па дарагіх мясцінах» (1964), «Шляхамі паэтаў і герояў» (1970), шматлікіх артыкулаў па гісторыі і культуры Навагрудчыны. Зараз пэнсіянер. Жыве ў вёсцы Валеўка Навагрудзкага раёна.**



**Уладзімір УРБАНОВІЧ**

## САЛАМОН МАЙМАН — ФІЛОСАФ З МІРСКАЙ АКАДЭМІІ

Мір — гэта адзін з найстаражытнейшых гарадоў нашага краю. Успамінаецца ён пачынаючы з XIV ст. у розных гістарычных дакументах, сведчаць аб гэтым і захаваныя да нашых дзён палацава-замкавы комплекс і іншыя помнікі гісторыі і культуры. Мір звязаны з імёнамі Адама Міцкевіча і Уладзіслава Сыракомлі, філосафа Саламона Маймана, народнага артыста СССР Аляксандра Ільінскага і іншых вядомых дзеячоў культуры Беларусі.

Мір на працягу некалькіх стагоддзяў быў сталіцаю цыганскіх каралёў Беларусі і цэнтрам падрыхтоўкі філосафаў-талмудыстаў для габрэяў Еўропы, Афрыкі, Азіі і Амерыкі — тут была сядзіба габрэйскай акадэміі, дзе не толькі рыхтавалі рабінаў для сінагог, але і перапісвалі для хедэраў (пачатковых школ) і ешыботаў (школ па падрыхтоўцы рабінаў) святыя кнігі XV—XVI стагоддзяў. Рабілі іх рукапісна, на пергаменце.

Пра Саламона Маймана, амаль што невядомага шырокаму чытачу выпускніка гэтай акадэміі, які стаў вядомым у Еўропе філосафам, матэматыкам і пісьменнікам і пойдзе гаворка.

У «Беларускай савецкай энцыклапедыі» (т. 6, ст. 542) ёсць артыкул пра філосафа-самавука другой паловы XVIII ст. Саламона Маймана. Месцам яго народзінаў названы г/п Мір, тое ж мы чытаем і ў «Большой советской энциклопедии» (т. 15, ст. 220). Але гэта не так.

У сваёй кнізе, напісанай на нямецкай мове «Саламона Маймана жыццё, ім самім апісанае» (у рускім перакладзе змешчана ў кнізе «Европейская библиотека», т. I-I, СПБ, 1871—1872) аўтар дае не толькі дакладную дату і месца народзінаў, але і



многа розных звестак пра наш край, дзе прайшла амаль палова жыцця будучага філосафа, пісьменніка і матэматыка.

За трынаццаць кіламетраў на поўнач ад Міра і дзесяць ад Стаўбцоў, на левым беразе Нёмана пры ўпадзенні ў яго ракі Янчанкі да сённяшніх дзён захавалася невялічкая вёсачка Жукаў Барок. Тут у 1754 г. у сям'і габрэя-арандатара пабачыў свет Саламон Майман.

Вось як ён апісвае Жукаў Барок і сваё дзяцінства ў згаданай аўтабіяграфіі, якая ўпершыню была надрукавана ў двух тамах у 1792 г. Саламонаў дзед Іосіф Хейман арандаваў у князя Радзівіла вёсачку ў некалькі сялянскіх хат, Жукаў Барок, вадзяны млын, карчму і прыстань на Нёмане, адкуль адпраўляліся рачныя баржы і віціны са збожжам, паташом і іншымі таварамі ў Прусію. За арэнду прыходзілася кожны год плаціць 1000 польскіх злотых. Для таго часу гэта былі вялікія грошы. Але праз вёсачку праходзіў буйны тракт на Вільню, і карчма ніколі не пуставала, добры даход давалі млын і прыстань, ды і гандаль з навакольным сялянствам і дробнаю шляхтай. Дзед пражыў тут амаль усё жыццё заможна і нават прыдбаў значны капітал, каб даць тром сваім дочкам добры пасаг, а сына вывучыць на рабіна. Тут, у Жукавым Барку, сярод басаногай дзятвы прайшло маленства і яго ўнука, чарнагаловага хлапчука Саламона, якому суджана было стаць філосафам і пісьменнікам.

Першапачатковую адукацыю Майман атрымаў дома. Рана палюбіў кнігі, дзед меў добрую, на той час, бібліятэку. Ужо ў сямігадовым узросце Саламон чытаў гістарычна-філалагічныя і астранамічныя творы і нават зрабіў сабе з прутоў нешта накшталт глобуса. Але бацьку і дзеду хацелася, каб сын стаў рабінам. Яго пасылаюць у мястэчка Мір, дзе размяшчалася ў той час адзіная для ўсяе Еўропы школа рабінаў. Многія гады будучы філосаф старанна заглыбляецца ў мёртвае мора талмудызму.

Магчыма жыццё Маймана і склалася б так, як хацелі бацька і дзед, каб не адна акалічнасць, якая кінула іх сям'ю ў галечу і бед-

насць. Паміж князем Радзівілам і габрэям-арандатарам адбыўся нечаканы канфлікт, у выніку якога арандатара выгналі з Жукава Барка, і ён вымушаны быў весці вандроўны лад жыцця.

Сям'я пераехала ў Нясвіж, дзе неўзабаве Саламона ажанілі з дачкою гаспадыні заезнага двара. Праз два гады ён стаў ужо бацькам і павінен быў жыць самастойна, каб пракарміць сям'ю.

Але Саламон Майман (тады яшчэ пад бацькавым прозвішчам — Хейман) не пакідае заняткаў навукамі: вывучае самастойна фізіку, оптыку, медыцыну. З філосафаў яго ўвагу асабліва прыцягваў у гэты час буйны прадстаўнік габрэйскай філасофіі, паслядоўнік Арыстоцеля Майманід. Ад яго ён і ўзяў сабе прозвішча Майман. Пад уплывам прачытаных кніг, галоўным чынам нямецкіх, С. Майман вырашыў пасяліцца ў Германіі, дзе намерваўся грунтоўна заняцца медыцынай. Таму ў 1777 г. двадцацітрохгадовы Саламон кідае сям'ю і пешшу ідзе спачатку ў Кёнігсберг, а адтуль — у Берлін. Але яго, беднага іншаземнага габрэя, нават не пусцілі ў горад. Саламон Майман мусіў шукаць сабе прытулку і работы. Вяртаючыся на радзіму, ён затрымаўся ў Пазнані і наняўся служыць у аднөй багатай сям'і. У вольны час працягваў займацца навукамі, знаёміўся з творамі найноўшай філасофіі, у прыватнасці, з працамі англійскага матэрыяліста Джона Лока. Тут ён пачаў пісаць на габрэйскай мове першыя філасофскія эцюды. Праз два гады зноў накіраваўся на Захад, і гэтым разам не дарэмна. Яго прыняў вядомы ў той час нямецкі філосаф Мендэльсон, дзякуючы якому малады навуковец атрымаў магчымасць больш сістэматычна займацца медыцынай, фізікай, філасофіяй, матэматыкай. Неўзабаве С. Майман набывае шырокую вядомасць у Германіі, Галандыі, становіцца жаданым госцем у багатых салонах.

У канцы 80-х гадоў Майман знаёміцца з кнігаю Э. Канта «Крытыка чыстага розуму» і прыкмячае ў ёй асноўную супярэчнасць: імкненне нямецкага філосафа прымірыць матэрыялізм з ідэалізмам. Майман выступае з крытыкай кантаўскай «рэчы ў сабе», але крытыкуе Канта «справа», ствараючы больш паслядоўную ідэалістычную філасофскую сістэму, якую пазней развіў І. Фіхтэ. Азнаёміўшыся з рукапісам С. Маймана, Кант прызнаў яго даволі грунтоўным і парадзіў аўтару апублікаваць. Праца С. Маймана выйшла ў свет ў 1790 г., звярнуўшы на сябе ўвагу нямецкіх філосафаў і пісьменнікаў. У другой кнізе ён разглядае праблемы тэорыі пазнання і этыкі. І. Фіхтэ назваў С. Маймана сваім папярэднікам, папярэднікам суб'ектыўна-ідэалістычнага напрамку ў філасофіі.

Усяго Саламон Майман напісаў каля трыццаці прац па філасофіі і матэматыцы. Н. І. Сцяжкін у кнізе «Формирование математической логики» (М., 1967) даў станоўчую ацэнку яго работ па логіцы. Але сапраўдную шырокую папулярнасць прынесла Майману двухтомная аўтабіяграфія «Саламона Маймана жыццё, ім самім апісанае». Гэты твор сучаснікі не без падстаў параўноўвалі са «Споведдзю» французскага асветніка Жана Жака Русо.

Для нас асабліваую цікавасць уяўляе першы том гэтага твора, бо ў ім гаворка ідзе аб тагачасным грамадскім жыцці на Беларусі, даецца апісанне Міршчыны, іншых вёсак і гарадоў Беларусі. Тут Саламон Майман апавядае таксама аб тым, як Радзівілы і іх аканомы здзекаваліся з прыгоннага сялянства, як пагарджалі яны габрэмарандатарам. Вось толькі некалькі прыкладаў.

Праз Жукаў Барок, дзе жылі дзед і бацька Маймана, праходзіў вялікі гасцінец, які перасякаў раку Янчанка каля вадзяного млына. Млын арандавалі родныя Саламона, і таму на іх ускладаўся абавязак рамантаваць мост. Здаралася, што які-небудзь польскі магнат, праязджаючы праз мост са сваёю світаю, заўважаў у ім дзіры ці абламаныя поручні. Тады хапалі сялянаў і арандатара ды секлі іх лазою. Аднойчы, расказвае Саламон Майман, калі дарослыя ўцяклі, панскія слугі злавілі яго бацьку, якому было тады толькі восем гадоў і, здзекуючыся з яго, прымусілі выпіць цэлае вядро вады. Але той так і не сказаў, дзе схаваліся бацькі.

У апісанні Саламона Маймана ёсць цікавыя прыклады, як тады паводзілі сябе царкоўнікі. У вёсцы Жукаў Барок была ўніяцкая царква. Малапісьменны служка доўга і часта праседжваў у карчме: піў гарэлку ў доўг, які рэдка калі сплачваў. Калі, нарэшце, карчмар перастаў даваць піць без грошай, поп жорстка адпомсціў яму за гэта. У Нёмане на той час вяліся бабры, якіх лічылі ўласнасцю Радзівілаў. Нягледзячы на забарону і пагрозу вялікага штрафу, сяляне ўпотай лавілі іх і збывалі карчмару. Аднойчы пад час начнога палявання адзін селянін вылавіў тапельца. І калі прыйшоў да папа, каб тапельца пахаваць, айцец прыстрашыў яго, што данясе Радзівілу пра парушэнне забароны аб ловах баброў. І прапанаваў аднесці тапельца Саламонаваму дзеду пад выглядам бабра. Селянін так і зрабіў. Атрымаўшы належную заплату, ён кінуў «бабра» у стайню, а сам падаўся прэч з вёскі. На світанні поп з сялянамі ўварваўся ў карчму і пачаў абшукваць яе. Знайшлі мяшок з трупам чалавека. Карчмара абвінавацілі, што ён быццам забіў чалавека на «мацу», закавалі ў кайданы і кінулі ў скляпенне Мірскага замка. Калі справа нарэшце высветлілася, злавілі сапраўднага злачынцу, тады карчмара вызвалілі, селяніна высеклі лозамі, а поп, як піша Майман, застаўся папом.

Усе гэтыя і многія іншыя прыклады Саламон Майман падае на шырокім сацыяльным фоне, паказваючы цяжкае становішча працоўных і безклапотнасць, разгул ды свавольства паноў. Адначасова ён апавядае чытачу, як у гэтых умовах фармаваліся яго грамадскія і філасофскія погляды.

Пра станаўленне Саламона Маймана як філосафа, пачынальніка матэматычнай логікі, пра яго змаганне супраць рэлігійнага фанатызму можна прачытаць у кнізе «Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии», якая выдадзена ў Мінску ў 1962 г.

Саламон Майман памёр у 1800 г. у Сілезіі, калі яму было толькі 46 гадоў.





**Валеры ЧАРАПІЦА аўтар кніг «Сувязі рэвалюцыянераў Беларусі і Польшчы ў 70—80 гадох XIX стагодзьдзя» (1985), «Вытокі. З гісторыі руска-беларуска-польскіх рэвалюцыйных і культурных сувязяў XIX — пачатку XX стагодзьдзяў» (1991), шматлікіх артыкулаў па гісторыяграфіі, крыніцазнаўству і гістарычным краязнаўстве Беларусі. Прафэсар. Працуе ў Гродзенскім дзяржаўным унівэрсытэце імя Янкі Купалы.**



**Валеры ЧАРАПІЦА**

## АЎТОГРАФ НА КНІЗЕ

Кнігі з даравальнымі надпісамі аўтараў нельга аднесці да шырокараспаўсюджаных гістарычных крыніц. Але іх значэнне, асабліва ў даследаваннях па гісторыі культуры, крыніцазнаўстве, гістарыяграфіі, метадалогіі і гістарычным краязнаўстве вялікае.

У кожнай такой кнігі свая гісторыя, дзе цікава і тое, пры якіх умовах яна была падаравана, і тое, што папярэднічала гэтаму. Пра яе дакладна вядома, што сам аўтар трымаў яе ў руках. Больш таго, даравальныя надпісы, аўтографы — абавязковае сведчанне сяброўскіх, роднасных, дзелавых адносін.

Сапраўднымі бібліяфіламі заўсёды цаніліся аўтографы вучоных і пісьменнікаў на кнігах. У апошні час цікавасць да іх яшчэ больш узрасла. Сведчанне таму—публікацыі асобных аўтографаў, даследаванні на гэтую тэму. Сапраўднае шчасце, калі лёс «прыбівае» кнігу з аўтографамі да дзяржаўнага кнігасховішча. Тады ёсць надзея, што яна не знікне ў жыццёвай кругаверці і раскажа даследчыку пра свой лёс.

Характар надпісаў-аўтографаў незвычайна разнастайны: надпісы-прывітанні, прызнанні ў сяброўстве, надпісы-успаміны, водгукі якойсьці спрэчкі, філасофскі роздум аўтара, адносіны да людзей, часу, гісторыі. Але ў рэшце рэшт надпіс на кнізе — гэта лаканічны ліст, у якім знайшло сваё адлюстраванне мінулае.

Больш як два дзесяткі кнігаў з аўтографамі беларускіх, рускіх, украінскіх гісторыкаў і краязнаўцаў XIX — пачатку XX стагоддзя выяўлена ў навуковай бібліятэцы Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Я. Купалы, бібліятэцы Беларускага дзяржаўнага гістарычнага архіва ў Гродне і іншых кнігасховішчах.

Шляхі паступлення сюды гэтых кніг самыя розныя: гэта і дары, і набыццё ў насельніцтва, і закупы ў букіністычных крамах, і абмен з іншымі бібліятэкамі. Зразумела, што гэты матэрыял стракаты і разнастайны.

Мы зрабілі спробу прымусіць «загаварыць» аўтографы гісторыкаў С. Ф. Платонава і М. І. Сямеўскага, П. М. Жуковіча і Ф. І. Леантовіча; краязнаўцаў Е. Ф. Арлоўскага, А. П. Давідовіча, Д. М. Мілюціна, этнографа А. Я. Багдановіча і інш. Пры правядзенні даследавання ўзніклі шматлікія пытанні. Як нарадзіўся аўтограф? Што звязвала гаспадара аўтографа і чалавека, які яго атрымаў? Якія былі сустрэчы? Якімі былі матывы дару? Некаторыя аўтографы змаглі расшыфраваць, а некаторыя так і засталіся загадкай. Гэта ў значнай ступені залежала ад наяўнасці такіх крыніц, як лісты, дзённікі, мемуары, перыёдыка, афіцыйнае справаводства.

Першы аўтограф, пра які нам хочацца распавесці, выяўлены ў навуковай бібліятэцы Гродзенскага дзяржуніверсітэта. Так здарылася, што адначасова ён з'яўляецца і апошнім з выяўленых намі на сённяшні аўтографаў. «Свежасць» знаходкі і выкліканы ёю эмацыянальны ўздым — немалаважны і нават стымулюючы фактар у любым даследаванні. Апрача таго, выявілася, што гэты аўтограф і самы старажытны. Калі да ўсяго вышэй згаданага дадаць, што ён мае прамыя адносіны да двух вядомых гісторыкаў Расеі, цесна звязанымі з Беларуссю, то гэтую знаходку сапраўды можна лічыць сенсацыйнай. Радасць адкрыцця ўзмацнялася яшчэ і ад таго, што раней, пры першым аглядзе гэтага выдання з мэтай складання каталогу рускага дарэвалюцыйнага друку, даравальны запіс быў, як кажуць, намі не заўважаны. Але ж пара ўжо і назваць яго.

Размова тут ідзе аб папулярным у свой час гістарычным часопісе «Русская старина» за 1870 год, аб'яднаным у два тамы, які вытрымаў на працягу пяці год тры перавыданні. Апошняе, здзейсненае ў Санкт-Пецярбурзе ў 1875 годзе, вельмі прыгожа выкананае, са скураным карэньчыкам залатога цiснення, ляжыць перада мной. На першым томе, на самым версе тытульнай старонкі, амаль на яе акрайчыку, надпіс: «Сотруднику моему уважаемому Г. И. Студенкину на память Семевский 19 октября 1975 г.».

Хто яны, гаспадар аўтографа і адрасат? Усім, хто хоць раз звяртаўся да матэрыялаў, надрукаваных у часопісе «Русская старина», добра вядомае імя Міхаіла Іванавіча Сямеўскага (1837—1892). У 267 кнігах часопіса, рэдагаваных, каментаваных і выдаваных Сямеўскім, сабрана такое мноства матэрыялаў па гісторыі XVIII і XIX вякоў, што і праз стагоддзе гісторыку-даследчыку цяжка абысціся без гэтага «Жывога, усім даступнага архіва».

Кажучы аб значэнні часопіса, адзін з сучаснікаў Сямеўскага адзначаў: «З часоў з'яўлення «Гісторыі дзяржавы Расійскай» Карамзіна ніякі твор не меў такога распаўсюджвання, не падымаў агульнай зацікаўленасці да ведання свайго мінулага, як «Русская старина»». Яна не толькі знаёміла з тым, што было да нас, але і давала ўрокі для

будучыні, і якія смелыя, выдатныя ўрокі!» Архіў часопіса, сабраны нястомным даследчыкам, ужо заслуга рэдактара перад гістарычнай навукай. Але архіў і часопіс вяршыня жыцця і дзейнасці М. І. Сямеўскага, а ён прыйшоў да яе аўтарам каля 130 прац — гістарычных аповесцяў, нарысаў, артыкулаў, нататкаў.

М. І. Сямеўскага называюць адначасова то пісьменнікам, то гісторыкам, то грамадскім і дзяржаўным дзеячам, то выдаўцом і інш. І з гэтымі характарыстыкамі нельга не пагадзіцца. За свае 55 год жыцця ён дасягнуў значных поспехаў ва ўсіх гэтых галінах, праявіўшы выключную працаздольнасць і ўпартасць у дасягненні мэты.

Міхаіл быў другім дзіцем у сям'і адстаўнога штабс-капітана, надворнага саветніка Івана Ягоравіча Сямеўскага. Па маці родавыя карані будучага вядомага гісторыка паходзяць з Беларусі: Каміла Мацьвееўна Багуцкая, яго маці, была дачкою памешчыка з-пад Мінску. Дзіцячыя і юнацкія гады Міхаіла таксама прайшлі на Беларусі. Да васьмі год ён жыў у сям'і свайго дзядзькі, брата маці, а ў 1845 годзе быў аддадзены на выхаванне полацкаму настаўніку Васілю Малевічу, які пазней прывіў цікавасць да матэматычных поспехаў Соф'і Кавалеўскай. Настаўнік паспрыяў паступленню Міхаіла Сямеўскага ў Полацкі кадзецкі корпус.

Тут будучы гісторык не толькі захапляецца чытаннем гістарычных раманаў Вальтэра Скота, жыццяпісамі знакамітых палкаводцаў і дзяржаўных дзеячаў, але і сам спрабуе пісаць у гістарычным жанры. Збіраючы матэрыялы да «Гісторыі дома Сямеўскіх», ён прасіў бацьку Івана Ягоравіча паведамляць усё, што толькі яму вядома, пра сваіх продкаў і сваякоў, дасылаць дакументы і лісты.

Вось што пісаў сам гісторык аб сваім захапленні: «Айчынную гісторыю я пачаў вывучаць з ранніх гадоў... Мне было 16 год, калі я выступіў на ніве складання нібыта самастойных нарысаў». Першым вопытам, пабачыўшым свет, было даследаванне «Некалькі слоў аб прозвішчы Грыбаедавых», надрукаванае ў 1856 годзе ў часопісе «Москвитянин». Яно з'явілася вынікам паездкі маладога Сямеўскага ў вёску Хмеліты Смаленскай губерніі, дзе служыў упраўляючым яго бацька і цалкам складзена на матэрыялах сямейнага архіва Грыбаедавых.

Пасля паспяховага заканчэння ў 1852 годзе кадзецкага корпуса ў Полацку Сямеўскі працягвае вучобу ў Дваранскім палку ў Пецярбургу. Па заканчэнні ён атрымоўвае чын прапаршчыка і накіроўваецца на службу ў прывілеяваны лейб-гвардыі Паўлаўскі полк. Але захапленне гісторыяй і літаратурай, узніклае яшчэ ў Полацку, узмацнялася, засланяла сабою кар'еру вайскоўца. У гэты час Сямеўскі наведвае заняткі ў літаратурных гуртках прафесароў І. І. Уведзенскага і Г. Я. Благасветлава, блізка пазнаёміўся з драматургам А. Н. Астроўскім, у якасці вольнага слухача наведваў лекцыі С. М. Салаўёва, быў знаёмы з педагогам К. І. Ушынскім. Служба, вучоба, урокі гісторыі і рускай мовы ў пансіёнах і прыватных дамах, рэпетытарства ў кадзецкім корпусе, штодзённы пошук кніг для асабістай бібліятэкі

(кніга для Сямеўскага стала ўсепаглынальным захапленнем) спалучаліся са спробай пяра, стварэннем, першых гістарычна-літаратурных прац.

У 1857 годзе ў «Общезанимательном вестнике» быў апублікаваны артыкул Сямеўскага «Ледзяны дом, блазны і забавы пры двары Анны Іоанаўны 1740 г.», атрымаўшы высокую адзнаку піянера рускага гістарычнага рамана І. І. Лажачнікава. Затым паследавалі гістарычныя аповесці «Елізавета Пятроўна да ўсшэсця свайго на трон», «Аўдоцця Фёдараўна Лапухіна» (1859), «Фрэйліна Гамільтон», «Наталля Фёдараўна Лапухіна» (1860), «Царыца Праскоўя» (1861,) «Шэсць месяцаў з гісторыі XVIII века: нарыс панавання Пятра III» (1867) і многія іншыя. Тыя матэрыялы, якія з цэнзурных меркаванняў не маглі быць надрукаванымі ў Расіі, Сямеўскі ананімна змяшчаў у Вольнай рускай тыпаграфіі А. І. Герцэна. Сярод іх — нататкі па гісторыі дзекабрыстаў, нарысы па гісторыі ваенных пасяленцаў. Гісторык супрацоўнічаў з М. Г. Чарнышэўскім і колам «Современника».

Свае інтарэсы Сямеўскі сканцэнтроўваў, у асноўным, на праблемах рускай гісторыі XVIII стагоддзя. У перыяд «вялікай рэформы» 1861 года, надзей рускага грамадства, зварот да пераўтваральнай дзейнасці Пятра І і яго паслядоўнікаў быў надзвычай актуальны. «Натхненне, з якім я працаваў у архівах, у бібліятэках — гэта ажыўленне было не ў ва мне адным, яно была ва ўсім рускім грамадстве» — пісаў ён аб гэтым часе.

Пазней Сямеўскі сам прызнаваў свае літаратурныя вопыты, за некаторым выключэннем, слабымі і з ім цяжка не пагадзіцца, маючы на ўвазе іх літаратурныя якасці. Што ж да гістарычнай дакументальнай асновы, то тут аўтар здзіўляе нас сваёй дакладнасцю і прыхільнасцю да факту. У сваіх працах Сямеўскі не дае вычарпальнай характарыстыцы таго ці іншага перыяду гісторыі Расіі. Ён як бы высвятляе асобныя эпізоды на вялікім гістарычным палатне, прычым не толькі праз паказ вядомых дзеячоў мінулага, але і тых «мужчын і жанчын магнацкіх і немагнацкіх персон, тыповых прадстаўнікоў тагачаснага грамадства», знаёмства з якімі дазваляла чытачам «выразней уявіць дух і пах таго часу». Менавіта такое бачанне гісторыка дзён мінулых знайшло сваё адлюстраванне ў яго трохтомніку «Нарысы і апавяданні з рускай гісторыі XVIII века», які пабачыў свет у Пецярбурзе ў 1883—1884 гадах.

Пачынаючы з выхаду першага нумара «Русской старины» у 1870 годзе і да апошніх дзён свайго жыцця (1892), яго выдавец нястомна шукаў у правінцыйных і сямейных архівах дакументы для публікацыі ў часопісе.

Сярод актыўных памочнікаў Сямеўскага, трэба лічыць, быў і Г. І. Студзенкін — адзін з супрацоўнікаў гэтага часопіса, які атрымаў, як нам здаецца, аўтограф менавіта за гэта. На жаль, іншай інфармацыі аб ім мы пакуль не маем. Сваёй энергіяй і настойлівасцю рэдактар заахвочваў многіх бывалых людзей, як вайсковых так і цывільных да пісання мемуараў.

Яго альбом «Знаёмыя» (1888) змяшчае ў сабе аўтабіяграфічныя нататкі 850 асоб. Ім надрукаваны нататкі заснавальніка айчыннай аграномічнай навукі А. Т. Болатава, вядомага дыпламата Э. Мініха, генерала Я. П. Шахоўскага, мемуары і лісты дзекабрыстаў.

Цудоўную характарыстыку М. І. Сямеўскаму даў яго сучаснік гісторык Н. К. Шыльдэр (1842—1902): «Ён быў рэдактарам «Русской старины» з пачуццём уласнай годнасці, з якім рэдка носяць самы гучны тытул, самае высокае званне ў службовай іерархіі».

Уважліва знаёмячыся з усімі паметкамі і штампамі на двухтомніку (набыты ён быў у адным з ленінградскіх букіністычных магазінаў за 150 рублёў у 1961 годзе), звярнуў увагу на паметку дробным шрыфтам на апошняй страніцы часопіса. «Адказн. Рэд.-выд. В. Сямеўскі». Яна і з'явілася дадатковай нагодай узгадаць аб Васілю Іванавічу Сямеўскім—малодшым браце галоўнага рэдактара часопіса. Нарадзіўся ён у 1848 годзе ў Полацку Віцебскай губерніі. Там жа скончыў гімназію. Праслухаўшы курс медычна-хірургічнай акадэміі, В. Сямеўскі, дзякуючы ўплыву старэйшага брата, перайшоў на гістарычна-філалагічны факультэт Пецярбургскага універсітэта, які ён скончыў у 1872 годзе. У апошнія гады навучання ва універсітэце ён пачаў дапамагаць брату ў выданні «Русской старины», пра што і сведчыла вышэйпаказаная паметка ў томе за 1870 г. Яшчэ ў студэнцкія гады малодшы Сямеўскі захапляўся народніцкімі ідэямі, што паклала адбітак не толькі на яго грамадска-палітычныя погляды, але і на навуковыя інтарэсы. Гэта паўплывала на тое, што калі яму было прапанавана ў якасці кандыдацкай працы вывучэнне аднаго з летапісаў, В. Сямеўскі ад гэтага адмовіўся, выказаўшы жаданне займацца звесткамі чужаземцаў пра сялянства Расіі XVIII века, бо меў асабісты пункт гледжання на месца апошніх у айчыннай гісторыі.

У 1880 годзе Сямеўскі пачаў друкаваць на старонках вучоных запісак Пецярбургскага універсітэта сваю працу «Сяляне пры панаванні імператрыцы Екацярыны II». Гэта быў вынік яго шматгадовых архіўных пошукаў. Напярэдадні завяршэння публікацыі гісторык надрукаваў у адным з часопісаў поўны тэкст уводзінаў да яе пад назвай «Ці не надыйшоў час напісаць гісторыю сялян у Расіі!». Галоўная думка ўводзінаў (аб прыярытэце сацыяльнага над палітычным у гэтым пытанні) тут гучала зусім па-народніцкаму. Заканчваліся ўводзіны наступнымі словамі аўтара: «Гісторыя рускіх сялянаў ёсць доўг нашай навукі народу».

Параўноўваючы становішча сялянаў у XVIII ст. і ў парэформенныя гады, ён выступае з прамой крытыкай рэформы 1861 года. Усё гэта выклікала негатыўную рэакцыю ўладаў, не дазволіўшых абарону яго дысертацыі. З прычыны «шкоднага кірунку» поглядаў гісторыка ў пачатку 1886 года загадам міністра асветы яму было забаронена чытанне лекцый студэнтам. З гэтай пары далейшая навуковая дзейнасць В. Сямеўскага праходзіла ўжо па-за сценамі Пецярбургскага універсітэта.

Шмат гадоў ён праводзіў заняткі са студэнтамі дома, стаўшы, па-

водле выказвання М. М. Пакроўскага, «дэканам усіх гісторыкаў, якія не належалі ні да аднаго факультэта». У 1888 годзе Сямеўскі надрукаваў, а праз год, у 1889 годзе, абараніў у якасці доктарскай дысертацыі сваю працу «Сялянскае пытанне ў XVIII і першай палове XIX ст.» (т. I—II, Спб, 1888). Пад непасрэдным кіраўніцтвам Сямеўскага і пад уплывам яго прац складалася айчынная школа гісторыкаў сялянства.

У 1898 годзе В. Сямеўскі выдаў адно з першых буйных даследаванняў, прысвечаных гісторыі рабочага класу Расеі — «Рабочыя на сібірскіх залатых промыслах» у двух тамах. У далейшым гісторык сканцэнтраваў свае творчыя намаганні на вывучэнні вызваленчага руху (дзекабрысты, Кірыла-Мефодзеўскае таварыства, петрашэўцы), выкарыстоўваючы пры гэтым шырокія пласты раней не вядомых даследчыкам архіўных матэрыялаў. Сямеўскі быў прыхільнікам апісальнага характару падачы фактаў без спроб шырокіх абагульненняў, разлічваючы на тое, што аб'ектыўнае асвятленне фактаў само прывядзе чытачоў да правільных высноў.

Гісторык не абмяжоўваўся адно вузка навуковай дзейнасцю. Ён наладжваў выданне кніг для народа і праграм чытання для самаадукацыі, выступаў з публічнымі лекцыямі, удзельнічаў у пратэстах пецярбургскай інтэлігенцыі супраць рэпрэсій самаўладства. У 1905 годзе ён узначаліў камітэт па аказанні дапамогі вызваленым вязням Шлісельбурга, быў членам Камітэта па аказанні дапамогі палітычным ссыльным. З 1906 года Сямеўскі ўваходзіў у склад ЦК партыі народных сацыялістаў. Апошнія гады жыцця гісторык прысвяціў часопісу «Голос минувшего», адным з заснавальнікаў і рэдактарам якога ён быў. Працуючы ў ім, даследчык імкнуўся быць падобным да свайго старэйшага брата ў служэнні гістарычнай навуцы, папулярызацыі ведаў аб мінулым сваёй краіны. Памёр В. І. Сямеўскі ў 1916 годзе ў Петраградзе.

Пасля апавядання аб аўтары аўтографа, яго малодшым браце — выдаўцах «Русской старины», было б незразумелым, калі б мы не спыніліся на змесце гэтага часопіса за 1879 год. Адразу ж зазначым, што ў ім усё цікава ад першай да апошняй старонкі. І ўсё ж з асаблівай увагай чытаеш пра гісторыю Беларусі. І звязана гэта з тым, што доўгі час сам факт звароту да дасавецкай перыёдыкі, як да крыніцы, лічыўся ў навуковых колах ледзьве не адмоўным. У выніку такога падыходу гістарычныя працы таго часу пры ўсёй іх аб'ёмнасці і прэтэнзіях на сталасць у назвах, тытулах аўтараў і г. д. былі павярхоўнымі, схематычнымі, а галоўнае — без аб'ектыўнасці і праўды. Сёння шмат пішуць і спрачаюцца аб уніяцтве, яго месцы ў гістарычным жыцці беларусаў. Аднак, пры гэтым ніхто не хоча спасылацца на першакрыніцы, да ліку якіх, без сумнення, адносіцца змешчаная на старонках часопіса даволі грунтоўная запіска Восіпа Семашкі, пазней мітрапаліта Літоўскага, пра скасаванне грэка-уніяцкіх манастыроў на Беларусі ад 28 лютага 1828 года. У ёй не толькі падрабязна гаворыцца аб гісторыі уніяцтва, адносінах да яго з боку ўлад Польшчы і Расіі, але і самых вернікаў, прыводзіцца

змястоўны статыстычны матэрыял, які датычыць практычна ўсіх больш-менш значных рэлігійных цэнтраў Беларусі.

Шмат цікавай інфармацыі па гісторыі Гродна можна ўзяць сучаснаму даследчыку з перапіскі польскага караля Станіслава-Аўгуста Панятоўскага з рускім дзяржаўным дзеячам П. А. Валуевым.

Ва ўспамінах генерал-лейтэнанта Ф. І. Фелькнера, дзекабрыста М. А. Бястужава, прысвечаных паўстанню 1825 года, ёсць свежыя факты, якія маюць дачыненне да дзейнасці «лепшых з дваран на Гродзеншчыне, і ў прыватнасці — К. Г. Ігельстрома».

І ўсёж самай цікавай, на наш погляд, можна лічыць інфармацыю у эпісталярнай спадчыне М. І. Кутузава, часткова змешчанай у часопісе «Русская старина». Лідскіх краязнаўцаў безумоўна зацікавяць фрагменты з ліста імператара Паўла да вядомага ўжо тады палкаводца: «Генерал ад інфантэрыі Галянішчаў-Кутузаў. Знойдзены ў горадзе Лідзе пашквіль, нібыта ад імя Касцюшкі, узбуджаючы палякаў да вайсковых прыгатаванняў, загадваю Вам спаліць пад шыбяніцай, а складальніка яго шляхціча Крушынскага, перадаўшы суду, па законам, на выпадкі гэтыя пастаўленным, сентэнцыю гэтага выканаць па ўсёй строгасці, так жа пад шыбяніцай і, пасля пакарання, саслаць у Нерчынск, у работу. Застаюся да Вас прыхільны «Павел». Жніўня 3-га дня 1800 г. Гатчына». У лістах да Кутузава Франца ёсць і іншыя цікавыя сюжэты, што датычаць Вільні, Полацка, Оршы, Нясвіжа.

Вядома, што ўзаемаадносіны Кутузава і Аляксандра І былі надзвычай складанымі на працягу доўгага часу, а таму нельга без здзіўлення чытаць ліст апошняга да палкаводца на завяршальным этапе вайны 1812 года: «Князь Міхаіл Ларывонавіч! Заўтра я прыбуду ў Вільну ў вечар. Я жадаю, каб ніякай сустрэчы мне не было. Зіма, стомленасць войска і ўласная мая вопратка, ехаўшы ноч і дзень у адкрытым вазку робяць яе для ўсіх вельмі цяжкай. З нецярпеннем чакаю я спаткання з Вамі, каб выказаць Вам асабіста, як новыя заслугі, аказаныя Вамі бацькаўшчыне і, можна дадаць, Еўропе цэлай, узмацнілі ў мяне павагу, якую заўсёды да Вас меў. Застаюся заўсёды да вас дабразычлівым «Аляксандр». Полацк. Панядзелак, 9-га снежня 1812 г.».

Не менш цікавым можна лічыць лісты самаго Кутузава да сваёй жонкі Екацярыны Ільінічны з 1799 па 1801 год. Яны — пераканаўчае сведчанне даволі доўгага знаходжання палкаводца ў Гродне. Трэба дадаць, што гэты факт ні ў адзінай з надрукаваных крыніц, на наш погляд, не называўся. Перадгісторыя яго наступная.

У кастрычніку 1799 года Кутузаў атрымаў асобае прызначэнне стаць на чале часткі рускага войска, што знаходзілася ў Галандыі. У сувязі з гэтым ён выехаў за мяжу, але ў Гамбургу атрымаў звесткі аб заканчэнні гэтай кампаніі. 23 кастрычніка імператар Павел загадаў яму перавесці рускае войска з Галандыі ў Англію, але ўжо 26 кастрычніка Кутузаў быў адкліканы ў Расію з прызначэннем на пасаду

генерал-губернатара Літвы. У сваім лісце з Гамбурга Кутузаў, у прыватнасці, пісаў: «Я думаю, заўтра, калі карэта, якая ў рамонце, будзе зроблена, выехаць, і ехаць прама ў Гродна. Вельмі не хочацца жыць у Гродне, дзе думаю, таксама сумна, як і ў Выбурхе (Выбаргу, — В. Ч.). А добра б у Вільню...». Першы ліст Кутузава да жонкі ужо з Гародні быў датаваны 31 снежня 1799 года, як вынікае з яго зместу, сумаваць яму тут не прышлося праз мноства папер, што ішлі на яго імя ўжо ў якасці літоўскага генерал-губернатара. У другім лісце ад 14 студзеня 1800 года, разам з размовамі аб пенсіі, сямейных справах, аб перамяшчэннях агульных знаёмых па службе, усё тыя скаргі: «Я яшчэ ў Гродне, але хутка збіраюся ехаць у Вільню... Не ведаю, як я буду са сваімі вачамі? Папер шмат...».

У наступным лісце ўжо з Вільні ад 23 студзеня 1800 года ён паведамляе: «Я дні тры як прыехаў у Вільню, дзе знайшоў амаль увесь горад у грыпе, і сам адразу кепска стаў пачувацца... Тут жыць надзвычай дорага, думаю ад таго, што горад шматлюдны, ды і шмат тут войска». Апошняя звестка дазваляе нам зрабіць выснову, што М. І. Кутузаў знаходзіўся ў нашым горадзе над Нёманам каля дваццаці дзён. Чым, акрамя разбору службовых папер, былі яны напоўнены, з кім з мясцовых жыхароў ён сустракаўся, дзе жыў? Але ж усё гэта сюжэты для наступнага даследавання.

Даўно ўжо няма ў жывых Міхаіла Іванавіча Сямеўскага — аўтара аўтографа, які мы выбралі для свайго апавядання, але зроблены ім надпіс захоўвае прыкметы часу, падзей, і гэта дае магчымасць прачытаць значна больш, чым заключана ў самім надпісе.







Юры ГУМЯНЮК — паэт, празаік, публіцыст. Студэнт V курса паланістыкі Гродзенскага дзяржуніверсытэту імя Янкі Купалы. Друкаваўся ў «Маладосьці», «ЛіМе», альманаху «Дзень паэзіі» ды іншых выданьнях. Выдаў зборнік вершаў «Водар цела» (1992). Сябра Таварыства Вольных Літаратараў.



Юры ГУМЯНЮК

## РЭТРАСПЭКТЫВА

### ПІЗАНСКАЯ ВЕЖА

Ты нахіліўся
быццам Пізанская вежа.
Сон не забыўся,
сон адышоў у бязьмежжа.

Хтосьці прысьніўся
белы, падманліва-сьнежны.
Лён нахіліўся
быццам Пізанская вежа.

Верш нарадзіўся
і да паэта належыць.
П'яны паэт нахіліўся,
быццам Пізанская вежа.

1988

### ШПАЦЫР

Кроў блакітная струменіць...
Вусны чорныя маўчаць...
Нарадзіцца ў Бэтлееме,
у Гародні — спачываць.

Ноччу крочыць па бульвары,
вымаўляць: «Ёсць лічба 3»
І нэйлёнавыя чары
напускаць на ліхтары.

Каб забыцца на хвіліну,
на падлозе адпачыць
ды містычную жанчыну
да мастацтва далучыць...

29 сьнежня 1991

## НОВЫ БАБІЛЁН

Чаргаванне гукаў ночы,
бы сапраўдны Бабілён.
Чорны дэман. Вочы ў вочы.
Экзатычны смак. Праклён.

Чаргаваньне пацалункаў,
нібы моцны алкаголь.
Чырвань. Бель. Дражаньне струнаў.
Змрочным люстрам зьзяе столь.

Чаргаваньне ценяў. Божа!
З двух гішпанскіх дываноў
утварыўся шлюбны ложак
для каханкі і паноў.

Чаргаваньне цел зьдзіўляе.
Малако і чэкаляд.
Ажно подых захапляе
ад няўцямных слоў-рулад.

Толькі сьпеў з магнітафона.
прыглушае оргій гук,
тут нябачныя заслоны,
як павуту тчэ павук.

Васьмілапы створ ня збочыць.
Для яго паўзмрок — закон.
І «крыжак» пад гукі ночы
адбудуе Бабілён.

22—23 ліпеня 1992 г.

## ПРЫЗНАЧЭННЕ

Нас ня сустрэнуць ніколі нябёсы.
Мы пацячэм з вышыні шэрых гмахаў
цалкам жывыя, сьветлавалосыя,
белыя вязьні нязвыклага страху.

Быццам дажджынкі ў калюжынах нафты
створым дзяржаву сапраўдных каханкаў.
Хай пазайздросцяць нам Хлоя і Дафніс,
Нават сьпірытус у бацькавай шклянцы.

Нас не заўважаць сівыя пачвары,
мы абмінём па чарзе габінэты,
каб павыцягваць мільёны сакрэтаў,
у неба даслаць запаветныя мары.

*вясна—лета 1992 г.*

## ГРУКАТ СЭРЦА

Біямаса сплывае па сходах павольна,
паміж стэндаў чорна-бела-чырвоных...
Раздражняе рэцэптары супэрэкляма...
Мэталёвыя шыбы ды штучны мармур

аздабляюць фірмовыя крамы, канторы...
Дынамічная музыка грукае звонку...
Вось і ты сярод замкаў і хмарачосаў...
Вось нарэшце сапраўдная вольнасць прыйшла!







**Андрэй ПЯТКЕВІЧ быў нонканфармістам яшчэ тады, калі гэта ня было модным, але больш істотна тое, што заўсёды заставаўся паэтам. Яго паэзыі адпавядае і лад жыцьця. Зараз Андрэй «зачыніўся» у родным вёсачцы Уселюб, што на Наваградчыне, і плённа працуе.**



**Андрэй ПЯТКЕВІЧ**

* * *

Я пайшоў блізкі сьвет,
Куды й сам не дайду,
Аб'яднаўшы навек
Радасьць, боль і журбу.

Я ў маўчаньні дарог
Паміж хваляў быцьця,
І зьнікае ў вачох
Прамяністы прасьцяг.

У мой лес, поўны сьлёз,
Я ад зброду уцёк.
Выпадкова свой лёс
Я на крыж не ўзвалок.

«Адыходзячы — йдзі», —
Вось выснова мая.
А ўздагон хай ляціць
Чутак злая зьмяя.

І, пакінуўшы тлум,
Толькі мары ў руках,
Да Таемнага йду —
Гэта зь цемры мой шлях.

* * *

Госьці — у хаце, госьці,
Бутэлька стаіць на стале,
Размовы, роспыты, тосты,
Ды нешта цяпла не стае.

Людзі такія чужыя.
(Хто і навошта прыйшоў?)
Завея за сьценамі вые,
А ў хаце — сумёты слоў.

І вось — згвалтаваны вечар
Пайшоў у зімовую сінь.
Госьці ня будуць вечна.
Ты іх павіншуй і пакінь.

* * *

Ластаўку прашпілі
Да тэлеграфнага дроту —
Хай вартуе палі,
Што дымяцца ад поту.

Вераб'я пасадзі
На ланцуг на сабачы —
Хай ля будкі сядзіць,
На падворку хай скача.

Бусьлянё прынясі
Ў апусьцелую хату,
Каб давёў, папрасі,
Усю хату да ладу.

* * *

Змрочна у лесе вечарам.
Птушкі чагось заенчылі.
Дрэвы скрыпяць зубамі.
Сталі кусты ваўкамі.
Сьвецяцца вочы нечыя:
Змрочна у лесе вечарам.

* * *

Я п'ю маленькімі глыткамі
Шчымлівай роспачы віно.
І ўжо ня цешуся гадамі —
Усе яны пайшлі на дно.

Душа нямее ў адзіноце,
Шукае выйсьця, ды няма,
Адно ў імклівым карагодзе
Танцуе страшная зіма.

Заснула памяць пад сьлядамі
І сьцежкі ў хвалях ня відно.
Я п'ю маленькімі глыткамі
Атрутнай роспачы віно.

* * *

Сонечны час.
   Навакольле.
Ўжо не для нас
   Гэта воля.

Шум тапалёў.
   У тумане.
Мора шляхоў,
   Нас падмане.

Зьніклі усе
   Перамогі.
Думка нясе
   Аж да Бога.

* * *

Дарога, пакрытая сьнегам,
Бяжыць у сьляпое нішто,
Па гэтай дарозе паехаў.
Калісьці, кудысьці, нашто?

Дарога, пакрытая пылам,
Далёка ад злосных сьлядоў.
Там птушак застрэленых крылы
І зяпы зялёных катоў.

Дарога, дарога, дарога...
Бясконцай таемнасьці знак.
Спынюся, нарэшце, ля стога —
Дарогу малюе мастак.







Сяргей ДРОЗД працуе настаўнікам беларускае мовы і літаратуры. Друкуецца з 1956 года. Аўтар артыкулаў па гісторыі беларускае літаратуры, краязнаўстве, этнаграфіі, беларуска-польскіх літаратурных узаемасувязях.



Сяргей ДРОЗД

# НАЗЫВАЦЦА ВЫСОКІМ ІМЕМ ЧАЛАВЕКА, АБО ЭСТЭТЫЧНЫЯ КАНТАКТЫ АДАМА МІЦКЕВІЧА І ЯНКІ КУПАЛЫ

«Край паэтаў» — так натхнёна і замілавана называюць нашу Беларусь ,маючы на ўвазе не толькі шматфарбную палітру паэтычных галасоў. Сэнс гэтай метафарычнай назвы ў тым, што з аднаго гняздоўя шырокаму свету неяк загадкава адкрыліся дзве геніяльныя постаці, два найвялікшыя паэты-рамантыкі — Адам Міцкевіч і Янка Купала.

Напэўна так ужо наканавана лёсам, што Міцкевіч і Купала — сыны адной зямелькі, якая завецца Навагрудска-Радашковіцкім памежжам. Адзін нарадзіўся ў Завоссі, у сям'і збяднелага шляхціца-адваката, другі — у Вязынцы, у беззямельнага арандатара Луцэвіча Дамініка.

Тут звернем увагу на адзін істотны момант. Спакон вякоў продкі нашы мелі здольнасць прадказваць з'яўленне на свет вялікіх людзей, аздабляючы гэты момант вэлюмам легендарнасці, нейкім казачным арэолам. Так было і ў гэтыя разы... Калядная куцця, вігілія, якая прыпадае на самую доўгую снежаньскую ноч (24 дня), вітала народзіны Міцкевіча. Як сведчаць паданні, менавіта ў гэтую ноч у хляве гаспадара сядзібы, Мікалая, адбыўся незвычайны цуд: на мяккім падсціле хатняя жывёліна раптам загаварыла чалавечым голасам. Прарочылі, што на небе запалілася зорка вялікага чалавека. Бацькі нараклі яго імёнамі: Адамам і Бернардам, народным і кніжным.

На дзіва загадкавым былі народзіны Купалы, голас якога ажывіў цішу самай кароткай чэрвеньскай ночы (22 дня), калі зацвітае кветка

людскога шчасця, лясная папараць. І ліліся песенныя гукі «Ой, рана на Йвана». Такім чынам, каляндар сонцастаяння замкнуўся. Але што гэта? На жаль, чалавек вельмі мала пранік у таямніцы прыроды. Адно бездакорна, што ўсемагутная прырода мудра і па-свойму арыгінальна закадавала пачаткі быцця гэтых неардынарных земляў. Нам здаецца, маўляў, у шматлучнай повязі незямной цывілізацыі запісаны феномен духу нашага народа. Растлумачыць яго дапамогуць касмалогія, астралогія і інш. навукі. Наш погляд — эмпірычны.

Як сведчаць хранікальныя звесткі іх радаводаў, на будучых паэтаў велізарны ўплыў мела хатняе выхаванне, яго шляхетны стыль. Культ кнігі, народныя казкі, навакольная прырода, крыніцы і пушчы, Вілля і Нёман — усё мела дачыненне да фармавання іх характару, іх этнагенезу. Як кажуць, Бог не паскупіўся, абодвум даў вялікі розум, вонкавую прыгажосць і талент. Надзяліў песенным дарам, тонкім музычным слыхам (Міцкевіч ахвотна граў на друмлі, Купала — на жалейцы і скрыпцы). Але ці былі шчаслівымі МАЭСТРЫ? Адказ у іх кнігах.

Нас жа няволіць думка, што нейкая магічная сіла кіравала іх лёсамі, жыццём і творчасцю. Вось іх фінал, горкі, трагічны. Міцкевіч, сілком адарваны ад радзімы, заўчасна памёр на турэччыне ад халеры пры грамнічнай свечцы (па першай версіі — атруты). Купалу знішчылі ў гасцініцы «Масква» трое, сярод якіх была яна, забойца-чэкістка ў спадніцы. І што цікава, нават сімвалічна, Міцкевіч і Купала знішчаны ў той самы час, у той самы тыдзень, як і нарадзіліся.

Падкрэслім, сказанае вышэй мае сэнс біяграфічных паралеляў. Галоўнае, аднак, у тым, што беларуская зямля дала свету двух геніяў — Міцкевіча і Купалу. І першым Міцкевіч у пачатку XIX ст. прароча вітаў свайго, тады яшчэ невядомага пабраціма, марачы адчуць імгненне ўцехі, калі вершы яго дойдуць пад сялянскія стрэхі і іх заспяваюць сялянкі, бо ў багатых салонах яго паэзію адмовілі, не прынялі. І вось гэты другі як эстафету прыняў мару свайго земляка, працягнуў руку вітання на пачатку XX стагоддзя. Быў ім не хто іншы, як Янка Купала.

Значыць, мы падыйшлі да першаснага падагульнення, што дзве эпохі далі чалавецтву двух паэтаў, адкрылі дзве новыя рамантычныя плыні ў польскай і беларускай літаратурах і што гэтыя плыні пульсуюць з аднаго гістарычнага мацерыка літаратуры — Навагрудска-Радашковіцкага Парнаса.

Купала — адзін з найбольш яркіх паслядоўнікаў Міцкевічавых традыцый.

Сёння мы з поўнымі падставамі кажам, што Міцкевіч і Купала — узор беларуска-польскіх літаратурных узаемасувязяў, этычна найчысцейшых, палітычна найбольш станоўчых і дасканалых. Купала любіў польскую літаратуру, аддаваў ёй перавагу ў параўнанні з літаратурамі іншымі, бо знаходзіў у яе змесце тое, што шукаў — ідэю свабоды і дзяржаўнае незалежнасці. Купала прайшоў багатую літа-

ратурную школу. З польскага боку — гэта паэзія Міцкевіча, Славацкага, Сыракомлі, Канапніцкае, Пілецкае, Бранеўскага, Яскулкі, Каспяровіча, а таксама гістарычныя раманы Крашэўскага. Ён жадаў, каб творы польскіх аўтараў загучалі на мове беларусаў. Такім чынам, адначасова з Купалам-паэтам рос і развіваўся Купала-перакладчык. Праз месяц пасля апублікавання ў расейскай газеце «Сев.-Зап. край» (1905) верша «Мужык» ён пераклаў баладу Міцкевіча «Тры Будрысы», у якой стары ваяр дае парады сыном кажучы:

Wyście krzepcy i zdrowi, jedźcie służyć krajowi,
Niech Litewskie prowadzą was bogi;
Tego roku nie jadę, lecz jadącym dam radę,
Trzej jesteście i macie trzy drogi.

Тонка разумеючы арыгінал, Купала кваліфікавана перадаў рытмічны склад балады, асобныя дэталі ўзгадніў з духам беларускай паэтыкі, асаблівасцямі лексікі. У выніку дасканалы эквівалент:

Дзяцюкі, вы не зломкі,
Для радзімай старонкі
На вайне пашукайце ўспамогі —
Не йду сёлета з вамі, — знаю — трапіце самі;
Трох вас ёсць і тры ёсць вам дарогі.

Пушкін таксама перакладаў баладу на рускую мову. Параўноўваючы тэксты, можна ганарыцца высокім узроўнем купалаўскае працы і тым, што Міцкевіч меў годных пабрацімаў па пяру. Але прачытаем яшчэ раз радок: Wyście krzepcy i zdrowi, jedźcie służyć krajowi.

У Пушкіна: Люди вы молодые, силачи удалые.

У Купалы: Дзецюкі, вы не зломкі, для радзімай старонкі.

Чаму Купала не пайшоў за Пушкіным і слова «людзі» пераклаў «дзецюкі». Адкуль яны? Гэта найярчэйшы адэкват моцных, здаровых асілкаў. На Беларусі яны маюць больш трапныя найменні — волаты і дзецюкі (успомнім Каліноўскага). Гэта важная прыкмета павагі нашых продкаў да гармоніі цела і духу, фізічнага і інтэлектуальнага пачаткаў у чалавеку. Купалаўскі вобраз дыхае гэтаю традыцыяй.

Чаго дачакаўся Будрыс ад паходаў? Ні золата, ні бурштыну, ні собаляў, ні лісаў, а трох прыгажунь-нявестак. Балада прываблівае яшчэ і тым, што знешнім заваёўніцкім памкненням супрацьпастаўлена ідэя мірнага суіснавання нашых суайчыннікаў.

Дзівосная гармонія дасягнута ў перакладзе «Пан Твардоўскі».

П'юць, ядуць і люлькі смаляць,
Таўкатня вакол, сваволя,
Ледзь карчмы той не разваляць
Хі-хі, ха-ха, Гэй жа, го-ля.

Трэба ўлічваць, што Купала ведаў польскую мову, пісаў нават вершы («Беларус», «Беспрытульнік», «Восенню», «Зямля» і інш.). Некаторыя дасылаў у часопісы «Зярно», «Ютшэнко» і газету «Свёнтэчна». Яго эстэтычныя густы ў пэўнай меры закладзены ў псеўданімах,

якімі ён паслугоўваўся: Ка., Янук Купала, «І. Л.», Левы, Вайдэлота, Марка Бяздольны, але самым дасканалым у выражэнні мастацкіх ідэалаў — Янка Купала.

Купала ўвесь час быў у пошуках. Адзін верш «Страх» ён падпісаў псеўданімам Вайдэлота. У Міцкевіча — гэта народны спявак, бард, выканаўца патрыятычных песень («Конрад Валенрод»). Але ў Купалы перавагу ўзялі гусляры, песняры, лірнікі, якія сугучны Арфею, Садко, Баяну, Кабзару. Аўтар зборніка «Гусляр» нават адмовіўся ад назвы паэт («Я не паэта»). Гэта быў важны крок у эвалюцыі яго дэмакратычных поглядаў.

Візітная картка паэта — яго стыль. Творы Міцкевіча маюць адну вельмі істотную афарбоўку ў вобразным слове ТРЫ.

Справа ў тым, што ТРЫ ўладарна прысутнічае ў вобразе, дэталі, з'яве, сітуацыі, нават у дзеянні — усё быццам горнецца пад максікупал, апавіты трагічнасцю. Тры і трагічнасць уплываюць на атмасферу, фармуюць мастацкую задачу:

«Тры ў Будрыса сыны, як і ён тры Літвіны»;
«на тры староны света тры задуманы ў Вільні
паходы...»; «Трое вас і тры вам дарогі» («Тры Будрысы»)
«Тройчы гаркнуў, тройчы свіснуў...» («Тукай»)
«І цвікоў у тры дзюймы ў кожнае зерне загані».
(«Пан Твардоўскі»).

Мноства стылёвых варыяцый адкрывае траічнасць. Напрыклад, у «Гражыне» напружанасць маральнага і фізічнага стану героя («Тры дні і тры ночы я не спаў у дарозе»). Або раскручванне сюжэтнай спіралі («На двух конях яны ляцяць траіх»), ці пракляцце немцу («Хай згіне тройчы Дзітрых фон Кніпродзе»). У «Аглядзе войск» Адам усклікае «Дай, Апалон, мне вусны ста Гамэраў, дай «языкоў» парыжскіх тройчы сто». Таксама ў «Дзядох» вакол восі ТРЫ згрупаваны шэраг фантастычных праяў («Тут тры свечкі гараць», «Тры разы Багародзіцу прачытаць», «Трэці раз пятух пяе») і інш. Якія прычыны выклікалі ў Міцкевіча прыхільнасць да лічбавых асацыяцый траічнасці? Можна назваць некалькі. Па-першае, моцным уплывам традыцый хрысціянскіх этычных звычак, якіх прытрымлівалася насельніцтва. Па-другое, трыяда містычных вытокаў, успрынятых ад продкаў, узмацнялася палітычнымі праблемамі. Тры падзелы Польшчы, тры манархі, тры варожыя сілы, што 100 год спустошвалі край, — усё фармавала належны стэрэатып мыслення і нараджала адпаведныя сімвалы і вобразы.

На багатым досведзе Міцкевіча Купала будаваў уласную мастацкую лабараторыю. Аднак у яго творах не знаходзім падобных аналагаў, калі не лічыць верша «Былі ў бацькі тры сыны», адной рысы ў паэме «У піліпаўку» («Збегла па гэтым дзён нешта са тры, тры дні, а шмат дажазалі») і верша «Тры выпіўцы», дзе мужык-бедалага ў Мінск цягне каменні («возік каменняў — тры злоты ўжо ёсць»). Затое ў рамантычнай палітры Купалы функцыю сцяжэння выконвае слова «чатыры» («Чатыры крыжы», «Ваякі», «Зоркі»). Вобраз «ча-

тыры» сумарна агортвае і сімвал і рэальнасць як адну з стылеўтваральных асаблівасцяў:

Ночкай як толькі выходзіў я з хаты,
Зоркі на небе страчаў я чатыры. («Зоркі»)

На фоне «чатырох старон света», «чатырох пор года» фармуецца стылёвае адзінства будзёнага і фантастычнага («Адвечная песня»).

Параўнальны аналіз дае магчымасць зрабіць выснову — інтэгроўным зернем у стылі Міцкевіча выступаюць тры і траічнасць. У купалаўскай манеры пісьма не заўважаецца такога масаванага ўжывання гэтай стылёвай адзінкі, хаця прыёмам паэт валодаў.

Песенныя матывы — самыя моцныя ў паэзіі беларускага творцы («Песня званара», «Песня сонцу», «Песня вольнага чалавека» і інш.). Нават цэлыя зборнікі аздоблены песеннай чысцінёю — «Жалейка», «Гусляр». А сама папулярным спеваком у Купалы стаў лірычны выканаўца Лявон («На папасе»). Яго рэфрэн «жыў на свеце Лявон» папарна зрыфмаваны са словамі Лявон — ён, Лявон — старон, Лявон — клён. Як на струне, на гарызантальнай восі нанізаны гукавы рад на «ОН». Гэтым прыёмам рэзанансу паэт узмацніў песні, іх гукавую напоўненасць.

У чым заслуга Міцкевіча і Купалы перад нашым часам і этнічнымі нашчадкамі краю? Напэўна найкаштоўнейшым у іх несмяротным досведзе з'яўляецца тое, што яны свята выконвалі свой патрыятычны і грамадзянскі абавязак у служэнні народу і Бацькаўшчыне. Гістарычны тапонім «Літва, мая Айчына...» (Белая Русь) бачыўся ім двояка: і як матчына ласка, і як ахвяра, распятая на крыжы. Палякі пакутавалі ў няволі 100 гадоў, беларусы — у тры разы больш. Палякі адваявалі сваю дзяржаўную незалежнасць і нацыянальную мову, беларусы — не. Вось чаму такія паняцці, як незалежнасць, непадлегласць, адраджэнне прама ўплывалі на іх погляды і творчасць. Да гонару нашчадкаў, ідэя «за нашу і вашу свабоду» сфармавалася ў Міцкевіча як рэгіянальная праграма яднання сіл, але хутка выйшла на ўзровень еўрапейскі і ўдала ўпісалася ў агульначалавечы кантэкст свабод і правоў чалавека. Ён паспяхова яе рэалізоўваў у газеце «Трыбуна народаў» у Парыжы, Купала — у «Нашай ніве» у Вільні.

Навагрудскае ўзвышша — гэта сімвалічны п'едэстал разняволення чалавечага духу. Тут Міцкевіч і Купала здзейснілі неверагоднае — адкрылі дыялог зямлянаў з небам, чалавека з Богам. Напрыклад, Міцкевіч вуснамі лірычнага героя Конрада прарываецца ў таямніцы касмічнай сферы, да неба і яго ўладара — Бога. Паэт назваў гэты парыў «імправізацыяй».

На пачатку XX стагоддзя голас Міцкевіча загучаў з новай сілаю, але вуснамі Купалы: «Вярні нам Бацькаўшчыну, Божа, калі ты цар неба і зямлі» («Цару неба і зямлі»). Гэта не багаборства, а высокі акт творчага натхнення, яго кульмінацыя. Такому тэматычнаму накірунку адпавядае філасофская канцэпцыя: зямное зло не знойдзе прытулку у вышынях нябёсаў.

Многае з таго, што здзяйсняў польскі паэт у XIX ст., актуальна сёння. Ён прадбачыў, што будзе з мовай беларусаў праз колькі пакаленняў, і як сапраўдны гуманіст стаў на яе абарону. Гэта Міцкевіч у Парыжы падняўся на прафесарскую трыбуну і сказаў адукаванай Еўропе, які народ жыве ў міжрэччы Прыпяці і Буга, Нёмана і Віліі, на якой мове ён гаворыць. Сказаў цёпла, зацікаўлена, як аб мове «найбагатшай і найчысцейшай, якая была калісьці мовай двара і канцэлярыі вялікіх князёў Літвы» (А. Міцкевіч. Д., 1955, т. X, с. 106). Гэта яго фундаментальны ўклад у сучаснае беларускае адраджэнне, гэта гаёчае лякарства ад эпідэміі нігілізму і манкуртства.

Раней нас Міцкевіч адчуваў шкоднасць русіфікацыі, германізацыі; паланізацыі, разумеў з'явы гэтыя, як шавіністычны чад, які з'яўляецца ў пэўныя перыяды гісторыі. Праўда, менш кранула мову рускую (франкаманія), больш мову польскую (германізацыя, русіфікацыя), а найбольш — беларускую. Сучасная фаза русіфікацыі зруйнавала яе ўшчэнт, што аж свет жахнуўся. Генафонду беларускай нацыі пагражае небяспека. Згодна апошняму перапісу насельніцтва, 29,1 % не прызналі роднай мову сваёй нацыянальнасці. Беларускія адрачэнцы ад мовы продкаў апярэдзілі ўсе рэспублікі былога СССР і выйшлі на першае месца.

На жаль, з'явы, калі палітычны экстрэмізм дзяржаў мацнейшых імкнецца навязаць сваю мову народам слабейшым, вельмі жывучы. Чаго варты канкрэтны факт, калі Польшча, адваяваўшы сваю непадлегласць, раптам адчула ўплыў чужаземшчыны: жыхары Верхняй Сілезіі ахвотней запісвалі дзяцей у нямецкія школы, чым у польскія. Гэта адбылося ў 1926 годзе, і Купала быў сведкам прыкрага моўнага парадоксу, пра які паведамлялі газеты, у тым ліку «Газета Варшавска поранна» нумар 210. «Сёлетні запіс дзяцей у школу, — пісала яна, — стаўся прагудзеўшым на ўсю Польшчу скандалам». Беларуская прэса, у прыватнасці «Народная справа» нумар 6 за 1926 год, адгукнулася сенсацыйным на той час артыкулам — «Палякі ўцякаюць з польскіх школ». Добра, што высокі польскі патрыятызм параўнальна лёгка пераадолеў нацыянальную хваравітасць. Як? Прачытаем папулярныя словы з верша «Рота» М. Канапніцкай:

Nie vzucim ziemi, skąd nasz vód,
Nie damy rogrześć mowy!
Polski my naród, polski lud.
Nie będzie Niemiec plut nam w twarz
Ni dzieci nam germanit.

І ўсё-такі нас турбуе праблема, што агульнага і рознага ў эстэтыцы Міцкевіча і Купалы? Найважнейшае, бадай, заключаецца ў тым, што польскі паэт на старонках сваіх «Дзядоў» даў літаратурнае жыццё вобразу простага беларуса, хлопа. Нягледзячы на тое, што хлоп пазбаўлены ўласнага імя, ён становіцца сапраўдным аб'ектам мастацтва. Услед за Міцкевічам беларускі хлоп як традыцыя прагрэсіў-

ная і перспектыўная загаворыць у асобе кемлівага Тараса з ананімнай паэмы «Тарас на Парнасе», у «Мужыцкай праўдзе» Каліноўскага, у творах Дуніна-Марцінкевіча, Лучыны, Багушэвіча. Нарэшце, у творах Купалы зерне, кінутае ў дзядоўскую зямлю Міцкевічам, узбуйнее. Эвалюцыйна праз дзесяцігоддзі прыгонны хлоп вырасце ў купалаўскага мужыка (хлоп—селянін—мужык).

Належыць мець на ўвазе, што хлоп—селянін—мужык у літаратуразнаўстве найчасцей атаесамліваецца з вобразам селяніна, што не адпавядае гістарычнай даставернасці. Маючы сацыяльна аднолькавы корань паходжання — сялянскі, іх стасункі да форм уласнасці і сродкаў вытворчасці розныя. Селянін — гэта земляроб, рольнік, вясковец з уласнай зямлёй, забудовамі, жывёлінай, самастойны гаспадар. Хлоп — гэта жабрак, беспрытульнік, раб, часткова селянін з зямлёй і хатай або без іх. Мужык — гэта пазнейшая сацыяльная з'ява ў параўнанні з хлопам (беззямельнік, парабак, найміт, хам, часова — сезонны арандатар, вясковы люмпен-пралетар). Такім чынам, розныя этапы гістарычнага развіцця грамадства спарадзілі неаднолькавых тыпаў з уласцівым для кожнага сацыяльным і псіхалагічным абліччам.

Так, у сцэне суда («Дзяды») хлоп пададзены ў ролі высахлае цені, прывіда. Праз міласціну, якую выпрошвае хлоп, паэт імкнецца маральна ўздзейнічаць на панскую лютасць і неміласэрнасць. Усе сімпатыі Міцкевіча на баку беларускага хлопа. І ў гэтым, бяспрэчна, вялікая заслуга польскага паэта.

Аднак трэба ўлічваць істотныя тыпалагічныя адрозненні гэтых блізкіх вобразаў у Міцкевіча і Купалы, нягледзячы на агульнасць іх этнаграфічна-бытавых і рэгіянальных вытокаў творчасці.

Належыць улічваць, што беларус вельмі павольна, марудна адкрываўся свету. Напрыклад, каб давесці Еўропе, які люд тут, Міцкевіч не толькі расказваў, але і паказваў у Парыжы літаграфію Азямблоўскага з абліччам жыхара Наднёманшчыны, беларуса. Як сведчаць успаміны палітычных выгнаннікаў з Расіі, літаграфія рабіла моцнае ўраджанне. «Я на гэту карціну ніколі не мог глядзець без біцця сэрца», — пісаў Герцэн мастаку Боткіну. У расіян мелася падстава назваць беларуса «Славянскім нявольнікам».

А вось праз адно стагоддзе Купала ў вершы «Якія» ўбачыў дзве сацыяльныя супрацьлегласці, пана і мужыка:

Сыты, раскормлены, —
  гэта наш пан.
Худы, прыгорблены,
  у вобуві з лык,
Гэта — мужык.

У чым сэнс твора «Якія»? У чалавечнасці і нечалавечнасці. А гэта ўжо абазначала, што беларускі паэт па-новаму раскрыў мужыка, але не як раба і нявольніка, а як чалавека, творцу свайго лёсу. Купалаўскі мужык — чалавек. Так рэгіянальныя з'явы паступова набывалі маштабы еўрапейскага асэнсавання і нават агульначалавечага.

Каштоўнасць мастацкага досведу Міцкевіча відавочна, ён даў магчымасць перспектыўна зразумець сутнасць змен эвалюцыйных у інтэрпрэтацыі вобраза беларускага хлопа—селяніна—мужыка, які заслужыў права называцца высокім імем чалавека. У агульнанацыянальным кантэксце на мове Купалы абазначае — «людзьмі звацца».

Творчасць свайго аўтарытэтнага пабрацiма Купала ацанiў так: «Міцкевіч — вечна жывая паэзія». Сапраўды, два паэты, пяшчотна ўскалыханыя Навагрудчынай, нібы ўраўнаважваюць зямное з духоўным, чалавека з прыродай. Нават сваімі народзінамі (24 снежня, 22 чэрвеня) яны спалучаюць каляндарны цыкл зімовага і летняга сонцастаяння як магічнае дзейства, заклiканае паспрыяць людзям паспалітым і Айчыне.

У агульнай гармоніі сусвету Міцкевіч і Купала загадкава сімвалізуюць найвышэйшыя праявы чалавечага духу ў нашым краі. Вяртанне на кругі свае — сведчанне несмяротнасці іх паэтычнай спадчыны.







**Язэп ПАЛУБЯТКА — інжынер. Працуе ў вузьле сувязі ў Мастох. Друкуецца ў часопісах «Маладосьць», «Першацьвет», «Вожык», «Родная прырода».**



**Язэп Палубятка**

## СТАРАДАЎНІЯ БЕЛАРУСКІЯ АБРАЗЫ І ПРАКЛЁНЫ

Так павялося спрадвеку, што людзі не толькі мілуюцца, цешацца, зычаць адзін аднаму дабра ды шчасця, кажуць шчырыя пажаданні ў далёкую дарогу, але і шлюць адзін другому праклёны ці, гаворачы больш дакладна, лаюцца. Адразу хачу адзначыць, што тут я не буду кранаць тых слоў і выказванняў, у якіх гаворка ідзе пра Бога, душу, д'ябла ды маці (брудны мацюк), тое, што вы можаце пачуць штодня ў грамадскім транспарце, на працы ці проста на вуліцы, усё тое, што абражае чалавечую годнасць, яго гонар. Пасля шматлікіх гутарак са старымі людзьмі я прыйшоў да высновы, што гэта не здабыткі нашай мовы. Яно чужое, прынесенае нам звонку. Асабліва адчуваецца гэта ў заходніх абласцях Беларусі.

Наша жыццё было, ёсць і будзе разнастайным. Напрыклад, да адных людзей мы ставімся прыязна, да другіх абыякава, трэціх увогуле не ўспрымаем. Гэтак жа адносяцца і да нас. Адпаведна, адным мы зычым усяго найлепшага, другім кажам горкую праўду, трэціх — абражаем.

На жаль, гэты бок нашай моўнай культуры мала даследаваны. У навуковай літаратуры і перыядычным друку мала дзе даводзілася сустракаць матэрыялы па гэтай тэме. Тут трэба заўважыць, што адносіць абразы і праклёны да культуры нельга, бо калі імі карыстаецца чалавек без меры і ўсюды, казаць пра яго культуру проста дзікунства, але паколькі такая з'ява існуе ў нашай мове, не варта заплюшчваць вочы і рабіць выгляд, быццам нічога няма. Ад гэтага праблема не знікае. Варта ўсё даследаваць і правесці класіфікацыю.

Перш наперш неабходна адзначыць, што абразы і праклёны не адно і тое ж. Абразы — гэта кароткія, прыкрыя, іншы раз — непрыстойныя выказванні пра чалавека, яго ўчынак ці нейкую непажаданую з'яву. Праклёны—пажаданні чалавеку, іншы раз—жывёле, нечага кепскага.

Абразы чалавека могуць быць устойлівыя ці выпадковыя, якія могуць ужывацца згодна з абставінамі. Да ўстойлівых абразаў варта аднесці і мянушкі. Звычайна, яны складаюцца з аднаго слова, у рэдкім выпадку—з двух-трох. Пэўнай мяжы паміж ўстойлівымі абразамі (мянушкамі) і тымі, якія ўжываюцца выпадкова (што збяжыць на язык) няма. У адным выпадку той ці іншы выраз можа ўжывацца як мянушка, а ў другім ён можа выкарыстоўвацца як гутарковая абраза.

Прычыны паходжання абразаў (мянушак) самыя разнастайныя. Адныя абразы могуць характарызаваць розныя фізічныя недахопы чалавека, у асноўным яны носяць устойлівы характар і з'яўляюцца прычынамі ўзнікнення мянушак. Гэта такія як **клышаногі** ці **крываногі** (чалавек, у якога калекія ці крывыя ногі), **кныш** (невялікі рост), **глушняк** (глухі), **сляпняк** (сляпы), **без'языкі кілька** (моўны недахоп), **тычка** ці **жэрдка** (высокі чалавек). Сюды можна аднесці **кілун, здыхляк, селядзец без кішкі, мардаварот, рашка** (чалавек з вялікаю галавою), **рабы, бэбах, вантроба, курэль** (худы чалавек) і шэраг іншых. Яны могуць ужывацца ўстойліва з імем. Напрыклад: **рабы Петрусь, Манін бэбах.**

Абразы могуць паходзіць ад недарэчных чалавечых паводзінаў: **пстрычка** (вяртлявая дзяўчына), **ляпа сабачая** (гавораць пра тых, хто шмат енчыць), **скуралупец** (пра хлопца, які не шануе вопратку), **недапечаны, недароблены** (чалавек вялы, запаволены ў дзеяннях), **страхалюддзе** (неахайны чалавек), **патлаты** (непрычэсаны). Абразы могуць характарызаваць сацыяльны стан чалавека ці яго паходжанне: **байструк** ці **байстручка** (дзіцё без бацькі), **бульбаш** (бедны чалавек), **лях, маскаль, хахол** (нацыянальнае паходжанне чалавека).

У якасці абразаў выкарыстоўваюцца таксама назвы жывых істотаў: **скаціна** ці **скаціна бязрогая** (характарызуецца чалавек дрэнных паводзін), **каза, казёл, пятух** (мужчына вольных паводзінаў), **курыца** ці **курыца абмоклая, свіння** ці **свіння няскрэбаная, свіння рабая, карова** ці яшчэ прыкрэй—**карова раздзёртая, быдла.** Ужываюцца таксама назвы дрэў і іншых раслін: **дуб** (цяжкадумаючы чалавек), **пень, пень трухлявы, пень стары, масляк разгляблы.**

Мянушкі іншы раз характарызуюць як знешняе падабенства, так і падабенства ў паводзінах чалавека з пэўнай знакамітаю асобай ці літаратурным персанажам (**Гітлер, Ленін, Борман** (тоўсты чалавек), **дзед Талаш** (чалавек з доўгай барадою) і іншыя).

Ёсць шэраг вобразаў, якія паводле сэнсу ўжывання можна аднесці да некалькіх вышэйпералічаных тыпаў: **мурзаты** ці **мурзатая.** Імі можна характарызаваць знешне недахопнага чалавека і вызначаць паходжанне (негр). Сюды можна аднесці такія як **чорт, хамут чортаў, неўдаль, кароста.**

Ёсць і такія абразы, якія нельга аднесці ні да адной з вышэй названых групаў. Іх ужываюць выключна адносна пэўнай асобы і ў абмежаванай мясцовасці. Гэта такія як **догель, загелзаны, памяло** (барадаты мужчына), **кароста.**

Здараюцца выпадкі, калі абразы (мянушка) ужываюцца ў адваротным сэнсе: **вялікім** называюць чалавека малога росту і наадварот, **дужы, асілак** (хілы хлопец); **каралева** ці **харашуха** (непрыгожая дзяўчына).

Правесці нейкую класіфікацыю праклёнаў значна цяжэй. Цяжка ў тым сэнсе,што да іх нельга падыйсці са звычайнымі меркамі: сацыяльны стан ці паходжанне, чалавечы недахоп ці загана ў яго паводзінах.

Неабходна зазначыць, што праклёны — устойлівыя выразы, у якіх выказваюцца непрыемныя пажаданні канкрэтнай асобе (каб табе, каб цябе), за рэдкім выключэннем **(сабацы сабачая смерць, усёроўна са светам жыць не будзеш).** У апошнім выразе можна вельмі лёгка ўстанавіць займеннік «ты», не змяніўшы сэнс сказанага. У рэдкіх выпадках таксама не выкарыстоўваецца «каб». У якасці прыкладаў можна прывесці такія: **хваробу табе ў бок,** ды **магіла цябе ведае.** Сустракаюцца праклёны, якія скіраваны на нейкую падзею, хутчэй за ўсё на цяжкае жыццё: **каб яно балотам стала (заплыло); каб яго пярун спаліў.**

Засталіся два асноўныя тыпы праклёнаў, якія жадаюць непрыёму, штосьці благое і тыя, якія жадаюць смерці. Да першай групы варта аднесці наступныя праклёны: **трасца (ліха) табе ў жыцці; каб табе дзеці ўсё жыццё так дапамагалі; каб усё жыццё пад сябе рабіў; каб свайго ценю баяўся; каб табе пярун ногі паперабіваў; каб табе даў бог дзеравянныя ногі; каб табе бог даў на старасць торбу, лапці і мяшок; каб ты век збожжа сеяў, а мак малаціў.**

Большую частку праклёнаў складаюць праклёны, у якіх выказваецца свайму непрыяцелю пажаданне смерці **(каб ты спраг, каб ты землю засквары ў).** У гэтым выпадку вельмі шмат праклёнаў са словамі **маланка, пярун, гром** і ўжываюцца яны значна часцей да іншых: **каб цябе маланка спаліла; каб цябе гром спаліў на гладкай дарозе; каб цябе пярун застрэліў.** Вышэй прыведзеныя словы могуць быць ужыты ў любым выпадку, у любых выказваннях і сутнасць іх не зменіцца.

Ёсць частка праклёнаў, у якіх можа канкрэтна вызначацца тэрмін дзеяння. Мяркуйце самі: **каб ты не перазімаваў; каб ты не вярнуўся; каб ты не дачакаўся другога года; каб ты спяваў апошні раз.**

У іншых могуць выказвацца толькі пажаданні: **каб ты рукі склаў; каб ты задушыўся маленькім; каб ты сеў там, дзе дна няма.**

Ёсць такія праклёны, дзе выказваюцца пажаданні, якім чынам такое павінна здзейсніцца: **каб з цябе жывога шкуру злупілі (здзерлі); каб тваё мяса сабакі па свеце цягалі; каб цябе ўздула як гару; каб цябе халера забрала.**

У апошні час сустракаюцца і тэхнічныя праклёны з паўжартлівым зместам. Такія, як **каб твае дзеці тэлевізара баяліся.**

Напачатку было сказана, што праклёны могуць выказвацца як людзям, так і жывёлам, жывым істотам. Тут трэба зазначыць, вышэйпрыведзеныя праклёны ўжываюцца ў абодвух выпадках.

Вельмі часта да большай важнасці да выказвання дадаюцца словы «Бог даў...», «Дай Бог».

Вышэйпрыведзеныя ў якасці прыкладаў абразы і праклёны толькі нязначная частка таго моўнага скарбу, якім карыстаюцца і карысталіся нашыя землякі. Усе яны сабраны выключна на Гродзеншчыне.







**Аляксей САБАСЬЦЯН працуе ў мастоўскай газэце «Зара над Нёманам». Аўтар шэрагу артыкулаў па гісторыі Мастоўшчыны, у тым ліку кнігі пра г. Масты.**



Аляксей САБАСЦЯН

## ШЛЮБ НАШЫХ ПРОДКАЎ

Сёння мы прызвычаіліся бачыць ля аддзела запісаў актаў грамадзянскага стану амаль кожную пятніцу ці суботу шмат упрыгожаных легкавых аўтамашын, святочна прыбраных юнака і дзяўчыну, шмат моладзі. Гэта адбываецца рэгістрацыя новай маладой сям'і. Зараз ідзе амаладжэнне бяручых шлюб. Іншы раз даводзіцца зніжаць шлюбны ўзрост. У газетах была інфармацыя, што варта падумаць пра зніжэнне шлюбнага ўзросту да 15—16 гадоў. Як жартуюць, са школьнай парты — у загс! Добра гэта ці дрэнна, адкажа час. А якім быў шлюб нашых продкаў?

Захавалася кніга з Чарлёнскай Ражство-Багародзічнай царквы за 1878—1885 гады, у якой зарэгістраваны наважэнцы. Знаёмства з ёй можа адказаць на многія пытанні, якія хвалююць і зараз маладых.

Запісы сведчаць, што ў асноўным хлапец браў за жонку дзяўчыну са сваёй ці суседняй вёскі. Відаць, маладыя ведалі адзін аднаго і ўступалі ў шлюб добра абдумаўшы гэтае важнае жыццёвае пытанне.

Дый ўзрост хлапцоў быў у асноўным ад 20 і старэй. А гэта значыць, што ў маладых людзей скклаліся пэўныя погляды на жыццё Яны ўжо зразумелі, што могуць самастойна забяспечыць сваю сям'ю, здольны весці гаспадарку.

Дзяўчаты выходзілі замуж, пераважна у 19—20 гадоў. Як вядома, лёс дзяўчыны іншы: ідзі замуж, калі бяруць. Таму трэба меркаваць, што не заўсёды шлюбы заключалі паводле кахання, бо важным быў пасаг дзяўчыны: багатыя бацькі дадуць кавалак зямлі ды жыўнасць. Так што, будзе з чым пачынаць самастойнае жыццё. Таму мелі месца выпадкі, калі дзяўчат аддавалі ў 17—18 гадоў.

Так, 3 лютага 1880 года ў названай царкве абвянчаліся 22-гадовы селянін вёскі Харціца Сцяпан Жук з 18-гадовай аднавяскоўкай Пелагеяй Шчаснай.

24 студзеня 1882 года селянін вёскі Сарочыцы 22-гадовы Рыгор Казлоўскі вянчаўся з 18-гадоваю сялянкай Фёклай Крышаловіч. А 9 мая 1882 года Аляксей Кіркіцкі з Русінаўцаў вянчаўся з 17-гадовай Еўдакіяй Ауткай, сялянкай гэтай жа вёскі. 26 верасня 1882 года 26-гадовы Міхаіл Клачко з Чарлёны ўзяў шлюб з 18-гадоваю дзяўчынай з Харціцы Ганнай Шчаснай. 20-гадовы хлапец з Чарлёны Піліп Бобча ўзяў за жонку 17-гадовую Агаф'ю Баўжэвіч з суседніх Ханявіч.

А вось 20-гадовы селянін вёскі Міклашоўцы Канстанцін Ролік 10 лютага 1880 года вянчаўся з 16-гадоваю Настассяй Слуцкай з Казакоўцаў. Праўда, дзяўчыне неабходна было ўзяць дазвол ад епіскапа Брэсцкага даната.

Найпазней стварыў сям'ю селянін вёскі Чарлёна Павел Гладкі. Ён вянчаўся 13 лютага 1883 года з 25-гадовай дзяўчынай з Ханявіч Ганнай Кнігай. Жаніху ішоў ужо 44-ы год.

Пазней у шлюб уступалі хлопцы, якія праходзілі вайсковую службу. Стваралі яны сям'ю пасля вяртання дамоў. Таму і назіралася розніца ў гадах жаніха і нявесты. Так, 17 лютага 1880 года ўступіў у шлюб звольнены ў бестэрміновы водпуск радавы Максім Ківер з Міклашоўцаў. Яму было 32 гады, а яго нявесце Настассі Крышаловіч з Русінаўцаў ішоў 20-ы год.

У 33-гадовым узросце стварыў сям'ю радавы Мацей Праўка з Русінаўцаў з 22-гадоваю сялянкай вёскі Лаўна Соф'яй Казёл. У такім жа ўзросце вянчаўся унтэр-афіцэр 103-га пяхотнага Петразаводскага палка Якаў Кая з Чарлёнкі 25 кастрычніка 1880 года з 19-гадоваю Фёклай Самойла з вёскі Русінаўцы. 4 чэрвеня 1878 года ў Чарлёнскай царкве вянчаліся прускі падданы евангельска-лютаранскага веравызнання Эрнест Готлібаў Франке, які жыў у маёнтку Чарлёна, з салдацкаю дачкою Берштанскай валасці Лукіёй Коха. Жаніху было 20, нявесце — 19 гадоў. Для гэтага Эрнесту Франке патрабавалася падаць пасведчанне на ўступленне ў шлюб ад Гродзенскага лютаранскага пастара.

У той час існавала і прымацтва. Пра гэта можна меркаваць з таго, што хлопцы з вёсак іншага прыходу падавалі даведкі са сваіх цэркваў, як яны там былі ў споведзі, ведаюць малітвы, бо вянчаліся ў чарлёнскай царкве. Іх жонкамі станавіліся дзяўчаты ці ўдовы з вёсак гэтага прыходу. Звычайна ў прымы ішлі бедныя сяляне ў больш заможную сям'ю. А ў прымы бралі тыя сем'і, у якіх не было хлапцоў, якія маглі б працягваць бацькоўскую справу. Таму і становішча прымака было не заўсёды зайздросным, аб чым сведчаць песні і прымаўкі.

Так, 10 лютага 1880 года ў Чарлёнскай царкве вянчаліся Іван Брыцько з Юстынай Аутка. Іван Брыцько родам з Княжаводцаў. Ён

падаў пасведчанне Дубнаўскай царквы. Ішоў ён у прымы ў вёску Русінаўцы.

Кацярына Жук з Харціцы ўзяла ў прымы 24-гадовага хлопца з вёскі Галавачы Сцяпана Лянкевіча.

25 студзеня 1881 года Марка Сенька з Чарлёнкі абвянчаўся з сялянкай вёскі Лаўна Ганнай Жук і перайшоў жыць да яе. Ён таксама браў пасведчанне Дубнаўскай царквы. Вось так у гэтых вёсках з'яўляліся людзі з новымі прозвішчамі.

Мелі месца выпадкі, калі шлюб бралі людзі розных веравызнанняў. Так, 1 чэрвеня 1881 года ў царкве вянчаліся каталік Міхаіл Петушок і праваслаўная Марыя Барашка.

А вось у маёнтку Яблынава пазнаёміліся селянін Берштаўскай воласці Фёдар Кох праваслаўнага веравызнання і сялянка з Віцебскай губерні Марыя Заазерская рымскага веравызнання. Абодва яны падавалі пасведчанні, ён — ад Берштаўскаў валасной управы, яна — ад настаяцеля Ражанкаўскага касцёла, каб абвянчацца ў Чарлёнскай царкве.

На шляху нашых продкаў, як і ў наш час, сустракаліся няшчасныя выпадкі. У сям'і памiралі жонка ці муж. Вядома, цяжка жыць і весці гаспадарку аднаму чалавеку, ды яшчэ гадаваць дзяцей. Таму даводзілася бралі шлюб паўторна. Вянчанне таксама было абавязковым. Бывала так, што ўдаўцы жаніліся з удовамі ці з незамужнімі дзяўчатамі.

Так, у 1883 годзе 66-гадовы ўдавец адстаўны радавы Іван Лук'янаў Шостка з Раўкоў, ажаніўся з незамужняю 32-гадовай Еўдакіяй Аутка.

А вось 21 студзеня 1879 года ў царкве трэцім шлюбам 40-гадовы Іван Мілянкевіч абвянчаўся з незамужняй 25-гадоваю Аксеняй Рэкець.

Селянін вёскі Чарлёна Міхаіл Шабас рана стаў удаўцом. І ў 27-гадовым узросце ён уступіў у другі шлюб з 22-гадоваю Наталляй Аутка з Русінаўцаў.

У другі раз стварылі сям'ю ўдавец з Казакоўцаў 56-гадовы Вікенцій Пікаловіч і ўдава з Русінаўцаў Марыя Бышкала, якой было 35 гадоў. Яны абвянчаліся 2 лютага 1883 года.

Звольнены ў запас фельдфебель, 34-гадовы Ануфрый Рэкець, ажаніўся з 38-гадоваю удавою са сваёй вёскі Агаф'яю Войташ.

У 45-гадовым узросце ў другі раз стала ўдавою сялянка вёскі Чарлёна, Елізавета Міхайлаўна Лук'ян. Яна выйшла замуж трэці раз за ўдаўца з вёскі Каўшова, 60-гадовага Міхаіла Аляксандравіча Лебедзева. Дакладней, Лебедзеў прыйшоў у прымы ў Чарлёну.

Трэці раз выйшла замуж саракагадовая Ганна Седзянеўская з Харціцы за ўдаўца сваёй вёскі Осіпа Малюка.

Вось так жылі, стваралі сем'і нашы продкі. Толькі заўважым, што вяселлі гулялі не ў любы час года. Маладыя не вянчаліся ў дні пастоў. Таму не было вяселляў у сакавіку, красавіку (пост перад вялі-

каднем) і снежні (пост перад калядамі). Мала было вяселляў у жніўні і верасні — час жніва і капання бульбы, сяўбы азімых.

Найбольшая колькасць вяселляў прыпадае на студзень, люты, май, кастрычнік і лістапад. Так у лютым 1880 года вянчаліся 19 пар з іх 8 — 3 лютага, 5 — 10 лютага і 6 пар — 17 лютага. У маі 1882 года вянчалася 11 пар, з іх 8 — 17 мая, у маі 1885 года было 7 вянчанняў, з іх 5 прыпала на 13 мая. У 1878 годзе вянчалася 18 пар маладых, у 1879 — 13, 1880 — 37, 1881 — 27, 1882 — 25, 1883 — 38, 1884 — 19, 1885 — 23 пары.

Звычайна, вянчанне ў царкве адбывалася нядзеляю. Да вянца маладыя ехалі нашча. Таму і вяселле пачыналася ў нядзелю рана. У нядзелю і панядзелак ішло вяселле ў маладой, пад вечар у панядзелак ехалі да маладога. Усю ноч гудзела ў хаце маладога вяселле і заканчвалася ў аўторак. У больш заможных вяселле было яшчэ і ў сераду.

Разважлівы падыход да стварэння сям'і, у многім спрыяў і яе трываласці. Хацелася б, каб сёе-тое пераняла з жыцця нашых продкаў маладыя людзі нашага часу. І сёння вельмі важна, каб кожная сям'я была трывалаю, бо ўсё лепшае ў дзецях закладаецца менавіта ў сям'і.







**Ірына ПІВАВАРЧЫК займаецца этналінгвістычнымі даследзінамі па беларуска-украінскім і беларуска-літоўскім памежжы. Працуе ў Брэсцкім пэдінстытуце**



**Ірына ПІВАВАРЧЫК**

# ПАДРЫХТОЎЧЫЯ ЭТАПЫ ВЯСЕЛЬНАГА АБРАДУ (на матэрыяле Шчучынскага раёна)

Вяселле — выключная з'ява ў жыцці кожнага чалавека, пачатак яго новага самастойнага жыцця. Для маладых шлюб — незабыўнае свята, так і для ўсёй сям'і, сваякоў, суседзяў. Ні адна падзея ў сямейным жыцці селяніна не суправаджаецца такой паслядоўнай сістэмай абавязковых абрадаў і песень.

Фальклорны матэрыял сабраны аўтарам ў ходзе палявых даследаванняў у Навадворскім с/с Шчучынскага раёна.

У вясельным абрадзе на Шчучыншчыне можна выдзеліць наступныя этапы: запытанне, сватанне, заручыны, запрашэнне гасцей, першы дзень вяселля, другі дзень вяселля, трэці дзень вяселля, пірагі, або салодка водка.

Як відаць з класіфікацыі, само вяселле працягвалася тры дні (субота ,нядзеля, панядзелак), а разам з перадвясельным і паслявясельным этапамі працэс гэты займаў некалькі месяцаў. У дадзеным артыкуле будуць разглядацца толькі падрыхтоўчыя этапы вясельнага абраду: запытанне, сватанне, заручыны.

ЗАПЫТАННЕ. Як вядома, сяляне хадзілі ў лапцях. Годнасць жаніха часта правяралася яго майстэрствам плесці лапці. На запытанне хлопец прыходзіў вечарам, каб запытаць у бацькоў дзяўчыны, ці згодны яны аддаць сваю дачку. З сабою ён нёс праз плячо лапці для сваёй абранніцы. Лапці ўпрыгожваў, уплятаючы ў іх рознакаляровыя дубчыкі. Хлопец адчыняў дзверы, кідаў на сярэдзіну хаты лапці, прыгаворваючы: «Шурум-бурум, лапці — у хату». Сам у хату не ішоў, а заставаўся стаяць у сенях нябачным. Дзяўчына прымярала лапці, а ўсе хатнія аглядалі іх. Калі лапці падабаліся, былі сплецены акуратна, то хлопца заклікалі ў хату для размовы. Калі ж лапці былі сплецены для адчэпнага, абы з рук, іх выкідвалі з хаты, прыгаворваючы: «Не шурай, не бурай, лапці з хаты забірай». Нават у тых вы-

падках, калі хлопец падабаўся дзяўчыне, але лапці сплецены кепска, ён атрымліваў адмову. Магчыма, гэта звязана з тым, што бацькі выбіралі для дачкі перш за ўсё гаспадара, хлопца, лёгкага да работы. Нездарма ў народзе кажуць: «За добрым мужам — і варона карона, за благім мужам — і княгіня загіне».

Падобнае абрадавае дзеянне сустракаецца і на Палессі. Хлопец нёс лапці (пасталы) для ўсёй сям'і абраніцы. Ён кідаў іх на сярэдзіну хаты і пытаў: «Падобненькі пастоленькі?» Калі дзяўчына згодна выйсці замуж за яго, адказвалі: «Падобненькі» (Палескае вяселле. 1984. С. 21).

Пасля дамоўленасці хлопец можа прыязджаць у сваты.

СВАТАННЕ. Выбар сватоў, сяброў жаніха звычайна адбываўся на хатняй радзе, куды збіраліся жаніх, яго бацькі і сваякі. Арганізацыю сватання не даручалі жанчынам, лічылася, што гэта справа толькі мужчын.

У сваты звычайна ішлі вечарам у суботу. Сватам мог быць толькі жанаты чалавек (часцей за ўсё хрышчоны бацька). Ён павінен быць кемлівым, умець прыгожа і весела гаварыць, умець паказаць жаніха з лепшага боку.

У хаце нявесты ўжо ведаюць аб прыездзе сватоў, рыхтуюць для іх пачастунак. Сваты бяруць з сабою бутэльку гарэлкі і загорнутую ў чыстую хустку лусту хлеба. Яны прыязджаюць пасля заходу сонца, каб не кідацца людзям у вочы. Дзяўчына ж можа перадумаць і не даць згоды на шлюб, тады будзе сорамна перад людзьмі.

Жаніх у працэсе сватання актыўнага ўдзелу не прымае, ён у асноўным маўчыць. Увесь час гутарку (гавэнду) вядзе сват. Часта гутарка ідзе ў іншасказальнай форме. Сваты выдаюць сябе за падарожнікаў, якія збіліся з дарогі, а найчасцей за купцоў, якія прыехалі купляць тавар. «Чулі мы, што ў вас ёсць тавар на прадання. Кажуць, цялушку вы прадаеця. А ў нас ёсць купец, якраз па ваш тавар і прыехаў». Бацькі нявесты адказваюць: «Німа ў нас тавару на прадання». Тады сваты гавораць: «Ды ні цялушка нам патрэбна. А чулі мы ад людзей, што ў гэтуй хаці ёсць дзяўчына, і прыгожа, і працавіта, і гаспадарліва. А наш хлопец за яе ні горшы, дык ці ні лепш ім у пары жыць і працаваць».

Пры размове сватоў дзяўчына не павінна прысутнічаць. Сваю згоду выйсці замуж яна выказвала тым, што **наварочвала чарку на водку**. Гэты выраз стаў устойлівым і ўжываецца ў значэнні «даць згоду на шлюб». Напрыклад: «Учора сваты да Зосі Ласоўскай прыходзілі. Навярнула чарку на водку, то, пэўна, вяселля будзя».

У час застолля ўжо акрыта вядзецца размова пра час вяселля, пасаг і г. д.

А як жа было ў тых выпадках, калі сватам прыходзілася адмаўляць? Выказваць адмову словамі лічылася неэтычна. У гэтым бачылі прыніжэнне годнасці сватоў. Тады на стол ставілі яечню ці з сабою жаніху давалі гарбуз. Здаралася, што сватам за выпітую гарэлку плацілі грошы.

Раней жаніліся ў асноўным з дзяўчатамі са сваёй вёскі ці бліжэйшых. У апошнія часы хлопцы жэняцца і з дзяўчатамі з далёкіх вёсак, з гарадоў. Такая з'ява старажыламі не вельмі падтрымліваецца. Таму пра дзяўчыну, якая чымсьці не спадабалася вяскоўцам, скажуць: «Хоць крывая бярэзіна, аля здалёку прывезяна».

ЗАРУЧЫНЫ. Гэта апошні перадвясельны этап. У час заручын хлопца і дзяўчыну ўжо адкрыта аб'яўляюць жаніхом і нявестай. Заручыны непасрэдна звязаны з такім абрадавым дзеяннем, як даць (падаць) на запаведзь.

У нядзелю, у першай палове дня, жаніх прыходзіць ці прыязджае разам са сватам у хату да нявесты. У гэты дзень нявеста апранута пасвяточнаму: прыгожы квяцісты андарак, маёвы (лёгкі і светлы) кафтанік. Жаніх апрануты таксама акуратна, але не ў шлюбнае ўбранне.

Жаніх з нявестай і сват ідуць у храм, каб падаць на запаведзь. Сутнасць гэтага абраду ў тым, што святар пад час імшы за прызначаную суму грошай абвяшчае народу, што такая паненка выходзіць замуж за такога кавалера (называе іх прозвішчы). Можа хто ведае, ці няма паміж імі сваяцтва або іншых прычын, якія могуць перашкодзіць шлюбу. Такая аб'ява паўтараецца тры разы — адзін раз у тыдзень. У тых выпадках, калі святару даносілі пра хлопца з дзяўчынай што-небудзь кепскае, запаведзі болей не чыталіся і вяселле расстройвалася, распадалася.

Пасля таго, як міне тры тыдні і ніякіх нараканняў на будучых маладых не паступіць, святар аб'яўляе вернікам, што такая паненка заручана з такім панам. З гэтага дня яны лічацца жаніхом і нявестай і павінны насіць шлюбныя пярсцёнкі на левай руцэ аж да самага вяселля — знак таго, што яны ўжо заручаныя. Шлюбных пярсцёнкаў раней не куплялі. Іх выплаўлялі з медных ці сярэбраных манет, бо крамныя (магазінныя) пярсцёнкі каштавалі вельмі дорага.

Пасля заканчэння набажэства ў храме жаніх з нявестай едуць на бяседу ў хату да нявесты. Па дарозе яны заязджаюць да крамаў (у магазіны). Хлопец купляе сваёй абранніцы вясельны ўбор: матэрыю на сукенку, вэлюм, туфлі, купляе чаравікі ў падарунак сваёй будучай цешчы. Нявеста таксама купляе адзенне для свайго будучага мужа, бо пасля вяселля яна павінна апрануць яго ва ўсё сваё з галавы да ног.

У хаце нявесты пачынаецца **бяседа.** Госці (самая блізкая радня нявесты) чакаюць прыезду жаніха з нявестай. Аднак бяседа не пачнецца, пакуль будучыя маладажоны не прывязуць бацькоў жаніха.

Пад час застолля бацькі жаніха і нявесты ўжо называюць адзін аднаго «сватам» і «сванькай».

Адно з асноўных пытанняў, якое вырашаецца ў час заручын — пытанне пасагу, бо звычайна дзяўчына ішла жыць у хату жаніха.

На Шчучыншчыне адрозніваюць два паняцці: пасаг і прыданае. У пасаг уваходзіла зямля, коні, каровы, авечкі, свінні і г. д. Прыданае — гэта жаночае адзенне, пасцельныя прыналежнасці, посуд, некаторыя прадметы ўпрыгожвання і іншыя жыццёвыя «дробязі». Зразу-

мела, радню жаніха цікавіў пасаг, які выдзеляць нявесце бацькі. Той дзяўчыне, якая не мела пасагу або ёй давалі вельмі малы пасаг, замуж выйсці было цяжка. Нездарма спяваецца ў песні:

Мела б я пасагуньку .
Хоць адну кароўку,
То пайшла б увосень замуж
У чужу старонку.

Прыданае сватоў не цікавіла. Гэта лічылася асабістай справай як дзяўчыны, так і яе маці, іх гонарам, багаццем.

Пад час заручын дамаўляюцца наконт дакладнай даты вяселля, аб гасцях, падарунках, музыкантах.

Здаралася, што вяселле распадалася праз віну дзяўчыны ўжо пасля заручын, пасля таго, як да яе былі засланы сваты. У такіх выпадках кажуць, што дзяўчына **«адкінулася»**. Тады бацькам нявесты даводзілася вяртаць сватам выдаткі за выпітую гарэлку, за растраты. А ў выпадках, калі да прасватанай дзяўчыны сватаўся другі кавалер і яна давала згоду, то ён плаціў грошы першаму кавалеру.

Дарэчы, калі дзяўчына адкідвалася, г. зн., адмаўлялася ад хлопца, на сцяне яго хаты хто-небудзь маляваў салідолам вянок. Гэты вянок было відаць здалёку, і ён, вядома, выклікаў насмешкі з хлопца. Пазней вянок з салідолу выцясніўся **«гарошынавым вянком»** — вянком з гароху, які прыбівалі таксама да сцяны хаты адстаўнога кавалера. Гэтая шматвекавая традыцыя вядома на тэрыторыі ўсёй Беларусі. Так, у вершы «Спатканне» Рыгор Барадулін піша:

Кажуць, трэці дзень
Грыміць тваё вяселле (я ж не веру)
Вянок з гароху хочуць мне надзець
Сябры як адстаўному кавалеру.

У адным выпадку вянок малявалі або чаплялі на сцяну хаты, у другім яго надзявалі хлопцу на галаву. Але сутнасць гэтых абрадавых працэсаў аднолькавая.

ЗАПРОСІНЫ.

Як у нявесты, так і ў жаніха гасцей запрашаюць іх бацькі прыкладна за тыдзень да вяселля. Бацька, зайшоўшы ў хату, распытвае спачатку пра здароўе, потым пра навіны, а затым ужо запрашае. Усіх запрошаных называюць вясельнікамі.

Бацькі на вяселле не запрашаюць моладзь. Яе запрашаюць самі маладыя. Нявеста просіць сваіх сясцёр ці сябровак (абавязкова незамужніх) за **дружак**, а жаніх сваіх братоў ці сяброў (нежанатых) за **дружкоў**. Усю запрошаную на вяселле моладзь называюць **дружынай**. Дружына раней была нешматлівай — дзве-тры пары, а калі збі-

ралася болей пар, то дружына лічылася вялікай, а вяселле — багатым.

У складзе дружыны выдзяляюць старэйшага дружка (або старшага) і старэйшую дружку (старшу). На працягу ўсяго вяселля яны павінны кіраваць дружынай, быць у пары. Тады, кажуць, жыць маладыя будуць душа ў душу ўсё жыццё.

Асаблівыя патрабаванні ставілі пры выбары свата і сванькі. У асноўным хрышчоны бацька маладога і хрышчона маці маладой і былі сватам і сванькай. Народнае ўяўленне пра шчасце звязвалі з дзецьмі. Бяздзетнасць у народзе лічылася найвялікшым няшчасцем. Таму пры выбары свата і сванькі глядзелі, каб у іх абавязкова былі дзецi.

Забяспячэнне вяселля музыкай ляжыць на плячах маладога. За **музыкантаў** раней былі людзі без спецыяльнай музычнай адукацыі, якія навучыліся граць самі праз сябе. На вяселле абавязкова запрашалі скрыпача, бубніста і гарманіста. Музыканты былі ў пашане. Іх на вяселле не прасілі, а **«гадзілі»**, г. зн. ішлі ім на ўступкі, згаджаліся з усімі ўмовамі, патрабаваннямі.

Вяселле пачынаецца ў жаніха і нявесты паасобку. Да жаніха яго госці збіраюцца крыху раней, чым да нявесты яе радня, бо ў яе чакаюць прыезду жаніха. А пакуль ён не прыедзе, госці нявесты за стол не сядаюць.







**Павел Сьцяцко аўтар манаграфіяў «Народная лексіка» (1970), «Народная лексіка і словаўтварэнне» (1972), «Беларускае народнае словаўтварэнне» (1977), шэрагу кніг і артыкулаў па праблеме нармавання беларускай літаратурнай мовы. Доктар філялягічных навук, прафэсар. Працуе ў Гродзенскім дзяржаўным унівэрсытэце імя Янкі Купалы.**



**Павел СЦЯЦКО**

## «СУБЯСЕДНІК». ШТО ЗНАЧЫЦЬ ГЭТАЕ СЛОВА?

Як сведчыць «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы», **субяседнік** — «той, хто **бяседуе,** вядзе гутарку з кім-небудзь» (т. 5, кн. 1, Мн., 1983, с. 336). Як бачым, назоўнік **субяседнік** непасредна тлумачыцца дзеясловам **бяседаваць,** выводзіцца ад яго. Але ж слова **бяседаваць** мы не знойдзем у гэтым слоўніку. Дарэчы, яго не падае ніводны акадэмічны перакладны слоўнік. Тады, відаць, трэба аднесці яго да ўтварэнняў ад слова **бяседа:** «субяседнік — той, хто бярэ ўдзел ў бяседзе». Слова ж **бяседа** паводле ТСБМ (т. 1, Мн., 1977, с. 422) — гэта «Збор гасцей с пачастункам». Сталы на бяседы ў Сцешыцах людзі заўсёды пазычалі адзін у аднаго». Утварэнне слова **субяседнік** можна кваліфікаваць і як прыстаўкавае ад **бяседнік** (як адказчык і суадказчык). Але ж у слоўніку гэтае слова падаецца толькі з значэннем «удзельнік бяседы»: Бяседнікі ядуць і стравы хваляць» (Тамсама). Адсюль вынікае, што **субяседнік** — гэта адзін з гурту «бяседнікаў» (як суапякун і апякун) — той, хто бярэ ўдзел у бяседзе. Слова **бяседа** двухтомны акадэмічны «Беларуска-рускі слоўнік» падае як эквівалент расейскага «пиршество, банкет, застолье» (т. 1, Мн., 1988, с. 210).

Прымаючы пад увагу вось такія тлумачэнні ў слоўніках словаў **бяседа** і **бяседнік,** прыходзіш да належнае высновы: **субяседнік** — гэта ўдзельнік бяседы, іначай — балю, балявання, банкету (па-расейску «пиршества»). Такім чынам, па-беларуску **субяседнік** — гэта не хто іншы, як «баляваннік», «банкетаваннік», бо яно непасрэдна матывуецца словам **бяседа** «баль, пачастунак».

Здзіўляе, што укладальнікі акадэмічнага двухтомнага «Беларус-

ка-рускага слоўніка» (Мн., 1988—1989), падаючы слова **бяседа як** эквівалент рас. **пир, пиршество, банкет** і не змяшчаючы на сваіх старонках аднакаранёвых **бяседнік** і **бяседаваць,** раптам падаюць слова **субяседнік** як адэкватнае расейскаму **собеседник** (т. 2, с. 523). Хоць у расейскай мове яно натуральна матывуецца словам **беседовать.** У чатырохтомным «Словаре русского языка» чытаем: «Собеседник, -а, м. Тот, кто беседует с кем-л., участник беседы, разговора. Собеседники уселись на ступеньках крыльца и начали мирно беседовать...» (т. 4, М., 1984, с. 169).

Як бачым, складальнікі двухтомнага перакладнога беларуска-рускага слоўніка механічна перанеслі слова з расейскае часткі на беларускую, толькі напісаўшы яго паводле беларускага правапісу. Іх не бянтэжыла, што ў беларускай мове гэтае «субяседнік» не мае свайго карэння, бо на месцы расейскага **беседовать** беларуская мова мае слова **гутарыць.** Трохтомны «Русско-белорусский словарь» 1993 года гэтае слова так і перакладае: **беседовать** несов. **гутарыць,** а слова **беседа,** ад якога ўтворана **собеседник,** слоўнік падае наступным чынам: **Беседа** 1. (разговор) гутарка,-кі, ж., размова, -вы, ж; 2. обл. (вечеринка, пирушка) беседа, -ды, ж. (т. 1., с. 93).

Укладальнікі трохтомнага перакладнога слоўніка адчулі фальш папярэдніх перакладных слоўнікаў, якія атаясамлівалі беларускае **субяседнік** з расейскім **собеседник,** і ўжо эквівалентам расейскага **собеседник** падалі і **суразмоўнік** (т. 3, с. 393), звязаўшы яго непасрэдна і з словам **размова** як адпаведнікам рас. **беседа.** Але ж яны не адмовіліся і ад ранейшага **субяседнік** (падаўшы яго пасля слова **суразмоўнік**). Толькі чым тады матывуецца гэтае **субяседнік,** калі абапірацца на сам слоўнік, дзе ў першым томе, як мы ўжо пераканаліся, слова **бяседа** выступае толькі як дыялектнае (у слоўніку яно мае памету «обл.»—«абласное», адэкватнае рас. вечеринка, пирушка. Так што, калі быць паслядоўнымі, то другога слова, побач з **суразмоўнік,** не можа быць, бо, пераклаўшы на расейскую мову (участник пирушки), мы атрымаем «пирушник».

А цяпер пра неалагізм **суразмоўнік.** Гэтае слова не фіксуе двухтомны акадэмічны «Беларуска-рускі слоўнік» 1988/98 гадоў. У перыядычным друку выкарыстоўваецца **суразмоўца.** Напрыклад, у «Настаўніцкай газеце» за 24.04.1993 года — «кампетэнтны суразмоўца». У часопісе «Полымя» (1993, № 12, с. 146) чытаем: «Калі ты стаіш не на трыбуне, а проста на тратуары, калі кожны **суразмоўца** бачыць выраз тваіх вачэй, — фальш у іх прачытаюць імгненна».

Лексема **суразмоўнік** усведамляецца як утварэнне з прыстаўкаю **су-** ад **размоўнік;** параўн. суграмадзянін, сурэжысёр, сунаследнік. Слова ж **размоўнік** мае ў літаратурнай мове значэнне «дапаможнік для вывучэння замежнай мовы, які змяшчае ўзоры гутаркі на розныя бытавыя тэмы» («Тлумачальны слоўнік беларускай мовы», т. 4, Мн., 1980, с. 616) (У расейскай мове яму адпавядае **разговорник).**

Слова **суразмоўца** гэтакай асацыяцыі не выклікае. Але ж нагадаем, што ў «Беларуска-расійскім слоўніку» М. Байкова і С. Некрашэвіча (Менск, 1926, с. 271) падаецца: **Размоўца** м. — собеседник. Чаму не выкарыстаць гэтае слова? Яно — утварэнне ад **размова** — «слоўны абмен звесткамі, думкамі; гаворка» (Тлумачальны слоўнік беларускай мовы, т. 4, Мн., 1980, с. 615). Відаць, толькі арыентацыя на зліццё моваў выштурхнула гэтае слова на карысць усесаюзнага стандарту **субяседнік (собеседник),** хоць у беларускай мове яно мае зусім іншую ўнутраную форму (матываванасць) — «Удзельнік балю, г. зн. баляваннік, ці, як у народзе кажуць, «сабутэльнік».

Цяпер, калі мы пазбаўляемся ад бяздумнай ідэі зліцця нацыяў і іх моваў, сталі актывізавацца працэсы ўласнай словатворчасці, выкліканыя патрэбай унікнуць навязаных нашай мове штучных словаў з усесаюзнага фонду грамадскай тэрміналогіі. Так узніклі наватворы **перамовы** і **дамова, дамоўленасць,** якія сталі выкарыстоўвацца на месцы былых стандартаў **перагаворы, дагавор, дагаворанасць** (П. Сцяцко. «Дамова; перамовы» // «Наша слова» № 3 за 1993 год, с. 5).

У перыядычным друку апошнім часам сустракаем і іншыя словы з коранем -мов-: моўнік, сумоўе, сумоўнік, гучнамоўнік.

Слова **моўнік** ад дзеяслова **мовіць,** якое «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (т. 3, Мн., 1979, с. 170) падае як сінонім да **сказаць, вымавіць.** Лексема **моўнік** утворана паводле актыўнай словаўтваральнай мадэлі (узору) «аснова дзеяслова+суфікс -нік» з значэннем «асоба, якая выконвае дзеянне, названае ўтваральным словам»: будаваць — будаўнік, кіраўнік, заступнік і г. д. (гл. «Беларуская граматыка». Ч. 1. «Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск.» — Мн., 1985, с. 222). Выкарыстоўваецца яно на месцы штучнага пазычання **гаворачая асоба, гаворачы** (з рас. говорящий. Гл. «Русско-белорусский словарь» 1993 г., т. 1, с. 317; говорящий — гаворачы). «У кожнага моўніка свае схільнасці да аблюбаваных слоў, свой тэмбр і інтанацыя», — чытаем у часопісе «Роднае слова».

Слова **моўнік** замяняе і штучную аналітычную кальку **«носьбіт мовы»** (з рас. носитель языка), якая выклікае непажаданыя асацыяцыі: **«насіць мову»** (пад пахай), як **насіць шапку, насіць сумку.** Лексема **моўнік** матывуецца не толькі дзеясловам **мовіць,** але і назоўнікам **мова.** Такія ўтварэнні маюць значэнне «асоба па адносінах да

таго, што абазначана ўтваральным словам» — сведчыць «Беларуская граматыка» (ч. 1, с. 223), дзе падаюцца ўтварэнні гэтага тыпу абутнік, грыбнік, дворнік, лыжнік, разраднік і іншыя.

Слова **моўнік** выкарыстоўваецца з згаданым значэннем і ў навукова-навучальнай літаратуры: «Сярод аднамоўных слоўнікаў найбольш пашыраныя і каштоўныя для ўсіх **моўнікаў** з'яўляецца «Тлумачальны слоўнік» (П. У. Сцяцко. Пачатковы курс мовазнаўства. — Гродна, 1993, с. 35).

Лексема **сумоўнік** мае прыстаўку **су-**, якая «ужываецца пры ўтварэнні назоўнікаў і абазначае... сумеснасць, саўдзел; напрыклад: суапякун, сунаймальнік, сунаследнік, субяседнік...» («Тлумачальны слоўнік беларускай мовы». Т. 5, кніга 1, Мн., 1983, с. 364).

Слова **сумоўе** матывуецца ўстваральнай для яго лексемай **мова** і мае значэнне «сумесная гутарка (мова), слоўны абмен думкамі, гаворка» (тое, што ў расейскай мове перадаецца словам **собеседование**). Так, у газетных абвестках пры наборы ў некаторыя сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы чытаем: «Выдатнікі, узнагароджаныя медалямі, прымаюцца без экзаменаў па выніках праведзенага з абітурыентамі **сумоўя**». Праўда, у газетах не абыходзіцца без недарэчнага выкарыстання ў гэтых выпадках слова **субяседаванне**, якое не прызнаецца за норму ніводным слоўнікам. Дарэчы, як і **давузаўская** (падрыхтоўка), на месцы якога павінна быць **даўніверсітэцкая** (даінстытуцкая), што таксама бачым у перыядычным друку.

Слова **гучнамоўнік** замяняе былую паўкальку **гучнагаварыцель** (громкоговоритель), дзе другая частка гэтага слова засталася без перакладу, хоць у беларускай мове ўтварэнні з суфіксам **-цель** не маюць пашырэння. Побач з **гучнамоўнік** сустракаем і **галоснамоўнік** ці больш простае слова **галаснік**: «Па галасніку падавалі, што цэны падымуцца на мяса».

З прааналізаванага вдіаць, што наш перыядычны друк распроствае свае плечы, сціснутыя былым імперскім акуццём, вызваляецца ад усесаюзнага панцыру, каб вольна ўдыхнуць паветра роднай мовы.

Шмат яшчэ трэба зрабіць, каб нашая нацыянальная беларуская мова была менавіта такой, а не трасянкаю-мяшанкаю з расейска-беларускіх элементаў, як гэтыя вось — субяседнік, гучнагаварыцель.

А колькі падобных недарэкаў бачым у нашых перакладных слоўніках! Дый у тлумачальным таксама. І гэта нядзіўна: яны — дзеці свайго часу, перыяду будаўніцтва камунізму — руйнавання ўсяго адметнага ў мовах і культурах розных нацыяў і народаў.

Але спадзяемся, што «эпоха» такога «будаўніцтва-руйнавання» знікае. І больш не вернецца. Надыдзе час росквіту этнасаў і іх мовы і культуры.

**Часопіс «СЬВІЦЯЗЬ» плянуе знаёміць чытачоў зь літаратурнымі набыткамі паэтаў, пісьменьнікаў, публіцыстаў блізкага і далёкага замежжа, чыю творчасьць можна разглядаць у кантэксьце ўзаемадачыненьня беларускай, летувіскай, польскай, расейскай, габрэйскай, украінскай культур..Большасьць твораў упершыню перакладзены на беларускую мову. Прапануем вашай увазе баляды польскага паэта Баляслава Лесьмяна ў перакладзе Алега Мінкіна.**

**Паэтычная творчасьць Баляслава Лесьмяна (1878—1937), бадай адна з сама арыгінальных зьяваў польскае літаратуры пачатку XX стагодзьдзя. Узгадывалася яна на глебе сымбалізму, але й пад значным уплывам народнае баляды. Нязвыклая, багатая й неспакойная фантазыя паэты балянсавала спаміж сьветам містыкі й рэчаіснасьцю, давала жыцьцё гратэскавым постацям, а таксама вылучалася літасьцю ды глыбокім спачуваньнем да людзкога няшчасьця.**

**Юры Гумянюк.**

**Баляслаў ЛЕСЬМЯН**

## ДЗЯЎЧЫНА

Дванаццаць мраяроў-братоў мур напаткалі за туманам,
Няўцешны голас плакаў там, дзяўчыны голас занядбаны.
І пакахалі голас той яны і мару пра Дзяўчыну,
І вуснаў уяўлялі кшталт па тым, як сьпеў ад жалю гінуў...
Сказалі: «Плачыць — значыць, ёсьць!» І больш ужо не гаварылі,
Пераджагналі цэлы сьвет — і сьвет задумаўся ў той хвілі...
У мур ўдарыў молат і ўраз задрыжэў цагляны волат!
Ня ведала сьляпая ноч, хто чалавек зь іх, а хто молат?
«Хутчэй мы скрышым цэглу, чым Дзяўчыну змые сьмерці хваля!»
Так адзінаццаці братам казаў дванаццаты ў запале.
Ды марнай праца іх была і гарт цягліцаў быў дарэмны!
Спавіў іх цэлы сон, які за мурам панаваў нядрэмна!
Трухлеюць косьці, тлее ўсё, бляднее твар, пусьцеюць вочы...
І ўсе памерлі ў адзін дзень, узятыя адною Ноччу!
Ды, стаўшы ценямі, яны трымалі молаты ў далонях!
І толькі іншы час плыве — і іншым звонам молат звоніць...
І звоніць ён і ўзвыш, і ўздоўж! І разганяе вечны холад!
Ня ведала сьляпая ноч, дзе цень няісны, а дзе молат?
«Хутчэй мы скрышым цэглу, чым Дзяўчыну змые сьмерці хваля!»
Так цень дванаццаты казаў астатнім ценям у запале.

Ды не хапіла ценям сіл, а цемрам цень не замінае!
І паўміралі яшчэ раз, бо ўсякі шмат разоў канае...
Хто прагне зьнікнуць назусім, той скон такі нідзе ня знойдзе!..
І зьнік іх сьлед! І згінуў сэнс! Аповесьць скончана — і годзе!
Ды молаты — о, Божа мой! — не паддаліся таму жалю!
І ў мур грымелі самахоць, і медзьдзю звонкаю гучалі!
Ад поту мокрыя свой звон, свой стук раскідвалі наўкола!
Ня ведала сьляпая ноч, дзе молат, а дзе ўжо ня молат?
«Хутчэй мы скрышым цэглу, чым Дзяўчыну змые
сьмерці хваля!» —
Так усім молатам-братом казаў дванаццаты ў запале.
І рынуў мур — і скалануў грымотным водгульлем даліны!
А па-за мурам не было ніякай сплаканай Дзяўчыны!
Ніякіх вуснаў, ні вачэй! Ні ў кветках лёсу залатога!
Бо толькі голас там і быў! Адзіны ён — і больш нічога!
Нічога—толькі плач, і жаль, і страта, і цямрэча цішы!
О бедны сьвет! Нядобры сьвет! Чаму ня можа быць ён іншы?
З прычыны здрады зманных сноў і цудаў, што ня сталі явай,
Палеглі молаты на дол у знак завершанае справы.
І быў жах цішы! І пустэль у небе. А ты ў той пустэлі
Чаму дрыжыш, калі яна яшчэ ня цьміцца ў тваім целе?

## СЬВІДРЫГА Й МІДРЫГА

То ня конь стрыжэ вушамі, коню даўгалыгі,
Гэта скачуць два прапойцы — Сьвідрыга й Мідрыга.

А ня так дрыжыць і ходзіць пад цапом стадола,
Як той поплаў пад ступнёю цубкай і вясёлай.

Напаткала іх на сонцы Мара-шаляніца
І ня можа на танцораў-зухаў надзівіцца.

Зазірнула ім у вочы, бы ў калыску, з прагай:
«Хто мяне перетанцуе, з тым у ложак лягу!»

А Сьвідрыга: «Мае будуць твае шыя й грудзі!»
А Мідрыга яму кукіш: «Спаць са мною будзе!»

Той адну руку аблапіў, гэты ўзяў другую:
«Паглядзім, дзявотка-скнара, хто ператанцуе!»

А яна ім проста ў вусны дыхае без дыху,
А яна ім проста ў вочы сьмяецца паціху.

Разьдзялілася пароўну, раздзёрлася жвава:
Адна дзеўка стала зьлева, а другая — справа!

«Досыць маем тут на лузе дваістага цела!
Таньчы з намі, покуль сонца за гару ня села!

У цябе рукі чатыры — і столькі ж падвохаў!
Напаі ж сараматою сваёй выпівохаў!»

І злажыліся да скокаў, нібыта да бою,
Прыбавілі кветкам гвалту, долу — непакою.

Таньчыў зь леваю Сьвідрыга, а Мідрыга — з правай,
Той абцасам пыл узьвейваў, а гэты халявай.

То ў прысядку, то з падскокам, а то з выдрыгонам —
Патапталі канюшыну, мяту і рамоны.

Першы кажа: «Дык сканай жа!», а другі «Наліха!»
Танцавалі аж да ўпаду і ажно да здыху!

Аж пачулі, што дзяўчына на падмогу кліча —
І памерла адначасна ў двух сваіх абліччах.

«Будзем гараваць над ёю мы ня надта шчыра,
Бо іх дзьве было ў скоках, а ў сьмерці — чатыры.

Пахаваем на кладзішчы, дзе за дрэвам — дрэва,
Скажам пацеры супольна — і правай, і левай».

У дзьве труны яе паклалі, ды ў адну магілу —
А ўжо скачуць тыя труны каля іх што сілы!

Скачуць, заглынуўшы целы, сыта і прапашча,
І штораз на іх з падскокам разяўляюць пашчы.

Скачуць, круцяцца й вірують з грукатам і звонам,
То ў прысядку, то з падскокам, а то з выдрыгонам.

І ўжо сьмерць ў абдымку зь імі круціцца і сьвішча,
А здрыгаюцца вантробы згубнага кладзішча!

Аж згубіла сябе кола скокаў тых страхотных!
Аж зрабілася пад долам весела й грымотна!

Аж глузды папагублялі Сьвідрыга-Мідрыга,
Бы вятрыска іх на крылах ветрака раздрыгаў!

І нашчэнт яны забылі ў той крутні цямравай,
Дзе бок сьвету левы будзе, а дзе будзе правы?

І ў якой труне якая дзеўка спачывае?
І якую пасьля сьмерці кожны зь іх прыдбае?

Гэткая ў вачох цем-неразьбярыха,
Што ня знаюць, хто Сьвідрыга, а хто зь іх Мідрыга?

Ды зірнула сьмерць з прадоньняў, ад бязьмеру чорных:
Будзеце вы тут як дома спрытныя танцоры!

Аднаму труна вось гэта, другому — другая,
Тутка вечнасьць правым вокам, левым — там міргае!»

Звар'яцелыя над прорвай ўкленчылі з адчаем,
На кукірках заскакалі па-над яе краем.

Заскакалі на карачках, заскакалі плазам,
Так і гэтак — і разгэтак — разам і ня разам!

Як укручаныя ў цемру трунаў тых, як трэскі,
Дагары нагамі ў прорву палялеці з трэскам!

**Пераклад з польскае мовы Алега МІНКІНА**







**Аляксандр ЛАРЫЁНАЎ — мастак, сустаршыня Фонду сучаснага мастацтва, выкладчык Гродзенскага дзяржаўнага універсытэта імя Янкі Купалы. Меў выставы ў Гродне, Маскве, С.-Пецярбурзе, у гарадох Літвы, Польшчы, ЗША.**



**Аляксандр ЛАРЫЁНАЎ**

## КЕРАМІКА УЛАДЗІМІРА ЦЕРАБУНА

Ёсць таленты, якія прыходзяць у свет з прадказальнасцю грыбнога дажджу ў верасні. Прыроднасць і заканамернасць такога дару настолькі відавочная, што «дажджовая» метафара не здаецца паэтычнаю вольнасцю і цалкам суадносіцца з тым новым, што з'явілася за апошнія гады ў творчасці гродзенскага скульптара Уладзіміра Церабуна.

Яго імя добра вядомае ў краіне. Сваю мастацкую біяграфію ён распачаў з мемарыяла ў вёсцы Дальва, вядомае як «сястра Хатыні». Выпускнік тэатральна-мастацкага інстытута («Дальва» была дыпломнаю працаю) стаў уладальнікам прэстыжнае, паводле мерак тых векапомных 70-х гадоў, прэміі. Малады скульптар адразу ж увайшоў, як той казаў, у «абойму», узваліўшы на сябе ношку майстры манументальна-дэкаратыўных работаў.

Прайшоўшы за гэтыя гады нялёгкую спакусу заказных і, як вядзецца, у падобных выпадках, халодна-афіцыйных твораў, Церабун не згубіў сябе. Майстар (а я бяру гэта слова ў філонаўскім разуменні) з цягам гадоў стаў мудрэйшы, значыць спакайнейшы, безстароннейшы, а таму і больш узнёслы. Ён проста (ох, як не проста) вярнуўся да таго, з чаго пачынаў у сваім вясковым дзяцінстве, а пазней — у інстытуце, да таго, з чаго, у рэшце рэшт, пачынаў і Бог — да гліны. Церабун нібы паўтарыў няспешную логіку прыроды. Ад вялікіх і не заўсёды жыццяздольных, часцяком асуджаных на няўважлівае парадна-музейнае спазіранне, рэчаў ён перайшоў (а дакладней — прыйшоў) да стварэння камерных, але па-мастацкаму энергаёмкіх твораў апошніх гадоў. Праўда, ужо выстава ў Дубне (акадэмгарадок, што пад Масквою), падводзячы вынік зробленаму за дзесяцігоддзе такімі працамі як «Ясь і Яніна», «Жалейка», «Рэха», серыі адмысловых малюнкаў прыадкрыла перад дасведчаным гледачом «новага Церабуна», яму самому, майстру, яшчэ невядомага, але ўжо гатовага адыйсці ад мастацкага тлуму ў «катакомбы», да «новае веры».

Аднак Богу было заўгодна, а Церабуну, трэба думаць, неабходна, каб прайшло яшчэ колькі гадоў, напоўненых жывою працаю па арганізацыі Фонду сучаснага мастацтва, перш чым сярод гіпсавага «пагалоўя» яго майстэрні з'явіліся першыя сціплыя гаршчкі, ванна з сырою глінаю, ганчарнае кола. Валоданне ганчарным колам даўнейшым і бывалым, якое дасталося Уладзіміру ў спадкі ад ужо памерлага вясковага майстры, мела для яго значэнне паваротнае, амаль сімвалічнае, значэн-



не ці не кола Фартуны, якое, вядома, не адразу, але няўмольна хіліла майстра да сябе самога, да колішніх творчых задум, да ўзнёслае прасторы мастацкіх развязак. Усё вяртаецца на кругі свае. На ганчарныя — гэтаксама.

Гліняныя гаршчкі і вазы Церабуна, на паверхні якіх гралі водблескі першавытокаў, былі школаю спасціжэння формы, сугучнае як прыродным утварэнням, так і высокім узорам архаічных культураў (ад керамікі Трыполля да беларускага сялянскага пачыння). І з гэтага пункту адкрываліся захапляльныя далягляды. Усе прапрацоўкі ў гліне традыцыйных формаў керамікі сталі, па-сутнасці, прэлюдыямі да творчых тэмаў апошніх двух гадоў, якімі напоўніцу былі выказаны пластычныя магчымасці гліны. Пад рукамі майстры кераміка ператваралася ў вытанчаныя, разнастайныя ў фактурных знаходках і новыя паводле свае змястоўнае зададзенасці **сасуды.** Гэткая навіна п'яніла. Прырода станавілася сутворцам новых каштоўнасцяў, падказваючы майстру ў сваіх камянёх, у кары дрэваў, у пладох, у лісцях формаўтваральныя прыёмы. Спакваля скрозь фактурныя напластаванні пачалі праступаць абрысы чалавечага цела. Сасуды Церабуна трансфармаваліся ў **сасуды-скульптуры.** Адбыўся цуд сімбіёзу, злітнасці двух, толькі да часу разведзеных уласцівасцяў творчае натуры майстры. У «Любові» (так называўся першы з гэтага шэрагу сасуд-скульптура) напэўна знаходзіліся гэтыя злучальныя «прысушныя зёлкі». Старая як свет гульня мужчынскага і жаночага пачаткаў, гэтых інь і янь усходняе пачуццёвае філасофіі ператворана скульптарам у эстатычным вобразе юнака і поўным чакання вобразе дзяўчыны. У



рэльефе, месцамі высокім, гатовым вось-вось адлучыцца ад свайго сасуда, перададзены майстрам векавечныя ўласцівасці гэтага «танца кахання». Скульптурнасць, выляпленасць гэтых пастаў не толькі не спрачаецца з традыцыйнымі формамі сасуда, але, наадварот, стварае тонка мадэляванымі, чуйнымі абрысамі ўсё яе непаўторнае хараство.

Удача майстра была гэтак відавочная, а тэма настолькі ўдзячная, асэнсаваная ў шматлікіх пластычных спробах і малюнках (а гэта адзін з моцных бакоў, але, нажаль, рэдкіх для большасці скульптараў церабунавага дару), што не развіць яе ў нешта большае, нават канцэнптуальнае было нельга. Вось чаму сёння на яго рабочым станку знаходзіцца складаная кампазіцыя, якая разгортвае «формулу кахання» у «грэшную і святую» гульню яе складальнікаў. Скульптуры, сасуды-скульптуры, пласты — усё ўвойдзе ў яе як узаемазвязаныя і ўзаемазалежныя часткі цэлага.

Нязменна, тэмаю кахання, праз усю творчасць Уладзіміра Церабуна прайшоў вобраз Сымона-музыкі. Развязаны яшчэ на пры канцы 70-х гадоў у дрэве і паказаны на шматлікіх выставах, ён, па-сутнасці, стаў эмблемаю скульптара і, вядома, не мог не ўвасобіцца на новым этапе яго творчасці ў кераміцы. Узнік сасуд-скульптура «Сымон-музыка» адзін з найбольш удалых, на мой погляд, твораў майстры. Коласаў, а пасля і народны, вобраз юнага музыкі — душы свету, якая злучана з прыродаю незлічальнымі сувязямі — гэта фактычна размова пра найгалоўнейшае ў мастацтве: пра шчырасць, гармонію, красу. Пра дзіцячасць. Жыць ва ўнісон з прыродаю, быць чуйным да рытмаў космасу, да па-



этычных, а таму слушных, вобразаў быцця. Гэтым сэнсам, густым як старое віно, напаўняе Церабун свой сасуд, з якога праступае чуйная да свету, укленчаная пастава хлопчыка — alter ego самога майстры.

Сасуды-скульптуры Церабуна — жывыя. Мяркую, для кожнага мастака гэтае слова абазначае найвышэйшую пахвалу, якая пазначае здольнасць твора мастацтва жыць нейкім містычным, адасобленым жыццём, выступаючы ў часе сваімі новымі іпастасямі. Я пераканаўся ў гэтым, бачачы працы майстры ў розных інтэр'ерах, уключаючы палац выставаў у Мінску. І што ж? — танаваныя асобым **земляным** колерам (сокам зямлі?), праз якія праступае на выгнутасцях наздрыстая, порыстая фігура гліны, яны здаваліся спараджэннем самога нашага няхітрага беларускага ландшафту, братамі камянёў, карчагаў на беразе безназоўнае рэчкі. Прыроднасць — не толькі ўласцівасць сасудаў-скульптураў У. Церабуна. Такімі ж «землянымі», амаль археалагічнымі асаблівасцямі надзелены і шматлікія гліняныя скульптуры майстры, бо гледзячы на іх, менш за ўсё думаеш пра іх рукатворнасць. Здаецца, што тэктанічныя рукі зямных пластоў, з укропленымі ў іх асклепкамі паданняў, змянілі гэтыя целы-камяні. І нацiна «старажытнасці», якая з'яўляецца адметнаю асаблівасцю скульптурных мініятураў, правакуе на падобныя асацыяцыі. Пастаўленыя пэўным чынам на доўгую паліцу майстэрні, яны ўяўляюць сабою захапляльную, амаль кінематаграфічную разгортку пластычна ўвасобленых пачуццяў-эмоцый. Увесь спектр чалавечага быцця ад скульптуры да скульптуры яшчэ раз пераконвае гледача сваёю бясконцаю разнастайнасцю. Вядома,



асаблівасці матэрыялу не даюць магчымасці надаць гэтай разнастайнасці псіхалагічную ньюансавасць. Гэта хутчэй увасабленыя ў гліне тыпы чалавечых эмоцый: любоў — каханне — адчай — захапленне — скруха... Нуклеінавая формула-ланцужок. А ў цэнтры гэтага бясконцага шэрагу — сакраментальныя «Двое». Некалькі парных скульптур, зробленых на гэтую тэму, сцягваюць «паловы» — «мужчынскую» і «жаночую» — у жыватворную лучнасць.

І тады ў маім, г. зн. зрокавым, уяўленні паўстаюць радэнаўскія рукі Творцы, як рукі самой Прыроды. Імя вялікага француза прыгадалася нездарма. Таксама як і Радэн — Церабун пазбягае слова «натхненне», аддаючы перавагу «працы». Ён не чакае нябёснае інспірацыі. Праца кожнага дня — вось умова яго творчых набыткаў. І нескачальная (хочацца думаць так) «лава» сасудаў, скульптураў, «вылiваная» з яго майстэрні сведчыць, што Бог любіць апантаных.







Генадзь СЕМЯНЧУК — спэцыяліст па археалёгіі, гісторыі і гістарычнай геаграфіі сярэднявечнае Беларусі. Аўтар звыш дзесяці навуковых прац. Кандыдат гістарычных навук. Працуе ў Гродзенскім дзяржаўным унівэрсытэце імя Янкі Купалы.



Генадзь СЕМЯНЧУК

# ГІСТОРЫК МІЛАСЦЮ БОЖАЙ

**...Любеце ворагаў вашых, слаўце праклінаючых вас, рабеце дабро ненавідзячым вас і малецеся за крыўдзячых вас і праследуючых вас ... Будзьце беззаганнымі, як беззаганны Ацец ваш, што ў нябёсах (Паводле Мацьвея. 5; 44,48 (Новы запавет)**

Праз год пасля смерці Міхася Ткачова (10.03.1942—31.10.1992) усё больш відавочна робіцца, што лакуну, якая з'явілася ў духоўным жыцці Беларусі з яго адыходам, ніхто не зможа запоўніць. Занадта вялікая ды глобыкая была асоба... І не толькі ў памерах і маштабе справа. Аўра, якую гэты чалавек выпраменьваў, надавала непаўторныя адценні ўсяму, да чаго ён дакранаўся, да чаго меў дачыненне. Старонкі ягоных кніжак дыхаюць любоўю, верай і надзеяй на Адраджэнне велічнага мінулага нашай краіны. Для яго непарыўна звязаны былі гісторыя, сучаснасць і будучыня. Сваёй постаццю Ткачоў быццам бы ўвасабляў гэтую повязь вякоў, з'яўляючыся адначасова гісторыкам і палітыкам, археолагам і актыўным дзеячом новага беларускага Адраджэння. Быццам бы ён жыў не ў трох, а ў чатырох вымярэннях, што ўласьціва толькі Гісторыкам «міласцю Божай».

Гэта было зразумела яшчэ сумнавядомаму Лаўрэнцію Сямёнавічу Абэцэдарскаму ,які, аднак, спрактыкаваным вокам адразу разгледзеў у руплівым і дапытлівым студэнце «надзею» беларускай гістарычнай навукі. Тады ж на студэнцкай лаўцы БДУ Міхась Ткачоў прафесійна загартоўваўся ў архіўных і бібліятэчных росшуках. Вынікам іх была выдатная дыпломная праца пра гісторыю яго роднага Мсціслава — першая ластаўка ў навуковым паднябессі маладога даследчыка, якая, як перад даждажом, ляціць не высока над зямлёй, але вельмі ўпэўнена і лёгка.

З гадамі далягляды пашыраліся. Прага вывучаць сярэднявечча прывяла Міхася Ткачова ў аспірантуру інстытута гісторыі Акадэміі Навук. Лёсам было наканавана, каб ён стаў не кабінетным гісторыкам, а рамантыкам-археолагам і маладыя гады правёў у экспедыцыях, разведках, у таварыстве аднадумцаў, якія разам з ім абыйшлі ўсю Радзіму, адкрываючы для сябе і людзей яе незлічоныя багацці, скарбы чалавечых душ і гісторыі. Як гэта ўзбагаціла яго ўласны ўнутраны свет, ведаюць усе, хто сутыкаўся і размаўляў з Міхасём Ткачовым. Дарэчы, ён не апавядаў, а ствараў маляўнічыя абразкі, якія з кожнай новай сустрэчай і размовай складаліся ў шырокую панараму, дзе перапляталіся і ажывалі падзеі сівой даўніны і перыпетыі яго падарожжаў, сустрэчы з рэальнымі цікавымі людзьмі і героямі мінулых стагоддзяў. Палітра фарбаў яго заўсёды была яркай і шчодрай, ён не шкадаваў колераў ані ў вусных сваіх апавяданнях, ані ў навуковых кніжках. Таму працы яго разыходзіліся адразу сярод чытачоў і заўсёды мелі попыт. Так атрымалася з першымі навуковымі манаграфіямі, напісанымі паводле кандыдацкай дысертацыі, «Замкі Беларусі» (1977) і яе перавыданнем на рускую мову (1987), з кнігай «Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст.» (1978), а таксама і з апошняй — «Замкі і людзі» (1991).

З цягам часу Міхась Ткачоў стаў непераўзыдзеным знаўцам абарончага дойлідства не толькі Беларусі, але і ўсёй Усходняй Еўропы. У 1972 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму «Вайсковае дойлідства Беларусі XIII—XVIII стст. (па помніках паўночна-заходняй і паўднёва-заходняй Беларусі)». Праз 15 гадоў з поспехам была абаронена доктарская дысертацыя «Арганізацыя абароны гарадоў Беларусі XIV—XVIII стст.». Ім напісана больш за 100 навуковых прац па праблемах сярэднявечнай Беларусі. Пад яго таленавітым пяром ажылі карціны замкавага жыцця, пабудовы ўмацаванняў, варожых аблог і мужнай абароны беларускіх замкаў. Гэта быў вынік шматгадовай напружанай працы як у архівах, так і ў археалагічных экспедыцыях.

Пачынаючы з 1969 года амаль 20 гадоў ён праводзіў раскопкі гарадоў і замкаў у Панямонні (Гродна, Навагрудак, Ліда, Крэва, Мір, Геранёны, Маладзечна, Мядзель, Любча і інш.), Падзвінні (Віцебск, Іказнь, Браслаў, Дрысвяты, Сураж, Гарадок і інш.), Падняпроўі і Пасожжы (Магілёў, Шклоў, Мсціслаў, Гомель, Крычаў, Прапойск, Брагін, Чачэрск, Горкі і інш.). Як адзначыў Я. Звяруга, на падставе значнага археалагічнага матэрыялу і пісьмовых, іканаграфічных, картаграфічных крыніц, М. Ткачоў паказаў эвалюцыю і галоўныя этапы развіцця беларускага вайскова-інжынернага мастацтва і тактычных схемаў арганізацыі абароны замкаў і населеных пунктаў. На змену драўляна-земляным абарончым умацаванням папярэдняга часу з XIII ст. прыходзяць каменныя вежы-данжоны (Камянец, Горадня, Бярэсце, Наваградак, Тураў, Полацк) і далей да агульнадзяржаўных замкаў-кастэляў (Ліда, Крэва, Меднікі) і шматвежавых замкаў (Горадня, Наваградак). З канца XV ст. і да XVII ст. адбываецца інтэнсіўнае будаўніцтва прыватнаўласніцкіх замкаў (Мір, Геранены, Іказань, Мядзел, Любча і інш.), удасканальваецца сістэма ўмацаванняў гарадоў (Слуцк, Полацк, Віцебск і інш.); з'яўляюцца інкастэляваныя храмы, своеасаблівыя замкі (Сынкавічы, Мураванка, Полацак, Супрасль і інш.). Апошнія помнікі Міхась Ткачоў называў «выразнай і яскравай рысай беларускага ваеннага дойлідства сярэднявечча». А з сярэдзіны XVI ст. у Заходняй Беларусі ўзводзяцца замкі еўрапейскага тыпу з бастыённаю сістэмаю (Нясвіж, Заслаўе, Быхаў і інш.). Увогуле, на думку М. Ткачова, ваенна-манументальнае дойлідства Беларусі ў сярэднявеччы заўсёды адпавядала патрабаванням часу і стварала прыгожае архітэктурна-мастацкае аблічча нашых гарадоў і сядзіб. Сваімі навуковымі працамі ён даказваў, што беларускі народ з яго гісторыяй і культурай займае пачэснае месца сярод іншых еўрапейскіх народаў.

Цікавіла Міхася Ткачова і вайсковая гісторыя ўвогуле. Нескончаная засталася кніга аб вайне Расіі з Рэччу Паспалітай у 1654—1667 гг. (матэрыялы да яе друкаваліся ў №№ 1—2 «Беларускага гістарычнага часопіса» за 1993 г.). Гісторыя была яго жывой рэальнасцю, у якой сам ён існаваў і дыхаў на поўныя грудзі.

З 1979 года лёс Міхася Ткачова быў звязаны з горадам Гродна і размешчаным тут універсітэтам. Выдатны навуковец, таленавіты выкладчык, актыўны грамадскі дзеяч і шчыры палітык, ён пакінуў значны след у жыцці і душы многіх гарадзенцаў. Незвычайна цікава было слухаць лекцыі Міхася Аляксандравіча. З якой любоўю і шчырым захапленнем ён апісваў сярэднявечную прыгажуню, альбо напружанае гаспадарчае і культурнае жыццё беларускіх гарадоў. Красамоўства яму было не займаць. Дарэчы аб дзяржаве старажытных беларусаў — Вялікім княстве Літоўскім — студэнты Гродзенскага

універсітэта ўпершыню пачулі з вуснаў Міхася Аляксандравіча. Тады, у змрочныя для беларускай гісторыі і культуры 80-я гады на сваіх лекцыях ён праводзіў «крамольную» думку аб тым, што ў XIII ст. менавіта Вялікае княства Літоўскае выступала цэнтрам збірання ўсходнеславянскіх зямель пад пагрозаю з боку знешніх ворагаў (татараў і крыжакоў) і на больш прагрэсіўнай аснове чым Маскоўская зямля.

З асаблівай любоўю Ткачоў ставіўся да горада над Нёманам, вельмі часта і не без падстаў называючы яго «сапраўдным музэем пад акрытым небам». Ён даволі актыўна прымаў удзел у яго археалагічным вывучэнні. Яшчэ ў 1971 г. М. Ткачову ўдалося прасачыць сістэму абарончых умацаванняў раннясярэднявечнай Горадні: з напольнага боку знаходзіўся земляны вал, на вяршыні якога і па перыметру заселенага мыса быў пастаўлены драўляны вастракол, які з часам замянілі зрубнымі гароднямі. У 80—90-х гадах XII ст. на змену драўляным абарончым каструкцыям прыйшлі мураваныя сцены з плінфы. Менавіта гэтае выдатнае адкрыццё было зроблена праф. Міхасём Ткачовым разам з А. Трусавым і санкт-пецярбургскімі даследчыкамі П. Рапапортам і Л. Бальшаковым пад час археалагічных раскопкаў у 1984—1988 гг. на Старым Замку. Абарончы мураваны комплекс старажытнай Горадні XII ст. з'яўляўся ўнікальным для тагачаснай Усходняй Еўропы. Дастаткова адзначыць, што падобныя адсутнічалі на той час у Кіеве, Ноўгарадзе, Полацку і іншых значных гарадох. Таксама М. Ткачоў прычыніўся да яшчэ аднаго адкрыцця ў нашым горадзе. У 1980 годзе комплексная экспедыцыя ў складзе Спецыяльных навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрань Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь (кіраўнік І. Чарняўскі) і гістарычнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы (кіраўнік М. Ткачоў) раскапалі рэшткі праваслаўнага храма XII ст. (сёння тэрыторыя былых базыльянскіх муроў XVII—XIX стст.). Гэта была Прачысценская царква, пабудаваная ў лепшых традыцыях «гродзенскае архітэктурнае школы». Праводзіў ён даследзіны і ў іншых гістарычных раёнах Горадні: на Каложскім плато, каля касцёла і кляштара Бернардынцаў, у раёне вуліц Замкавай і Вялікай Траецкай, у Занёманскай частцы, ля комплексу Францішканскага кляштара. У выніку аналізу атрыманага археалагічнага матэрыялу Міхась Ткачоў рэальна выношваў ідэю і план адзначыць 1000-годдзе старажытнай Горадні у 2000-м годзе. І адна з апошніх яго навуковых прац была прысвечана гэтаму гораду — «Археалагічныя помнікі г. Гродна» у зборніку «Археалагічныя помнікі Гродзеншчыны», выдадзеным у 1992 годзе.

Але ізноў жа лёс вырашыў па-свойму. У 1989 годзе прыйшлося пакінуць шчыра ўлюблёную Горадню і пераехаць жыць і працаваць у Менск. Тут адыграла сваю ролю і тая непрыемная атмасфера, якую стварылі вакол М. Ткачова і яго імя пэўныя асобы і палітычныя сілы ў горадзе. Але ў большай ступені на яго рашэнне пакінуць Го-

радню паўплывала распачатае на Беларусі нацыянальнае Адраджэнне, якое заўсёды займала месца ў яго душы і жыцці.

Як пастунова высвятляецца, Міхась Ткачоў быў не толькі прафесійным знаўцам беларускае гісторыі, але і сам з'яўляўся яе суб'ектам і творцам. Як засталіся ўпісанымі залатымі літарамі ў кнігу памяці пачынальнікі ўсіх чарговых уздымаў нацыянальнай свядомасці на Беларусі (Адраджэння XVI, XIX, XX ст.ст.), так і Міхасю Ткачову раней за іншых яго аднадумцаў і паплечнікаў, стваральнікаў Беларускага народнага фронту і Беларускай сацыялістычнай Грамады наканавана было ўвайсці ў гісторыю. І гэта вельмі сумна. Ён шмат яшчэ мог зрабіць дзеля таго, каб сённяшні працэс Адраджэння на Беларусі быў апошнім, а не чарговым і даў багаты плён.

## БІБЛІЯГРАФІЯ ПРАЦ МІХАСЯ ТКАЧОВА

1. Белорусский феодальный город XIV—XVIII вв. (структура и организация обороны): Диссертация... д-ра ист. наук. Гродно, Гродн. гос. ун-т. 1985.

2. Организация обороны городов Белоруссии XIV—XVIII вв.: Автореф. диссертации д-ра ист. наук. Менск, Інстытут гісторыі АН БССР, 1987.

3. Военное зодчество Белоруссии XIII—XVIII вв. (По памятникам сев.-зап. и юго.-зап. Белоруссии): Автореф. диссертации... канд. ист. наук (00.06). Менск, Інстытут гісторыі АН БССР, 1972.

4. Замкі Беларусі (XIII—XVIII стст.). Менск: Полымя, 1977 (1-е выданне); Менск, Полымя, 1987 (2-е выд. па-расейску).

5. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Менск: Навука і тэхніка, 1978.

6. Замкі і людзі. Менск: Навука і тэхніка. 1991.

7. Беларуская кафля. Менск: Беларусь, 1989 (разам з В. Собалем, А. Трусавым, У. Угрыновічам).

8. Старажытны Мсьціслаў. Менск: Полымя, 1992 (разам з А. Трусавым).

9. Вялікае мастацтва артылерыі. Менск: Навука і тэхніка, 1992 (разам з А. Бельскім).

10. Каменное зодчество // Очерки по археологии Белоруссии. Менск: Навука і тэхніка, 1972, ч. 2 (разам з Г. Штыхавым).

11. Асьвета і педагагічная думка Беларусі (са старажытных часоў да 1917 г.). Менск: Народная асьвета, 1985. (У сааўтарстве).

12. Гісторыя беларускага мастацтва, тт. 1—2, Менск: Навука і тэхніка. 1987—1988. (У сааўтарстве).

13. Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. У 8-мі т. Менск, 1984—1987. Брэсцкая вобл. — С. 147—148, 162, 196—197, 254—255, 325; Віцебская вобл. — С. 146—147, 150—151, 284—285, 286, 289—290, 370, 376; Гомельская вобл. — С. 52, 358; Гродзенская вобл. — С. 78—80, 102—103, 200, 273—274, 328—329; Магілеўская вобл. — С. 303—305; Мінская вобл. — С. 46.

14. Новае пра Сафійскі сабор // ПГіКБ. 1972. № 2. С. 18—23.

15. Вежы валынскага тыпу і іх распаўсюджаньне на Беларусі // Беларускія старажытнасьці. Менск, 1972. С. 312—331.

16. Средневековый Витебск // Тезисы докладов советской делегации на V Междунар. конгрессе славянской археологии. Москва. 1985. С. 71—74 (разам з Л. Калядзінскім і Т. Бубенька).

17. Памятник древнерусского зодчества в гродненском детинце // Памятники культуры. Новые открытия. 1987 г. Москва, 1988. С. 461—467 (разам з Л. Бальшаковым, П. Раппапортам і А. Трусавым).

18. Пісьменьнікі, гісторыя і «рэвізоры» // Полымя, 1989. № 7. С. 200—213.

19. Нацыянальныя сімвалы: народ і гісторыя // З гісторыяй на «Вы». Менск, 1991. С. 331—354.

20. Археалагічныя помнікі г. Гродна // Археалагічныя помнікі Гродзеншчыны. Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі. Горадня, 1992. С. 5—22.





Янка ТРАЦЯК аўтар шэрагу артыкулаў па гісторыі культуры Беларусі і краязнаўству. Працуе ў Гродзенскім дзяржаўным унівэрсытэце імя Янкі Купалы.



Янка ТРАЦЯК

# ВОЛАТЫ ДУХА, ВЕДЫ І СЬВЯТАСЬЦІ

А. Дзедінка, аўтар артыкула пра Льва Гарошку, назваў выкладчыкаў Львоўскай грэка-каталіцкай акадэміі мітрапаліта Андрэя Шэптыцкага, д-ра Язэпа Сьліпія і іншых прафэсараў, якія былі надзейнай гарантыяй добрай славы гэтай акадэміі такімі словамі: «Волаты духа, веды і сьвятасьці»[1]. Гэтыя словы можна з упэўненасьцю аднесьці і да аднаго з самых таленавітых студэнтаў гэтай акадэміі — Льва Гарошкі. Ён унасьледаваў ад сваіх вялікіх настаўнікаў і дух, і веду, і сьвятасьць.

«Волатам працы і беларускім энцыкляпэдыстам» характарызаваў Льва Гарошку біскуп Часлаў Сіповіч[2]. Ён добра ведаў айца Льва з яго працы, і на Беларусі, і на эміграцыі. Добра ведаў яго навуковыя дасьледаваньні, яго архівы, матэрыялы, ведаў яго штодзённую руплівасьць у пошуках кніг, і асабліва беларускіх кніг, дакумэнтаў і першакрыніц — усяго, што мела дачыненьне да навукі ў самым шырокім сэнсе гэтага слова.

«Любоў да кніжкі — бяз сумніву гэта характэрная рыса айца Льва, — піша Часлаў Сіповіч. — Яны былі неабходны яму дзеля ягоных шматлікіх зацікаўленьняў: багасловія, гісторыя беларускай царквы, гісторыя літаратуры, мовазнаўства, этнаграфія, прыроназнаўства, мэдыцына... — вось галіны ведаў, якімі ён цікавіўся ўсёй сваёй душой»[3].

Таму і ня дзіва, што з-пад яго пяра выходзілі кнігі і артыкулы сама разнастайныя ў навуковым зьмесьце. Калі ж яшчэ ўлічыць, што Леў Гарошка апрача роднай мовы ведаў украінскую, расейскую, польскую, нямецкую, французскую, чытаў і гаварыў з патрэбы па ангельску і італьянску, а ў духоўнай акадэміі вывучаў старажытна-

грэцкую і старажытна-габрэйскую, то можна з упэўненасьцю сказаць, што быў ён навукоўцам роўным эўрапейскаму навуковаму асяродку. Веданьне моў давала доступ да першакрыніц па сусьветнай і эўрапейскай культуры і гісторыі, а зацікаўленасьць навукамі, тэалягічная адукацыя і глыбокая набожнасьць, вялікая любоў да роднай зямлі і свайго народу і жаданьне бачыць гэты народ аб'яднаным адзінаю вераю вакол Хрыста, вольным і высокаадукаваным народам—было галоўнаю прычынай такой актыўнай яго дзейнасьці і працы.

Нарадзіўся Леў Гарошка 26 лютага 1911 года ў вёсцы Трашчычы, у Стаўпецкім павеце (цяпер Карэліцкі раён, Гродзенская вобласьць). Ахрышчаны быў у царкве ў Турцы. Бацькі былі афіцыйна праваслаўнымі, а дзед захоўваў традыцыі старой (уніяцкай) веры і сьпяваў уніяцкія песьні.

Пачатковую навуку будучы сьвятар праходзіў у роднай вёсцы, затым вучыўся ў вёсцы Ярэмічы і мястэчку Мір. Даводзілася пераходзіць з адной школкі ў другую паводле таго, як яны рабіліся польскімі. Калі ж скончыў сямігодку ў Міры, ён у 1927 годзе здае экзамены ў тэхнічную школу ў Вільні, але па стану здароўя яго туды не прынялі і ён быў вымушаны вярнуцца ў родную вёску. У наступным годзе Леў паступае ў адзіную беларускую навучальную ўстанову ў Наваградзкім павеце (усе беларускія школкі былі ўжо закрытыя польскімі ўладамі) — у Наваградзкую беларускую гімназыю, у гэтую цудоўную «калыску талентаў»[4]. Варта нагадаць, што гэтым часам тут вучыліся такія будучыя постаці сусьветнае навукі і дзеячы нацыянальнага адраджэньня як прафэсар Барыс Кіт (Кіта) і Аляксей Анішчык. Дарэчы, у хуткім часе павінна выйсьці з друку манаграфія Аляксея Анішчыка пра Наваградзкую беларускую гімназію. «Кніга апрабаваная прафэсарам Міхасём Ткачовым з дадатняй рэцэнзіяй прафэсара Барыса Кіта»[5]. Мы ж толькі нагадаем, што гэту гімназію скончылі ў свой час прафэсары Ала Орса і Леанід Барысаглебскі, доктар Юльян Сак, паэты Анатоль Іверс і Ніна Тарас.

А вось, што ўзгадвае пра гімназію Леў Гарошка: «Для ўзгадаваўчае працы Наваградак меў шмат выняткова спрыяючых даных. Гэта ж горад з багатым гістарычным мінулым: гэта першая сталіца Вялікага Літоўскага (у сёньняшнім значэньні Беларускага) Княства. Узгорак Міндоўга, Замкавая Гара з руінамі магутнага замку, Барысаглебская і Фарная цэрквы, недалёкая Літвінка, цікавыя археалягічныя знаходкі пад час розных раскопкаў — усё гэта жывыя сьведкі слаўных старонак беларускае гісторыі, якія кожнаму беларусу наагул, а вучням беларускае гімназіі ў асаблівасьці маглі прамаўляць сваім нямым маўчаньнем больш чым пісаным словам. Гэтыя памяткі былі нязвычайнымі настаўнікамі, ад якіх можна было навучыцца любіць родны край і народ.

Я вучыўся ў гімназіі якраз тады, калі яна перажывала свой лепшы час. Лік вучняў павялічваўся з году ў год, і стары наняты будынак на рагу рынкавае плошчы станавіўся зусім нездавальняючым для

яе патрэбаў, і дырэкцыя парабіла захады, каб мець уласны адпаведны будынак. На пачатку 1929 года быў створаны Камітэт Будовы Гмаху Беларускае Бурсы ў Наваградку. Старшынёй яго згадзіліся быць старасьціха Т. Грынеўская, а заступнікам старшыні быў адвакат Павал Сьвірыд. Камітэт адразу энэргічна ўзяўся за працу. Настаўнікі і вучні хадзілі па ваколічных вёсках з падпіснымі лістамі. Ня гледзячы на беднасьць сялянства ахвярнасьць была вялікая і ўжо да восені распачалі будову гмаху»[6].

Дырэктарам гімназіі, настаўнікам беларускае літаратуры і францускае мовы быў спадар Янка Цеханоўскі. Пра гэтага дзеяча беларускага школьніцтва неабходна расказаць больш, бо менавіта дзякуючы яму гімназія ў Наваградку з расейскай паступова пераўтварылася ў беларускую.

Нарадзіўся Ян Цеханоўскі ў 1888 годзе ў в. Якімаўцы, што на Гомельшчыне. Скончыў Менскую духоўную сэмінарыю і Пецярбургскі палітэхнічны інстытут. Служыў у Міністэрстве Дарог. У 1918 годзе вярнуўся на Радзіму. Быў дырэктарам рэальнай школы ў м. Ракаве. За актыўны ўдзел у беларускім культурна-асьветным адраджэнскім руху быў арыштаваны польскімі ўладамі і пасаджаны ў вастрог у Наваградак (1919 год). Пасьля выхаду на волю застаўся працаваць у Наваградку ў гімназіі. У 1927 годзе, пасьля трохгадовай працы ў Францыі, вярнуўся ў Наваградак і ўзначаліў кіраўніцтва гімназіяй. На гэтай пасадзе ён заставаўся да 1934 года, пакуль беларуская гімназія ня стала польскай. Апошнія гады жыцьця Ян Цеханоўскі правёў у м. Ашмяны. Памёр 6 кастрычніка 1937 года. Пахаваны быў часова ў Ашмяне, а затым у Вільні.

Як заўважае В. Грышкевіч пра Янку Цеханоўскага: «Беларускім адраджэнскім рухам захапіўся на студэнцкай лаве і прымаў дзейнае ўчасьце ў працы беларускіх студэнцкіх гурткоў у Пецярбурзе»[7]. Удзельнікам гэтага руху ён заставаўся ўсё жыцьцё. І заслуга яго ў нацыянальным адраджэньні і станаўленьні беларускага школьніцтва і асьветы вельмі вялікая.

У Наваградзкай гімназіі гэтым часам, калі вучыўся Леў Гарошка, працавалі такія выдатныя настаўнікі як А. Данілевіч і А. Мілоў. Біялёгію і прыродазнаўства вучыў Аляксандра Орса, а гісторыю Міхаіл Чатырка — актыўны ўдзельнік ТБШ у Наваградку. У канцы 20-х гадоў выяўленчае мастацтва выкладаў Язэп Драздовіч, а хорам і аркестрам у гімназіі кіраваў кампазітар Антон Валынчык.

«Урачыста адзначаліся ў гімназіі беларускія нацыянальныя сьвяты і памятныя даты, — піша Мікалай Гайба. — Беларуская моладзь прапагандавала нацыянальную культуру ў песнях, у тэатральных пастаноўках, пры гэтым часта акцэнтавала ўвагу на сацыяльнай несправядлівасці»[8].

Актыўным удзельнікам культурна-грамадскага жыцьця ў гімназіі быў і Леў Гарошка.

Высокі прафэсыйны і нацыянальна сьвядомы пэдагагічны калек-

тыў гімназіі спрыяў разумнаму навучальна-выхаваўчаму працэсу, што становуча ўзьдзейнічала на станаўленьне сьветапогляду навучэнцаў і на іх прафэсыйную арыентацыю. Старажытнае места і беларуская гімназія давалі навучэнцам трывалы фундамент любові да роднай зямлі, да яе гісторыі і культуры.

У 1931 годзе Леў Гарошка як першы сярод вучняў з добрымі вынікамі здаў экзамены за курс гімназіі. І тут перад ім паўсталі «няведамыя шляхі»: што далей? Але ўжо тады было вядомым адно: як бы ня склалася жыцьцё ў будучыні — будзе яно на карысць Бацькаўшчыны.

У маленстве Леў Гарошка марыў стаць лекарам або інжынерам-тэхнікам. Але, відаць, Богу было заўгодна ня збыцца яго марам. Здольнасьці хлопца заўважылі ў гімназіі і, дзякуючы Яну Цеханоўскаму і Антону Луцкевічу, ён становіцца студэнтам Львоўскай грэка-каталіцкай духоўнай акадэміі. Прыняты ён быў без аніякіх адрачэньняў ад праваслаўя і пераходаў у каталіцтва. Паводле цьверджаньня айца Льва блізу ніхто з вучняў Наваградзкай гімназіі не прызнаваў тых царскіх актаў, у тым ліку і скасаваньне ўніі ў 1839 годзе, якія былі накінуты сілаю[9].

У 1936 годзе Леў Гарошка скончыў акадэмію і быў накіраваны мітрапалітам Андрэем Шыптыцкім на далейшую вучобу за мяжу, у Інсбрук, дзе прабыў ён каля аднаго года. Пасьля гэтых студыяў будучы сьвятар хацеў уладкавацца на працу ў такую парафію, якая была б моцна заселена беларусамі, але Віленскі біскуп Ялбжыкоўскі не захацеў прымаць сьвядомага беларуса-уніята. Дарэчы, гэта не адзіны выпадак такіх пагардных адносінаў да беларускіх сьвятароў.

17 кастрычніка 1937 года мітрапаліт Андрэй Шэптыцкі ў сваёй прыватнай капліцы ў Львове багаславіў свайго вучня, а біскуп Мікіта Будка высьвяціў на сьвятара. Першая літургія адбылася ў Далятычах, дзе працаваў пробашчам а. Вацлаў Аношка. Прысутнічала шмат народу, у тым ліку і бацька а. Льва.

Ад гэтага часу ў жыцьці Льва Гарошкі распачынаецца новы перыяд: перыяд служэньня Богу і народу і адначасова перыяд змаганьня з польскім шавінізмам.

На працу Леў Гарошка быў прызначаны ў Любяшаў (Пінская дыяцэзія). Па суботах і нядзелях даязджаў ва Ўгрынічы, дзе польскімі ўладамі царква была закрыта, а багаслужэньні адбываліся ў капліцы. Пасьля і гэту каплічку палякі апячаталі разам з сьвятымі дарамі — Найсьвяцейшай Эўхарыстыяй. З Любяшова а. Леў у хуткім часе быў пераведзены біскупам Букрабам у Гародно (Гародная, што недалека ад Століна), а затым па асабістай просьбе быў назначаны ў Стоўбцы. Але, дзе б не працаваў Леў Гарошка, ён усюды прасьледаваўся ўладамі. Пра гэты перыяд жыцьця Льва Гарошкі яскрава сьведчаць яго лісты да беларускага сьвятара Ўладыслава Талочкі:

Ліст з Любяшова ад 29.11.37 г.[10]

Якось даўнавата ўжо як пісаў да Вас ліст, нават і не заўважыў як мінуў месяц. За гэты час нічога на лепшае не зьмянілася. Царква ў Угрынічах (бо гэта ўласьціва поле мае працы, 14 км ад Любяшава) і далей замкнёная ўладамі стаіць і сьвеціць пусткамі, а яе справа недзе таўчэцца ў Варшаве і так ведаць яшчэ доўга будзе тэўчыся. Гэты год ня далі вучыць дзяцей у Ўгрынічах, а праваслаўны бацюшка ўсіх сілаю да сябе цягне, карамі гразіць і таму падобныя камедыі робіць. Людзі тут усе апуджаныя, баяцца падаць за сябе голасу. Тут даслоўна людзі баяцца свайго ценю. А такім людзям памагчы вельмі трудна, амаль што немагчыма, ды і небясьпечна.

Жыцьцё маё вельмі манатоннае. Да нікога не хаджу і нікога ня ведаю. (...)

З простым народам так-жа ніяк ня можна спазнацца, бо ў самім Любяшаве ўніятаў амаль што няма (бацюшка добры і спрытны). І так пуста адзінока навокал. Так і сяджу ў манастырскай «келі» як труцень цэлымі днямі. (...)[11]

Ліст ад 18.04.38 г.

(...) Больш навін каля мяне няма ніякіх. Усе старыя нованкі. Нудна мне ў Горадне, таму душою мушу зараз-жа старацца, каб перанясьлі куды-небудзь. Не магу тут збыцца, ані з людзьмі, ані з парафіянамі. Хоць на... (неразборліва, магчыма—на Камчатку—Я. Т.), але, каб адгэтуль уцячы. (...)[12]

Городно/Століно.

Ліст ад 03.06.38. г.

(...) Цяпер часта хаджу на катэхізацыю школьных дзяцей. У школу і далей не пускаюць, дык я іх зьбіраю зараз па школьнай навуцы ў капліцы на могілках (якіх 4 км. ад Городна) і там вучу. Так і прыпамінаюцца катакомбы.

Нядаўна ў гэтай справе напісаў да самога міністра, бо кураторыя ніякага адказу не дала. Буду бачыць, што з гэтага выйдзе. Паліцыя ўжо зачынае вельмі прыдзірацца да ўсяго. Зьмяніўся камендант і прыехаў такі рэўны, што забараніў пробы хору царкоўнага, усякія зборы царкоўнага Брацтва, нават дзяку забараняе гаварыць з тутэйшымі паляшукамі — упрост камедыя, ды годзе. На мяне ўжо два пратаколы напісалі. За сьмецьце на вуліцы, дзьве стружкі вецер ад столяра да плоту прыгнаў, і за скрыню на сьмецьце. Вось якія мае справы. Сумна — нявесела. Езьдзіў у Пінск, каб перанесьціся, але не застаў Біскупа — цяпер на візынтацыі на Наваградчыне. Але буду старацца, каб за ўсякую цану адгэтуль вырвацца. (...)[13]

З пашанаю а. Леў Гарошка

Городно/Століно.

Ліст з Стаўбцоў.

Дарагі Отчэ!

Шчыра дзякую за карту і ліст. Пакуль што каля мяне ціха. «Тишина немая...». Замест арышту Япіскап прыслаў мне грошаў, каб я выкупіўся (заплаціў можа дзеля таго нядобра, больш як звычайна на мяне). Я і сам адчуваю якое то незадавальненьне з мае асобы з усіх бакоў...

І дзе бы я не павярнуўся ўсюды ўбачаць на мяне цэлую кучу антыпанствовасьці. Няхай ужо на Палесьсі, то я там трохі рухаўся, а тут жа сяджу, як мыш пад мятлою. Раз на месяц скажу пропаведзь (калі прыйдзе хоць з 5 чалавек, бо звычайна нікога няма) і ўжо маеш — незадаволены. Маюць нейкую фантастычную думку пра маю акцыю, якая=0 і гэтага (неразборліва — Я. Т.) баяцца розныя паны. Той стараста з Століна, што мяне перасьледаваў на Палесьсі, ужо распрашчаўся з сваім местам. Тут у Стоўпцах таксама. Мясцовы стараста так прыціснуў беларусаў, што ледзь-ледзь на валаску затрымаўся (якраз за сваю рэўнасьць мог распрашчацца з сваім месцам). І вось маю шчасьце распачынаць працу сваю ў такіх абставінах і пад... (неразборліва—Я. Т.) такіх людзей. У чым тут мая віна? Хіба ў тым, што я адмовіўся гаварыць пропаведзі папольску. Калі тут праваслаўны спрацівіўся гэтаму і гаворыць пабеларуску. Упрост дзіўна і страшна, сьвет вернецца дагары нагамі: палітыку называюць рэлігіяю, а рэлігійна-каталіцкае становішча разгалошваюць як найгоршую палітыку. Вось і выйдзі шчасьлівы з гэтага палажэньня. З япіскапам я нядумаю задзірацца. Калі часам у злосьці напішу пару вастрэйшых слоў, то гэта і так яшчэ ласка Неба. Бо ў такім асамотленым палажэньні, калі толькі сабак з толькі старон зьвягаюць, яшчэ і так маю шчасьце і благаславенства з Неба, што не апынуўся ў доме вар'ятаў, аб якім між іншым айцец успамінаў.

Вось хоць бы цяпер: сяджу даслоўна бяз жаднай працы. Ад самога раньня чакаю вечара. І так дзень у дзень. Каб меў унутраны супакой, то можа сам сабе выдумаў якую працу, занятак, а так і ўнутранага супакою няма і заняцьця няма. (...)

І калі б я меў сьвядомасьць, што маё цярпеньне Богу падабаецца, хацеў бы многа раз больш цярпець. Больш я нічога ня хочу.

Шчыра аддданы ў Хрысьце а. Леў Гарошка[14].

Калі чытаеш гэтыя сумныя лісты, то міжволі ўзьнікае пытаньне: як жа так, чаму сьвятар па духоўнаму прызваньню, толькі за тое, што беларус, стаў адным з самых непатрэбных і небясьпечных людзей. Зьвернемся яшчэ раз да слоў Льва Гарошкі: «Зрэштаю аб тым, як да мяне адносіліся польскія адміністрацыйныя ўлады, могуць сьведчыць такія факты: за адзін 1938 г. мае працы ў Городне на Палесьсі, польская паліцыя напісала на мяне розных адміністр-

рацыйных караў па 5 і па 10 зл. на агульную суму 200 зл., а ў канцы загадам Навааградзкага ваяводы з 15.05.39 г. мяне выселілі з прыгранічнага абшару»[15].

Нагадаем, што ўжо да гэтага часу былі выселены з так званага прыгранічнага абшару беларускія айцы Марыяне з Друі, а з Вільні беларускія сьвятары Адам Станкевіч і Уладыслаў Талочка і інжынер Адольф Клімовіч.

Пасьля такога высяленьня Леў Гарошка затрымаўся на нейкі час у м. Збураж, што каля Маларыты і быў там да пачатку вайны. З прыходам бальшавікоў ён пераехаў у Баранавічы, дзе апрача душпастарскай працы, што ў новых умовах было вельмі складаным, працаваў у гандлёвай і медычнай школе, выкладаў беларускую мову і латынь.

Не застаўся Леў Гарошка ў баку ад такіх важных падзей для Беларусі як стварэньне грэка-каталіцкага Экзархата. Ён уваходзіць у цесныя зносіны з нованазначаным Экзархам Беларусі Антонам Неманцэвічам і ў 1940 годзе ўдзельнічае разам з ім у з'ездзе Экзархаў, які адбыўся ў Львове. У 1942 годзе Антон Неманцэвіч прызначае Льва Гарошку сябрам экзархальнае рады і на ўсякі выпадак робіць яго сваім наступнікам.

І хаця нямецкія ўлады ў красавіку 1942 года прызналі Беларускі Экзархат, але яны рабілі ўсё магчымае, каб загубіць імкненьне і жаданьне беларусаў мець нешта сваё. Рост нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў, а тым больш стварэньне нейкіх самастойных арганізацыяў, як паказаў час, ня ўваходзіла ў асабістыя пляны фюрэра і яго кампаніі. Ці ня з гэтай нагоды гінулі беларускія дзеячы, якія чагосьці дамагаліся ад немцаў: Вінцэнт Гадлеўскі, Станіслаў Глякоўскі, Вацлаў Іваноўскі. З гэтай прычыны ня стала і Антона Неманцэвіча. Пасьля яго сьмерці Леў Гарошка вырашыў прадоўжыць справы Беларускага Экзархата. Вось як нагадвае пра гэтыя падзеі Сяргей Хмара:

«Леў Гарошка з'явіўся да Слонімскага Гебіцкамісара з дакументамі, што ён з'яўляецца вызначаным як наступнік загінулага Экзарха Неманцэвіча, і просіць улады аб дазвол выконваньня сваіх духоўных і адміністрацыйных функцыяў Экзарха Грэка-Каталіцкай Царквы на Беларусі, на што атрымаў брутальны па хворме адказ, каб сядзеў у сваім Альбертыне і не прабаваў дзеяць, ды знайшоў сабе нармальную работу, іначай яго спаткае лёс папярэдніка»[16].

Пра гэтыя падзеі піша і сам Леў Гарошка, толькі больш сьціпла і не называе свайго прозьвішча[17].

Праўда, Сяргей Хмара памыляецца ў тым, калі заяўляе, што Рым не прыняў Экзархат[18].

«У 1942 годзе Сьвяцейшы Айцец Пій XII у ліку навастворaных Экзархатаў усходняга абраду зацьвердзіў так-жа і Беларускі Экзархат, гэтым чынам кладучы канец юрыдычным умяшаньнем польскае ерархіі ў беларускае ўсходнекаталіцкае жыцьцё»[19].

У гады вайны Леў Гарошка працаваў у рэдакцыі беларускіх газэт, якія выдаваліся ў Баранавічах і ў Слоніме. У 1942 годзе прымаў удзел у рабоце II Усебеларускага кангрэсу ў Менску.

Пасьля вайны Леў Гарошка трапляе ў Нямеччыну. Галоўнай яго дзейнасьцю ў гэты час былі пошукі беларускіх эмігрантаў, арганізацыі беларускіх богаслужэньняў, стварэньне беларускіх камітэтаў. З верасьня 1945 года па кастрычнік 1946 ён знаходзіцца ў Рыме. І тут асноўнай работай для яго была беларуская эміграцыя. Шмат зроблена ім гэтым часам у справе арганізацыі беларускага жыцьця ў Арміі Андэрсана. У 1946 годзе ён прызначаецца рэктарам Беларускай Каталіцкай Місіі (БКМ) у Францыю. Тут сваю работу Леў Гарошка распачаў стварэньнем рэлігійнага цэнтру сярод сваіх землякоў. У 1959 г. уступіў у навіцыянт айцоў Марыянаў. Ад 1960 па 1970 год быў рэктарам БКМ у Вялікабрытаніі. За гэты час атрымаў тытул архімандрыта (1965), як заўважае А. Дзедзінка, «што ўласьціва толькі законьнікам. Тытул раўнуе яго ў годнасьці з лацінскімі пралатамі і ўсходнімі мітрафорнымі протаірэямі»[20]. Ад 1970 па 1977 год быў кіраўніком беларускае сэкцыі Ватыканскага радыё і адначасова рэктарам БКМ у Францыі. Памёр 28 ліпеня 1977 года ў Парыжы пад час апэрацыі. Пахаваны на магільніку сьвятога Панкрацага ў Лёндане.

Пакінуў Леў Гарошка пасьля сваёй сьмерці багатую творчую спадчыну: каля сотні розных артыкулаў і не адзін дзесятак навуковых прац. Друкаваўся ёнамаль што ва ўсіх газэтах і часопісах, якія выходзілі за мяжой. Праз адсутнасьць пад рукамі некаторых прац мы ня можам даць хаця б кароткай анатацыі. З гэтай нагоды зьвернемся да Чеслава Сіповіча.

«Абсяг зацікаўленьняў айца Льва быў так шырокі, што не хапала яму часу паглыбіць некаторых ведаў, а нават ужо тое сабранае пусьціць у рух, надрукаваць. Так яно сталася з ягоным «Зборнікам беларускіх прыказкаў і прымаўкаў», якіх запісаных маем на 382 старонках машынапісу 8253. У прадмове да «Зборніка» чытаем: «Да гэтага часу ўжо з'явілася нямала большых і меншых зборнікаў беларускіх народных прыказкаў, але нажаль яны ўсе далёка ад таго, каб паказаць увесь скарб беларускае народнае мудрасьці. Гэты зборнік мае на мэце запоўніць гэтую нястачу — сабраць усе беларускія прыказкі і пагаворкі разам». Значыць зборнік а. Л. Гарошкі меў сабраць у адно ўсё тое, што дагэтуль было расьцярушаным па розных кнігах этнографаў XIX—XX стст. Нажаль не хапіла а. Льву ані часу, ані сілаў, каб урачаісьніць гэтакі вялізны плян. Зборнік а. Льва канчаецца літарай М. Вялікая, цікавая праца, але не закончаная і кульгае мэтадычна. Аўтар зусім не падае крыніцаў, з якіх ён запісаў у свой зборнік прыказкі.

Падобна маецца справа і са слоўнікам больш патрэбных рэлігійна-царкоўных тэрмінаў у лацінска-грэцка-стара-славянскай-беларускай мовах. Невялікі, 18 старонак машынапісу рукапіс, але бяз сумніву ён быў бы вельмі карысны, каб выйшаў у сьвет друкам»[21].

Згадвае Часлаў Сіповіч добрым словам і такія кнігі Льва Гарошкі як «Жыцьцё сьвятой Еўфрасіньні Полацкай» (1950 г.), «Беларусь у датах і ліках» (1953 г.), «Навука і рэлігія» (1977 г.), якая выйшла з друку перад сьмерцю аўтара.

Вельмі багатая творчая спадчына Льва Гарошкі надрукавана ў часопісе «Божым шляхам», заснавальнікам і рэдактарам якога ён быў на працягу 10 гадоў (1947—1957). У першую чаргу тут прыцягваюць увагу артыкулы, тэматыка якіх цалкам адсутнічала ў друку ў Савецкай Беларусі. Гэта артыкулы на тэмы хрысьціянскай этыкі і маралі, згодна пазнаньню і тлумачэньню Святога Пісьма. Іх назовы самі гавораць за сябе: «Цярпеньне ў сьвятле веры», «Рэлігія падымае чалавека», «Тайны веры і розум», «Недацэньваная сіла» (Зацемкі аб малітве), «Надзея», «Сумленьне», «Дзьве сілы» (Любоў і злоба), «Добрыя ўчынкі» і іншыя. Зьмест гэтых артыкулаў прымушае чалавека перагледзіць сваё жыцьцё, асэнсаваць свае адносіны з людзьмі, з навакольным сьветам, стаць добрым і карысным для бліжняга; яны прымушаюць задумацца над вечнымі праблемамі дабра і зла, жыцьця і сьмерці, душы і цела і зрабіць усё магчымае, каб ўратаваць душу, каб выбраць адзіны праўдзівы шлях і пайсці з чыстай душою насустрач Вялікаму Стваральніку.

Пераканаўча бачым, што хацеў даказаць аўтар у артыкулах «Сьляды Бога ў прыродзе», «Чытаючы кнігу прыроды».

Так, сапраўды трэба быць «волатам духа, веды і сьвятасьці», каб быць ня проста пераканаўчым апалягетам, а навукова, аргумэнтавана, сьцьвярджаць боскі пачатак на Зямлі, боскае «Паходжаньне чалавека», існаваньне у ім душы як тварэньня Бога і магчымасьці яе ўратаваньня («Душа»).

Значную частку сваіх прац Леў Гарошка прысьвяціў дасьледаваньню культуры і гісторыі Беларусі: «Істотныя адзнакі беларускай культуры», «Найстаражытнейшыя хрысьціянскія сьвятыні на Беларусі», «Стылёвыя беларускія дзераўляныя сьвятыні», «Рэлігійны элемент у беларускай народнай творчасьці», «Беларускія сьвятыя». Была задума ў Льва Гарошкі сабраць жыцьцяпісы ўсіх беларускіх сьвятых, але ім былі напісаны толькі некалькі невялічкіх артыкулаў у тым ліку пра сьвятога мучаніка Мэркурыя Смаленскага і Прэпадобнага Лаўрэна Тураўскага. Зьбіраў Леў Гарошка матэрыялы і пра беларускіх сьвятароў. Вынікам такой працы былі надрукаваны артыкулы пра Антона Неманцэвіча, Андрэя Цікоту, Адама Станкевіча.

Зразумела, што, калі Леў Гарошка апынуўся за мяжой, то ня мог ня ўбачыць узровень развіцьця навукі і культуры эўрапейскіх краінаў і параўнаць з узроўнем нашай навукі і нашай культуры. Ня будзе памылкай ,калі скажам, адсутнасьцю ў той час такой навукі. Гэтым

можна растлумачыць такі шырокі навуковы абсяг Льва Гарошкі ў падыходзе да беларускай гісторыі і культуры. Вось чаму ў сваіх шматлікіх артыкулах ён ня столькі глыбока распрацаваў праблему, колькі імкнуўся паставіць яе на парадак дня, бо да яго такія праблемы альбо наогул не разглядаліся («Беларуская форма крыжа», «Цудатворныя іконы Божай Маці на Беларусі»), альбо разглядаліся з пэўнай ідэйнай накіраванасьцю.

Бясспрэчна, пры іншых умовах і магчымасьцях з гэтых артыкулаў маглі б вырасьці грунтоўныя і аб'ектыўныя манаграфіі. Як пацьверджаньне гэтаму могуць быць дзесяткі артыкулаў па гісторыі рэлігіі, у прыватнасьці, гісторыі хрысьціянства на Беларусі і такія абагульняльныя працы на гэтую тэму як «Зара хрысьціянства на Беларусі», «Пад знакам «рускае» і «польскае» веры», «Прычыны палянізацыі на Беларусі».

Нельга не зьвярнуць увагу на апавяданьні Анатоля Жмені (псэўданім Льва Гарошкі). Гэроі гэтых апавяданьняў—звычайныя людзі, простыя сяляне, глыбокія вернікі, якія жывуць і моляцца са спадзяваньнямі на Бога і бачаць свой сэнс жыцьця ў малітве і працы, а Бог такіх узнагароджвае сваёю ласкаю («На куцьцю», «Сакрэт удачы»).

Каб завастрыць іншы раз праблему і паказаць адзіны шлях да выратаваньня, аўтар часта для сваіх гэрояў стварае такую сітуацыю, праўда іншы раз надумана, у якой гэрою пагражае непазьбежная сьмерць. Але, перш, чым памерці, ён згадвае Бога і пачынае маліцца, і сьмерць адступае («Брат спасіцель», «Як у казцы»).

Сустракаюцца ў апавяданьнях Анатоля Жмені персанажы злыя, зайздросьлівыя, якія ў жыцьці кіруюцца фізычнымі інтарэсамі. Яны не прытрымліваюцца хрысьціянскіх законаў... І такіх людзей Бог выпраўляе сваімі карамі («Сумленьне загаварыла», «Людзкая кроў ня гіне марна», «Цётка Барбара», «Хто сее вецер, той жне буру», «Абышлося бяз цудаў»). Але Бог заўсёды дае шанц уратавацца. Бо колькі ёсьць людзей, столькі ёсьць шляхоў да Бога. І ў кожнага свой шлях («На кліч званоў», «Злодзей», «Хто сее вецер, той жне буру»).

У некаторых апавяданьнях гэроі нагадваюць асобу самаго аўтара. Так, напрыклад, у апавяданьні «У райваенкамаце» сапраўды магла адбыцца спрэчка вакол першасных пытаньняў філязофіі між маладым сьвятаром Львом Гарошкам і прадстаўніком савецкіх органаў. Альбо ў эміграцыі гутарка з адным сваім знаёмым наконт патрэбы-непатрэбы «пісаніны», маюцца на ўвазе навуковыя дасьледаваньні («Спрэчка за слова»).

Аўтабіяграфічнасьць адчуваецца і ў апавяданьні «Няведамыя шляхі». Галоўны гэрой Андрэй Протас зь беднай сялянскай сям'і імк-

нецца да навукі. Зь вечнымі матэрыяльнымі цяжкасьцямі вучыцца ў Навaградзкай беларускай гімназіі, а потым ва ўнівeрсітэце. Аўтар паказвае вытокі і рост нацыянальнай сьвядомасьці гэроя. Безумоўна, у апавяданьні ажываюць правобразы людзей, якіх Леў Гарошка добра ведаў.

Ня будзем падрабязна спыняцца на асаблівасьцях, вартасьцях і заганах прозы Анатоля Жмені, зазначым хіба тое, што мастацкая творчасць Льва Гарошкі — працяг навуковай творчасьці, галоўнай тэмай якой, як мы вызначылі было: Бог, Хрыстос і Беларусь.

Такімі крытэрыямі Леў Гарошка кіраваўся ў жыцьці і заклікаў свой і ўсе хрысьціянскія народыісьці гэтым Божым шляхам.

---

1. Божым шляхам. 1966. № 1 (94). С. 6.
2. Божым шляхам. 1978. № 1 (149). С. 2.
3. Тамсама.
4. Анішчык А. Калыска талентаў // Навaградзкі кур'ер. 1991. № 2.
5. Аўтабіяграфія Аляксея Анішчыка. Архіў лабараторыі каф. беларускай культуры Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта.
6. Божым шляхам. 1966. № 1 (94). С. 6.
7. Запісы Беларускага Навуковага Таварыства. Сшытак I. Вільня. 1938.
8. Гайба М. П. Навагрудак. Гістарычны нарыс. Навагрудак. 1992. С. 46.
9. Божым шляхам. 1966. № 1 (94). С. 6.
10. Лісты падаюцца з нязначнымі скаротамі.
11. ЦБ АН Літвы. Ф. 21. Ар. 687.
12. Тамсама.
13. Тамсама.
14. Тамсама.
15. Божым шляхам. 1956. № 70—75. С. 77.
16. Голас Беларуса. 1991.
17. Божым шляхам. 1956. № 70—75. С. 53—54.
18. Голас Беларуса. 1991.
19. Божым шляхам. 1955. № 64—65. С. 14. № 63. С. 8.
20. Божым шляхам. 1966. № 1 (94). С. 9.
21. Божым шляхам. 1978. № 1 (149). С. 2.





**Аляксей ПЯТКЕВІЧ — кандыдат філялягічных навук, дацэнт. Аўтар манаграфіі і шматлікіх артыкулаў па праблемах беларускай культуры і культуры Гродзеншчыны. Член Саюза пісьменьнікаў Беларусі. Працуе ў Гродзенскім дзяржаўным унівэрсытэце імя Янкі Купалы.**



**Аляксей ПЯТКЕВІЧ**

# БЕЛАРУСКІ СВЯТАР І ПАЭТ

Вельмі характэрная гэта постаць для Беларусі, для духоўнага жыцця нашай інтэлігенцыі, у якім гісторыя нарабіла столькі супярэчнасцяў, навязала столькі вузлоў. Казімір Сваяк — беларускі патрыёт, ксёндз, паэт, філосаф... Ці стасуюцца паміж сабою ўсе гэтыя грані яго асобы? Сам ён з сапраўднай душэўнай апантанасцю служыў нацыянальнай ідэі і гэтак жа ахвярна аддаваў сябе Богу, стараючыся паяднаць гэтыя два высокія пачаткі жыцця. І трэба прызнаць, што яму ўдавалася злучыць боскае і зямное, вечнае і надзённае. Быў ён цэласнаю фігураю беларускай культуры часоў яе ўздыму — першай чвэрці нашага стагоддзя.

Цяжка хворы на туберкулёз, адзінокі, схільны да рэфлексіі, да паэтычна вытанчанага выказу сваіх нацыянальна-філасофскіх развагаў і мройна містычных адчуванняў, рамантычных уяўленняў, ён натуральна ўпісваўся ў той літаратурны рад, які стваралі высакародныя і трагічныя асобы Максіма Багдановіча, Сяргея Палуяна, Алеся Гаруна, Уладзіміра Жылкі, ды і іншых беларускіх словатворцаў (можна згадаць тут і растраляных савецкім рэжымам на самым узлёце таленту), што так рана пайшлі з жыцця. Мэтаімкнёныя, творча гарманічныя, яны заставаліся і дужа складанымі паводле ладу свайго ўнутранага жыцця. Маладыя, духоўна развітыя, яны спяшаліся многае зрабіць для Бацькаўшчыны. Таму рызыкавалі, нястомна прагнулі навізны, дэманстратыўна ігнаравалі стандарты і ў жыцці, і ў літаратуры. Таму такі індывідуальны лёс не мог не быць драматычным. Гэта і беларускі лёс. Гэта дарога і К. Сваяка.

Нядоўгае жыццё гэтага чалавека было вельмі напружаным і інтэнсіўным, напоўненым вялікім духоўным клопатам. Сваю місію святара ён разумеў шырока, як дзейнасць па ачышчэнні і абнаўленні чалавека, вяртанні яго да маральных і нацыянальна-патрыятычных асноў жыцця. І ўласнае слова рэлігійнага прапаведніка ў каталіцкім

касцёле ён зрабіў словам беларускага асветніка і пісьменніка.

Зрэшты, у такой ролі К. Сваяк не быў выключэннем. Поруч з ім стаяць яго сучаснікі — беларускія пісьменнікі і працаўнікі на ніве каталіцкай канфесіі нашы землякі Андрэй Зязюля, Вінцук Адважны, Адам Станкевіч, Янка Быліна. К. Сваяк вылучаецца сярод іх хіба што асаблівай самаахвярнай чыннасцю духоўніка, ды і значнай пісьменніцкай папулярнасцю ў жыцці Заходняй Беларусі.

Нарадзіўся К. Сваяк (Канстанцін Стаповіч) 19 лютага 1890 года ў вёсцы Барані (Астравецкі р-н). Бацька меў паўвалокі зямлі, да таго ж займаўся і арэндаю, і працавітая, гаспадарлівая сям'я жыла дастаткова заможна. Кастусь рана далучыўся да спраў дарослых, дапамагаючы бацьком на полі, спраўляючы абавязкі пастуха. Казкі і легенды маці, бабулі, суседства з лесам, які ўражваў сваёй таямнічасцю і веліччу, фармавалі чуйную паэтычную душу. Вучыўся спачатку ў роднай вёсцы, а затым у Свянцянах (зараз Літва), дзе хадзіў у гарадское вучылішча. У 1906—1907 гадах жыў у Вільні, рыхтаваўся да паступлення ў духоўную семінарыю. Тут пазнаёміўся з беларускім нацыянальна-вызваленчым рухам, газетай «Наша ніва», і з гэтай пары яго жыццёвая сцяжынка была неадлучнай ад грамадска-патрыятычных спраў.

У 1908 г. паступіў у Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю. У канцы трэцяга года вучобы давялося надоўга выехаць у Закапанае: у яго, слабага здароўем, пачынае развівацца туберкулёз. Пазней паездкі на гэты польскі курорт будуць усё больш частымі.

У 1914—1916 гг. К. Сваяк — у родных мясцінах, нясе службу у касцёле ў Клюшчанах (Астравецкі р-н). Тут ён разгортвае сярод парафіян шырокую культурна-асветную працу. Не толькі вядзе пабеларуску касцельныя казані, але стварае вялікі — у 40 чалавек — хор беларускай песні, арганізуе лекцыі па беларусазнаўстве (тэксты рыхтуе сам, а выступаюць удзельнікі хору). Стварае ў тутэйшай парафіі сем беларускіх школ і нават беларускія настаўніцкія курсы. У 1916 г. на базе клюшчанскага хору ўзнікае гурток беларускай моладзі «Хаўрус сваякоў», які хутка здабывае прыхільнае зацікаўленне ў наваколлі. Гурток ладзіць беларускія спектаклі, канцэрты, практыкуе рэфераты на тэмы нацыянальнай гісторыі і культуры. У штодзённых дачыненнях з людзьмі ксёндз імкнецца будзіць іх душэўную памяць пра роднае — згадвае народныя казкі, чытае вершы беларускіх паэтаў, раздае беларускія кніжкі.

Але ўсё больш праследуе яго за гэтыя справы віленскае касцельнае начальства. Службовымі папярэджаннямі, пагрозамі і асабліва пераводамі на новае месца працы стараюцца сарваць беларускую асветніцкую дзейнасць К. Сваяка. У лістападзе 1916 г. яго перакідваюць на Беласточчыну, у Карыцін, дзе мясцовы пробашч патрабуе ад яго забыцца на ўсякую беларускасць. Ды К. Сваяк не адступаецца ад сваіх прынцыпаў. Летам 1919 г., заехаўшы ў Лапеніцу пад Ваўкавыскам, дзе служыў яго сябра па Віленскай семінарыі ксёндз-патрыёт Язэп Германовіч, разам з ім служыць у касцёле па-

беларуску, гуртуе мясцовых сялянаў дзеля арганізацыі школ на роднай мове, задавальнення іншых нацыянальных патрэбаў людзей.

У канцы 1920 года К. Сваяк — ужо ў Засвіры каля Свянцян, і тут працягвае энергічную працу з беларускім насельніцтвам. Толькі выезды ў Закапанае становяцца цяпер і часцейшымі, і даўжэйшымі. Хвароба наступала, трэба было паспець ажыццявіць многае з задуманага на святарскай ніве, і ён вельмі непакоіўся.

Ён усё сваё жыццё непакоіўся і спяшаўся і ўсё быў незадаволены сабою, бо надта блізка прымаў да сэрца нягоды народа. 7.V.1917 запісаў у дзённіку: «Сумна мне, хоць ты вазьмі ляж ды і умры. Але як тут паміраць, нічога добрага не зрабіўшы? А мо і не зраблю? От біся, чалавеча, як рыба аб лёд! Колісь трапіш у прорубі

Баліць мне сэрца за народ, каторага няшчасце не магу апісаць.

Пячэ нутро маё сум з бяссільнасці сваёй да направы перш сябе, потым бліжніх маіх.

Плача сэрца маё над нядоляй, над упадкам духа тых, што звалі сябе дужымі».

Дзённік К. Сваяка, які ён вёў усё сваё свядомае жыццё, цікавы як багаты дакумент часу, як рэпартаж-споведзь зняможанай душы, якая шукала магчымасці ахвярна паслужыць людзям дзеля высокіх ідэалаў дабра і справядлівасці. Дзённік мае і бясспрэчную літаратурную каштоўнасць: у ім ёсць сапраўдная паэзія чалавечага духу, добрая мастацкая назіральнасць, у ім пульсуе драматычная думка пра перажытае. Твор гэты з надта характэрнаю аўтарскаю назваю — «Дзея маёй мыслі, сэрца і волі» — выйшаў у Вільні асобнаю кніжкаю пасля смерці К. Сваяка, у 1932 г.

Літаратурную творчасць ён ніяк не аддзяляў ад клопатаў духоўніка, прапаведніка маральнасці і чысціні. Пачаўшы друкавацца ў 1913 г., у тым жа годзе выпусціў асобным выданнем публіцыстычны трактат «Алькаголь», дзе паказаў шкоднасць п'янства, якое тлумачылася як спадарожнік беднасці і духоўна-інтэлектуальнай адсталасці, як паказнік маральнага захворвання чалавека. Тэму гэтую разгортвае К. Сваяк у вершаваным апавяданні «Чарку дай, браце...», выдадзеным у Вільні ў 1926 г. Пісьменнік разумеў, што спойванне працоўнага чалавека — спосаб яго пакарэння тагачаснаму сацыяльна-палітычнаму рэжыму. Таму гуманістычныя ідэі цвярозасці разглядаў як важны жыццедзейны фактар, што спрыяе адраджэнню народу. У гэтых адносінах паказальная і яго рэалістычна-бытавая драма «Янка Канцавы», напісаная для гуртка «Хаўрус сваякоў» і выдадзеная ў 1920 г. Вельмі цікавая ў мастацкіх адносінах яго драматычная паэма «Купалле» (Вільня, 1930), напісаная ў стылі паэтычнай містэрыі, заснаваная на беларускіх міфах, поўная дзівоснай фантазіі.

Найбольш значная кніга К. Сваяка — зборнік вершаў «Мая ліра», выпушчаны Беларускім выдавецкім таварыствам у Вільні ў 1924 г. Паэзія яго прасякнута тут духам пратэсту супраць грамадскага ўціску. Гэты неўтаймоўны дух горача апелюе да боскай справядлівасці,

выяўляючы свае лепшыя спадзяванні.

Імгла, туман, плюхота, бездарожжа...
Дай волі мне, дай свету мне, о Божа!

Лірычны герой паэта жыве вераю і ў сілы роднае зямлі, у яе таямнічна-магутнае заступніцтва і падтрымку. Яна ж, урэшце, сардэчна прымае чалавека ў сваё вечнае ўлонне. Бацькаўшчына — вобраз самага дарагога — свайго Роду, які далучае асобу да продкаў, робіць яе несмяротнай. Таму такая надзея ў паэта на паразуменне і паяднанне з сваёй зямлёй.

Калі мой дух пазве Бог за магілы,
Калі змагаціся не стане мне ўжо сілы,
Калі цяжкі дзірван залягне нада мной, —
«Зямліца родная, ты будзь тады гарой!»

У яго вершах мала мажорных нотаў. Няма амаль традыцыйных для лірыкі пейзажных малюнкаў. Ён не азіраў наваколле, а ўглядаўся і ўслухоўваўся ў сябе самога. Паэзія К. Сваяка спавядальная, настроеная на драматычнае і журботнае. Што ж, прага духоўнай вышыні, якой жыў гэты чалавек, не сумяшчалася з лёгкімі і павярхоўнымі адчуваннямі («пішу я, бо плача сэрца...»).

Шмат часу і сіл аддаў ён падрыхтоўцы малітоўніка для беларусаў-каталікаў, які назваў «Голас душы». Гэтую салідную кнігу — 320 старонак — ён паспеў падрыхтаваць да друку. Малітоўнік выйшаў у свет у 1926 г., затым некалькі разоў перавыдаваўся ў Вільні, на Захадзе.

К. Сваяк многа друкаваўся ў перыёдыцы. У 1913—1915 гг. яго вершы змяшчаліся ў віленскай газеце «Беларус», якая выпускалася лацініцаю і адрасавалася каталіцкаму насельніцтву. У 20-я гады яго лірыку, паэтычныя замалёўкі прозаю, артыкулы друкуюць такія заходне-беларускія выданні, як «Наша думка», «Беларускі звон», «Новае жыццё», «Сялянская ніва», «Беларуская крыніца».

Памёр К. Сваяк 6 мая 1926 г. у бальніцы ў Вільні, у Вільні і пахаваны — на могілках Роса, на «літаратурнай» горцы.

Цікавасць да яго творчасці не зменшылася ў Заходняй Беларусі ў наступныя гады. Творы яго публікуюцца ў часопісах «Шлях моладзі», «Хрысціянская думка», «Калоссе», у беларускіх календарах. Памяць пра паэта-духоўніка жыве ў народзе. Праз 10 гадоў пасля скону К. Сваяка М. Машара ў «Калоссі» напісаў:

...І цяжкі, і туманны, і шэры
Нашых будняў жыццёвых паход.
Ды жыве моцны дух у народзе,
З новай верай жыве маладняк,
І далей мы ідзём у паходзе
Без цябе ўжо, наш слаўны Сваяк.
Хоць ты змоўк... І хоць ліра разбіта,
І хоць новыя страты баляць. —
Над краінай, туманам спавітай,
Тваіх песняў акорды звіняць.





**Марына ЗАГІДУЛІНА — мастацтвазнаўца. Працуе ў управе культуры Гродзенскага аблвыканкама.**



**Марына ЗАГІДУЛІНА**

# ЗАПОЗНЕНЫ РАМАНТЫК

Мастак Казімір Альхімовіч — адзін з тых, хто складае гонар беларускай нацыі.

Нарадзіўся ён 20 снежня 1840 года ў маёнтку Дзембрава Шчучынскага раёна ў сям'і небагатага шляхціца. Меў брата Гіяцынта, у будучым таксама мастака. Скончыў гімназію ў Вільні, пасля служыў кіраўніком маёнтка пад Кіевам. Прымаў актыўны ўдзел у паўстанні Кастуся Каліноўскага. У 1863 годзе сасланы. Жыў у Кунгуры, Верхатурыі на Урале. Тут ён многа маляваў з натуры. Занатоўваў падзеі з жыцця сасланых, пісаў рэлігійныя кампазіцыі, з продажу якіх жыў. У Нацыянальным музеі ў Варшаве захоўваюцца яго малюнкі тых часоў.

Адзін з найлепшых—графічны аўтапартрэт, зроблены ў 1864 годзе. І хоць напісаны ён, калі ваенна-паліцэйскаю машынай Расіі былі знішчаны і кінуты ў турмы сябры і паплечнікі, калі былі раструшчаны мары і надзеі, мы не бачым упадку духу гэтага чалавека. Перад намі асоба высокай годнасці, здольная на значныя ўчынкі. Юнак з гожым і высакародным абліччам скіраваны ў сваіх парываннях да гуманістычных ідэалаў.

У 1869 годзе мастак па амністыі вярнуўся на радзіму. З 1871 года па 1873 вучыўся ў Варшаве ў прыватнай майстэрні В. Герсана. К. Альхімовіч быў адным з найбольш перспектыўных вучняў В. Герсана. Пецярбургская Акадэмія мастацтваў, якая была патронам школы малюнка, двойчы ўзнагародзіла мастака сярэбраным медалём за школьныя працы.

Набывае новыя веды і ўдасканальвае сваё майстэрства малады творца з 1873 па 1875 год у Мюнхенскай Акадэміі мастацтваў пад кіраўніцтвам прафесара Вагнэра. Тут таксама заваёўвае медалі рознага рангу, многа выстаўляецца. З 1876 па 1878 год жыве ў Францыі. І зноў новыя творы, прадстаўнічыя выставы. З 1878 года застаецца

жыць у Варшаве, дзе з 1890 года выкладае малюнак у школе жывапісу і разьбы Б. Пасвіковай. Памірае ў снежні 1917 года ў Варшаве.

Чалавек, які на тыя меркі пражыў доўгае жыццё. Многае паспеў зрабіць. Таленавіты творца з шырокім дыяпазонам інтарэсаў і магчымасцяў, які дасканала валодаў разнастайнаю мастацкай тэхнікай. Гэта графіка: туш, аловак, гуаш, акварэль; манументальны жывапіс (разам з Т. Попелем і А. Пятроўскім — касцёл св. Кацярыны ў Пецярбурзе), роспісы па фаянсе і парцаляне (напрыклад, малюнак «Дзяўчынка», 1877), мадэляванне з гліны, разьба па дрэве (круцыфікс для касцёла ў Бярэзінах) і асноўнае, дзе мастак дасягнуў найбольшых поспехаў, — гэта станковы жывапіс.

Росквіт творчай дзейнасці К. Альхімовіча прыпадае на той час, калі ў беларускай мастацкай культуры развіваўся своеасаблівы тып рамантычных адносін да жыцця, які быў народжаны ідэямі нацыянальна-вызваленчай барацьбы і праяўляўся ў кульце роднага краю, увазе да яго выдатных асоб, паэтызацыі яго гісторыі, народных міфаў і легендаў. Беларуская інтэлігенцыя, якая тады толькі фармавалася, старалася ў сваёй дзейнасці адкрываць новыя каштоўнасці жыцця народа. Да такой інтэлігенцыі належаў і Казімір Альхімовіч.

Творы мастака ў аснове сваёй пераважна рэалістычныя, але ўсе яны ў большай ці меншай ступені сведчаць пра рамантычнае светаўспрыманне аўтара. Рамантычныя захапленні К. Альхімовіча развіваліся не без уздзеяння паўстання 1863 года, якое адыграла вялікую ролю не толькі ў творчасці мастака, але і ў яго жыцці ўвогуле. Як асоба ён вырас з гэтага паўстання, увабраўшы ў сабе найлепшыя рысы беларускай рэвалюцыйнай шляхты.

Не здолеўшы ўвасобіць у рэальнае жыццё свае грамадскія інтарэсы і справы, звязаныя з нацыянальным вызваленнем роднага народа, К. Альхімовіч стараецца ўсё ж духоўна абудзіць яго, уздейнічаць на патрыятычныя пачуцці, адкрываючы ў сваіх жывапісных палотнах старонкі слаўнага мінулага.

Думаецца, у нацыянальна-гістарычным плане мастак усведамляе сябе як тутэйшы, як ліцвін, духоўная спадчына якога — гісторыя Вялікага княства Літоўскага, зямлі, дзе так цесна перапляліся лёсы беларусаў, палякаў, літоўцаў. Нарадзіўшыся ў цэнтры княства, дзяржаўнай мовай якога была беларуская, К. Альхімовіч ганарыўся ёю. І, не гледзячы на моцны нацыянальны ўціск, гаварыў на ёй (паводле ўспамінаў М. Герсан-Дамброўскай).

Лёсы вялікіх князёў Гедыміна, Вітаўта, Кейстута, якімі асабліва цікавіцца мастак, цесна звязаны з Гродзеншчынай. Адзін з найлепшых твораў, у якіх ён звяртаецца да мінулага сваёй зямлі — «Пахаванне Гедыміна». Аўтар услаўляе сілу і моц свайго народа, веліч асобы князя Гедыміна. Напісаная ў 1883 годзе, карціна мела сусветную вядомасць, атрымала высокія ўзнагароды на выставах у Варшаве, Пецярбурзе, Парыжы, Сан-Францыска.

Увагу мастака прыцягнула і трагічная постаць Кейстута. У творы

К. Альхімовіча «Адпачынак Кейстута» выхаплены з жыцця толькі адзін момант. Але мастак не проста фіксуе факт рэчаіснасці, а і выяўляе сваё захапленне слыннай постаццю беларускай даўніны.

Працягам гэтага твора ўспрымаецца палатно «Вітаўт ля магілы Кейстута», дзе Вітаўт стаіць нерухома, паглыблены ў свае думкі перад курганом, даючы клятву вернасці ці помсты.

Паказваючы гераічных асоб, аўтар звяртае ўвагу на іх душэўны стан, перажыванні людзей даўніх часоў. Таму часта выбірае ўласцівыя для рамантыкаў абвостраныя сітуацыі, у якіх больш натуральна выяўляюцца ўнутраныя рухі чалавека. Мастак раскрывае сілу пачуццяў таго, хто сутыкаецца з подыхам смерці («Апошнія хвіліны Міхала Глінскага ў турме», 1884, «Падрыхтоўка да смерці Самуіла Збароўскага», «Хрысціянскі пакутнік», 1878, «Над труной Сапліцы», 1900). Перад страшным выбарам жыцця ў няволі і смерці апынуўся герой карціны «Смерць Маргера». Сцэна, у пэўнай ступені «тэатральная», напоўнена моцным драматызмам, бо мела прататыпаў у рэальным жыцці. Яшчэ адна трагедыя адбываецца ў 1587 годзе на мурах замка ў «Абароне Альштына» (1881). Кіраўнік абароны Каспар Карлінскі, дзіця якога захапілі ворагі, павінен прыняць жыццёва важнае рашэнне. Гэта вялізнае палатно (186x272 см) і сёння ўражвае гледача псіхалагічнай распрацаванасцю вобразаў, майстэрствам жывапісу. Экспануецца ў Варшаве ў музеі Мійска Польскага.

К. Альхімовіч пастаянна ў розныя часы звяртаўся да вельмі важных у яго жыцці падзей, звязаных з ссылкаю на Урал. Гэтаму перыяду прысвечаны карціны: «Сцэны з жыцця на Урале», «Катастрофа ў капальні», «Смерць у выгнанні», «Пахаванне на Урале». Некаторыя з іх вядомыя толькі праз публікацыі у тагачасным друку. Але адзін з лепшых твораў — «На этапе» (1894) — захаваўся. Мы бачым кароткі прыпынак ссыльных на доўгай і цяжкай дарозе ў Сібір. Сітуацыя перажытая самім аўтарам карціны. Таму авеяны такім шчырым пачуццём светлыя вобразы жанчыны з дзіцяткам, чысты і высакародны — мужчыны.

Беларускі рамантызм другой паловы XIX стагоддзя на хвалі нацыянальнага ўздыму вырастаў і з этнаграфічнага зместу жыцця. Невычэрпнай крыніцаю былі народныя абрады, вераванні, святы. У звычайным шукалі выключнае, сцвярджаючы прыгажосць і паэтызуючы народнае жыццё. Да побыту і звычаяў сваіх землякоў звяртаўся К. Альхімовіч у работах «Дажынкі», «Жніво», «Літоўская хата», «Наём работнікаў», «Сялянская дзяўчына». Будучы хрысціянінам, пішучы абразы для касцёлаў, мастак усё ж цягнуўся душой да веры сваіх далёкіх продкаў, язычнікаў. Таму такія таямнічыя і чароўныя, адухоўленыя вобразы на карцінах «Апошні жрэц Літвы з дачкою Плёнтай», «Ліздэйка на руінах храма Пяруна», «Русалка», «Мілда».

Асабліва мілыя і прывабныя, эстэтычна ўзвышаныя ў творах К. Альхімовіча вясковыя дзеці. На невялікіх паводле памеру абразках мы бачым, як хлопчык-каваль рупліва правіць кола, дзяўчынак:

гэтая выйшла ў сад і прыпынілася, другая—пасе кароў, але, абапершыся аб дрэва, пра нешта задумалася; тая ж сядзіць на лясной паляне і адрывае пялёсткі кветачкі, іншая проста стукае гнуткім дубчыкам па вадзе празрыстага ручая. На карцінах, этнаграфічна выпісаных вельмі дакладна, маленькія знаёмыя мастака ўспрымаюцца як часцінка самой прыроды, сімвал новых сіл жыцця.

Родныя краявіды ў пейзажных творах К. Альхімовіча (напрыклад, «Капа сена», «Стары млын» — 1901) паэтычна стрыманыя, задуменныя, прасякнутыя смуткам і любоўю да свайго прынёманскага краю.

У графічных работах К. Альхімовіч таксама застаецца верным рамантычным імкненням, звяртаючыся да гістарычных асоб і падзей. Захавалася многа яго малюнкаў, дзе сустракаюцца і выявы мужных дзеячоў мінулага (Павел Ян Сапега, Крыштаф Радзівіл і іншыя), і эцюды адзення, зброі, мэблі далёкіх часоў, і фрагменты арнаментаў. Па-свойму прачытвае мастак паэзію Ю. Крашэўскага, ствараючы ў змешанай графічнай тэхніцы цікавых магутна-казачных герояў. Робіць ілюстрацыі да твораў А. Міцкевіча, блізкіх яму па духу, па тых паданнях, што былі знаёмыя з дзяцінства абодвум творцам. Таму так паэтычна, пераканаўча выяўляецца ўнутраная сутнасць вобразаў «Пана Тадэвуша», таму і першую ўзнагароду «Tygodnika ilustrowanego» за жывапісную інтэрпрэтацыю «Свіцязянкі» атрымлівае ў 1898 г. К. Альхімовіч.

На жаль, пакуль мала вядома пра асабістае жыццё мастака. Аб ім можна меркаваць паводле работаў, паводле публікацыяў у часопісах, якія даволі падрабязна адлюстроўвалі падзеі мастацкага свету. У прэсе адзначалася, што мастак удзельнічаў у дабрачыннай выставе на карысць хворага калегі, што публічна выказваў пратэст супраць нізкага дылетанцкага ўзроўню работ у Мастацкім Салоне Варшавы і з групай аднадумцаў выйшаў з таварыства мастакоў гэтага Салону. З павагай адносіўся К. Альхімовіч да поспехаў сваіх таленавітых сучаснікаў, пра што сведчыць работа «Апафеоз двух геніяў», дзе ва ўрачыста-узвышаным плане падаецца вобраз Яна Матэйкі. Мастак многа працаваў, шмат разоў атрымліваў узнагароды на прадстаўнічых выставах. Яго творы бачылі лепшыя салоны Парыжа і Мюнхена, Берліна і Адэсы, Пецярбурга і Львова, Сан-Францыска і Чыкага, Прагі і многіх польскіх гарадоў, але найчасцей — варшаўскія Салоны Крывульта і Унгра.

Адна з работ апошняга перыяду творчасці — «Шляхціц і селянін» (1908). Гэта сюжэтная карціна прасякнута духам паўстання 1863 года, ідэалам якога мастак быў верны да канца жыцця. Ідэя нязломнасці паўстання — у складаным вобразе старога шляхціца. У час напісання карціны К. Альхімовічу было прыблізна столькі ж гадоў, колькі і яго герою, што дае падставу меркаваць пра аўтабіяграфічнасць вобраза, напэўна, дарагога аўтару.

Развіваючыся ў напрамку да рэалізму, мастак не мог не выказацца ў сваёй творчасці сродкамі рамантычнага пісьма, бо яны

былі арганічнымі для яго тагачасных ідэйна-маральных пазіцый. Нацыянальная гісторыя з яе гераічнымі здабыткамі і драматычнымі стратамі, народныя міфы і легенды, праз якія бачылася беларуская даўніна, паэтызацыя чалавечай працы, вясковага быту — усё гэта бясспрэчнае сведчанне рамантычных прыхільнасцяў К. Альхімовіча. Вядома, беларускі жывапіс у асобе нашага таленавітага земляка, як і ў асобах многіх іншых яго сучаснікаў, дэманстраваў тут запозненую ў заходнееўрапейскім і рускім кантэксце тэндэнцыю рамантызму. Але гэта лёгка тлумачыцца нацыянальна-гістарычнымі прычынамі: развіццём у той час нацыянальнага адраджэння ў Беларусі.

## ЛІАРАТУРА:

[1] Дробов Л. Н. Живопись Белоруссии XIX — нач. XX в. Мн., 1974.
[2] Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 3. Мн., 1989.
[3] Materiaty, dotyczace zycia i tworczosci W. Gersona. Wroclaw, 1951.
[4] Kronika powszeshna. Z malarstwa // Tygodnik ilustrowany. № 14. Warszawa, 1897.
[5] Wystawa sztuk pieknych we Lwowie // Tygodnik ilustrowany. № 158. Warszawa, 1886.







**Ігар ТРУСАЎ — гісторык архітэктуры. Аўтар артыкулаў па музеязнаўству, гісторыі архітэктуры Гродзеншчыны і крыніцазнаўству. Друкуецца ў перыядычных навуковых выданьнях Санкт-Пецярбургу, Вільні, Беластоку і Мінску. Працуе ў вытворчым прадпрыемстве «Спэцпраектрэстаўрацыя» ў г. Гродне.**



**Ігар ТРУСАЎ**

## НОВЫЯ КРЫНІЦЫ ДА ГІСТОРЫІ КАЛОЖСКАЙ ЦАРКВЫ

У сакавіку 1993 года, калі мы працавалі ў Расійскім Гістарычным Архіве у Санкт-Пецярбургу над тэмай «Вываз культурных каштоўнасцяў з тэрыторыі Беларусі», нам памылкова, прынеслі матэрыялы па геалагічным даследаванні Барысаглебскай царквы ў Гродне пачатку стагоддзя[1]. Мы зацікавіліся гэтым архіўным фондам, які называўся «Гаспадарчае ўпраўленне пры Сінодзе, 799». У гэтым фондзе знайшлася яшчэ адна справа наконт Каложскай царквы і, што



нас вельмі здзівіла—абсалютна невядомыя ў навуковай літаратуры малюнкі-памеры фасадаў і планаў[2]. З гэтай нагоды мы сталі больш уважліва прагледжваць фонды розных службаў Сінода. Новыя матэрыялы па Каложы аказаліся ў фондзе 190 (карэспандэнцыя да Сінода з Упраўлення ўнутраных водных шляхоў МШЗ); 797 «Обэр-пракурор Сінода»; 218 (карэспандэнцыя да Сінода з Дэпартамэнта штучных спраў ГУШЗ).

Да найбольш цікавых з нашых знаходак можна аднесці архітэктурныя памерныя малюнкі паўднёвага і заходняга фасадаў царквы, якія былі зроблены вельмі дакладна ў вясну 1852 года[3], г. зн. да катастрофы. Першы этап катастрофы, калі ў Нёман звалілася палова паўднёвай часткі і фрагмент заходняга муру, адлюстроўвае памерны малюнак цудоўнай якасці, які зроблены перад новым абвалам у 1889 годзе[4]. Гэтыя малюнкі вельмі важныя таму, што на іх дакладна зарэгістравана кожная цэгла, кожны камень у муры, кожная паліваная плітка. Сёння гэтыя матэрыялы — адзіная дакладная крыніца да магчымага праекту адраджэння помніка.

Акрамя гэтых малюнкаў у знойдзеных намі матэрыялах ёсць больш за сто аркушаў планаў, разрэзаў, генпланаў царквы і асяроддзя[5]. Гэтыя крыніцы і, таксама, шматлікія тэкставыя матэрыялы (каля 300 аркушаў) дазваляюць больш грунтоўна, больш навукова, больш верагодна ставіцца да праекту адраджэння Барысаглебскай царквы на Каложы ў Гродне ў яе стане на першую палову XIX стагоддзя.



Але справа аднаўлення будынка Каложскай царквы — гэта будучыня. Больш важная зараз задача — выратаванне самога помніка ад поўнага знішчэння. Працэсы, якія прывялі да катастрофы 1853

і 1889 гадоў цягнуліся, як атрымоўваецца, увесь час, а сёння яны раптоўна прыспешыліся. Матэрыялы геалагічных даследаванняў, якія мы знайшлі у Санкт-Пецярбургу, гэта папярэдняе, але найбольш поўнае і грунтоўнае даследаванне не толькі берага Каложскай царквы, але і дна Нёмана насупраць яе. Вынікі свідравання ад пачатку стагоддзя — гэта унікальны параўнальны матэрыял да геалагічных даследзінаў берага Каложы з 1935 года[6] і сучасных даследзінаў.

У Каложы ёсць шанц выратавацца... Гэты шанц — людзі. Не толькі спецыялісты з Гродна і Менску, не толькі ўлада Гродна і вобласці, не толькі сябры з далёкага Ліможу. Гэты ратавальнік — кожны з нас.

ВЫКАРЫСТАНЫЯ КРЫНІЦЫ:

1. Расійскі Гістарычны Архіў у Санкт-Пецярбургу, ф. 799, воп. 2, арк. 1—48.
2. Там сама, спр. 719, арк. 1—158.
3. Там сама, д. 218, воп. 4, спр. 2616, арк. 142а-I, арк. 142а-III.
4. Там сама, арк. 138-II, арк. 144-II.
5. Там сама, ф. 797, воп. 14, спр. 34802; ф. 218, воп. 4, спр. 2616; ф. 797, воп. 26, III аддз., 2 ст., спр. 16; ф. 799, воп. 25, спр. 2; ф. 190, воп. 8, спр. 719.
6. Iodkowski I. Swiotynia warownana Kołoży w Grodnie. Grodno — 1936. Ss. 64—66.

# ПРЫЧЫНЫ ПАЛЯНІЗАЦЫІ НА БЕЛАРУСІ* НАЙБОЛЬШ РАСПАЎСЮДЖАНЫ ПАГЛЯД

Адным з вельмі далікатных пытаньняў, дзе сплятаецца гісторыя Беларусі з гісторыяю суседніх краінаў і агульная гісторыя з гісторыяю Царквы на Беларусі, ёсьць праблема палянізацыі часткі беларускага народу. Гэтае пытаньне мае вельмі вялікае значэньне для гісторыі беларускае культуры і вельмі часта парушаецца пры розных нагодах,, але да гэтага часу мала дасьледжана. Пры тым з лёгкае рукі супрацькаталіцкае расейскае прапаганды ў нас вельмі пашырыўся пагляд,, які ўсю адказнасць за палянізацыю ўскладае выключна на Каталіцкую Царкву. У навуковай і папулярнай літаратуры расейскія гісторыкі, а за імі і некаторыя беларускія паўтаралі і цяпер паўтараюць на ўсе лады, быццам каталіцызм ішоў на Беларусь толькі дзеля пашырэньня палянізацыі. Такі пагляд ёсьць наскрозь фальшывы і змог пашырыцца толькі таму, што ў часе найбольш узмоцненае палянізацыйнае акцыі ў XVII і XVIII стагодзьдзях усе дзяржаўныя і культурныя арганізацыйныя дзейнікі калішняе Рэчыпаспалітае ў тым ліку і Каталіцкая Царква ўдзельнічалі ў палянізацыі, а пасьля разбору Рэчыпаспалітае, калі разам з іншымі народамі палякі страцілі сваю дзяржаўнасьць і новы адміністрацыйны апарат нават на этнаграфічных польскіх землях стаўся прыладаю вынарадаўленьня палякаў на карысьць акупуючых дзяржаваў, тады для палякаў асталася толькі Каталіцкая Царква і як рэлігійна-культурнае вогнішча, і так-жа як наймацнейшае вогнішча польскага нацыянальнага жыцьця, дзе магла прадаўжацца, распачатая перш, палянізацыя няпольскіх народаў калішняе Рэчыпаспалітае. Але і тады Царква была толькі адным з сродкаў, але ніколі прычынаю палянізацыі.

Тая-ж расейская прапаганда стараецца прадстаўляць Праваслаўную Царкву як абаронцу беларускае нацыянальнасьці, але толькі ў рамах складовае часткі расейскага народу. Гэтае цьверджаньне нават і ў расейскім разуменьні непраўдзівае, бо ў Расейскай імпэрыі Праваслаўная Царква была прыладаю русыфікацыі, а ў калішняй Рэчыпаспалітай хутка палянізавалася. Ужо пасьля 1605 г. большая частка праваслаўнае палемічнае літаратуры друкавалася папольску, а пасьля 1626 г. не зьявіўся ніводзін палемічны твор, пісаны кірыліцаю (1). У адноўленай-жа пасьля 1917 года Польшчы за кароткі час Праваслаўная Царква была сталася прыладаю палянізацыі ня горшаю чым польская Каталіцкая Царква. І цяпер яшчэ ў Англіі польскі эміграцыйны ўрад захоўвае «Польскую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву» на чале з яп. Матэям (Семашка), які да сваіх вернікаў — «праваслаўных палякаў» — залічае праваслаўных беларусаў і ўкраінцаў з Заходняе Беларусі і Зах. Украіны.

* Друкуецца паводле правапісу арыгіналу.

Асабліва вострыя дакоры сыпаліся і сыплюцца пад адрасам Каталіцкае Царквы ўсходняга абраду за тое, што яна быццам была пераходным мостам у палянізацыйнай акцыі. І гэта робіцца тады, калі гэтая Царква заіснавала ўжо пасьля таго, як хваля палянізацыі агарнула большую частку нашае шляхты. Так-жа ведама, што гэтая Царква сталася наймагутнейшым апірышчам супраць вынарадаўленьня, для тых народаў, якія да яе належалі; дзеля таго калісь царскі ўрад неміласэрна зьнішчыў яе на ўсім абшары свае ўлады, каб магчы лягчэй русыфікаваць паняволеныя беларускі і ўкраінскі народы. А на тых абшарах Украіны, дзе захавалася гэтая Царква, гэта значыць, дзе і далей вернікі маглі йсьці па «мосьціку», замест да польскасьці, прыйшлі да непахіснае ўкраінскае нацыянальнае сьведамасьці. На абшары Беларусі пасьля 1918 г. рабіліся стараньні мець гэткую-ж царкву для беларускага народу, выклікаючы за гэта на сябе моцныя напады з боку польскіх кіраўнікоў.

За апошнія два стагодзьдзі пры абгаворваньні пытаньня палянізацыі сьведама мяшалася праўда з няпраўдаю, перакручаныя факты з тэндэнцыйна насьветленымі, падчыркваліся адны факты, прамоўчваліся іншыя — і цяпер усё гэта самою гісторыяй пастаўлена на парадку дня і дамагаецца неадкладнага выясьненьня. Для належнага яго разуменьня неабходна прыпомніць некаторыя гістарычныя факты, якія часта прамоўчваюцца.

## ЧАС ПАШЫРЭННЯ КАТАЛІЦЫЗМУ НА БЕЛАРУСІ

Каталіцызм лацінскага абраду быў ведамы на абшары Беларусі здаўна, але ў шыршым абсягу пачаў пашырацца толькі пасьля Крэўскае пэрсанальнае вуніі 1385 г. Гэта быў час, калі беларуская культура ў шмат якіх галінах стаяла вышэй чым польская. Няраз падчас сустрэчаў беларускае і летувіскае шляхты з польскаю былі выпадкі пагардлівых адносін першых да апошняе. Тады на абшары Вялікага Літоўскага Княства была пашырана лягэнда аб паходжаньні літоўскае шляхты ад рымскіх арыстакратаў і сам назоў Літва стараліся выводзіць ад слова Італія. Праіснавала гэтая лягэнда некалькі стагодзьдзяў. Успаміналі аб ёй нават у часе, калі палянізацыйны працэс ішоў поўным ходам. Ведамы гісторык Каяловіч, прызнаючы, што ў пачатках Вялікага Літоўскага Княства ёсьць шмат няпэўнага і лягэндарнага, не забываецца з пашанаю пераказаць, як сам кажа, «няпэўную тэорыю», адносна назову, што быццам «Italiam in litaliam, tandem in lituaniam transformisse» (2). Наагул усе так званыя Літоўскія летапісы (варта зацеміць, што яны ўсе пісаныя пабеларуску) паўтараюць лягэнду аб паходжаньні свае шляхты з Рыму. З гэтага гледзішча ў хроніцы Быхаўца апавядаецца аб вельмі характэрным здарэньні: Аднойчы «Панове Літовскіі па-

[1] Поўны храналёгічны сьпіс палемічнае літаратуры ў Рэчыпаспалітай падае Antoine Martel.— La langue polonaise dans les pavs ruthenes Ukraine et Russie Blanche 1569—1667. Lille 1938. star. 142—150.

[2] Alberto Wiiuk Koialowicz.— Historiae Lituanae para prima. Danzig 1650. star. 8.

ведалі цэзару і князю велікому Вітольту тым обычаем: Мілостывы Цэзару і господару наш, велікі княжэ Вітольтэ, Ляхове не была шляхта, але былі люды простыі, ані мелі гэрбов своіх і велікімі дары того доходілі в Чэхов беручы так велікіі скарбы от ніх і гэрбов свох іж жычылі і шляхтою іх почынілі, і в гэрбы своі іх прынялі, але мы шляхта старая Рымская, которую прэдкі нашы з тымі гэрбы своімі зошлі до тых панств...» (3).

Гэта быў час, калі беларуская ўрадовая мова стаяла на толькі вышэй за польскую, што калі палякі на пачатку XV ст. хацелі мець больш зразумелымі некаторыя статуты, пісаныя палаціне, дык перакладамі іх на беларускую мову. Гэтак у 1420 г. ператлумачана ў Кракаве на тагачасную беларускую мову Варці статут, а ў 1423 г. Вісьліцкі і Ягайлаў статуты, бо польская мова была яшчэ за беднаю для гэткіх перакладаў. Падобнае зьявішча назіралася і ў іншых галінах культуры. Дзеля гэтага, хоць каталіцызм прыйшоў на Беларусь з Польшчы пасьля 1385 г. і першыя каталіцкія сьвятары былі палякі, але вельмі хутка ён прыняў беларускі характар і на беларускіх і нават летувіскіх абшарах.

## Беларускі характар каталіцкае царквы ў XV і XVI ст.

Першае каталіцкае біскупства лацінскага абраду на абшары Беларусі было заснована ў 1387 г. у Вільні і да XVIII ст. яно было адзіным. Першы біскуп быў паляк, але ягоныя наступнікі чаргаваліся: беларусы, летувісы і палякі, аднак ўжо ад палавіны XV ст. і аж да XVII ст. былі толькі беларусы і летувісы.

Па-за літургічнаю лацінскаю моваю ўсё духавенства на абшары Вялікага Княства карысталася беларускаю моваю. Сакратар вял. князя Аляксандра віленскі пралат Эразм Вітэлі ў сваёй справаздачы ў Рым з дня 31.III.1501 г. падае вельмі характэрнае абгрунтаваньне гэткае практыкі адносна летувісаў: «Захоўваюць уласную мову, аднак таму, што беларусы засяляюць сярэдзіну княства і іхняя гаворка ёсьць прыгажэйшаю і лягчэйшаю, дык усе яе ўжываюць агульна» (4). Ды інакш і быць не магло, бо-ж Вялікае Літоўскае Княства гэта паводля сучаснае тэрміналёгіі было Беларускае Княства, а сучасная Летува называлася тады Жмудзь, або Жамойць і тварыла асобную правінцыю ў Княстве. Урадаваю моваю ўва ўсім Вялікім Княстве была аж да 1697 г. беларуская мова, якая ўсё «выразьней набліжалася да беларускае разгаворнае мовы» (5).

У XV ст. для Каталіцкае Царквы на Беларусі беларускасьць была на толькі чымсьці самазразумелым, што паясьненьні да літургічных лацінскіх практыкаў пачалі пісацца пабеларуску: «Какъ ся

---

[3] Полное собрание Русскихъ Летописей. Том 17. С. Петербургъ, 1907 г.

[4] Tneiner August.— *Vetera monumenta Poloniae et Lithuaniae gentiumoue finitimarum.* Tomus 2. Romae 1861, star. 278.

[5] Chr. S. Stang.—Die westrussische Kanzelsprache der Grossfurstentums Litauen. Osio 1933, star. 123.

мша чтеть римскимъ обычаемъ Ма(т)цъ Божіей»; пабожная лектура: «О оустани Кристусовъ изъ мертвыхъ», а нават некаторыя лацінскія малітвы, як «Патэр ностэр», «Авэ Марія» і Сымбаль веры часам пісаліся кірыліцаю (6). Наагул, паводля сьведчаньня тагачаснага польскага дзеяча Яна Шчэнснага-Губэрта «Русь веры рымскае была ня горшаю за Русь веры грэцкае». Гэты факт прызнае нават і вельмі няпрыхільны да каталіцызму гісторык Бацюшкоў: «Пры панаваньні рускае мовы ў Літве, тут каталіцтва зьяўлялася «рускім каталіцтвам» у адрозьненьне з аднаго боку ад польскага каталіцтва, а з другога ад усходняга расейскага праваславія» (7).

Адносна беларускага характару каталіцтва ў Вялікім Княстве на працягу XV—XVI ст. ёсьць нязьлічаная колькасць дакумантаў. У мінулым стагодзьдзі рэдакцыя «Виленскаго Вѣстника» апублікавала вялікі том матэрыялаў з архіву Віленскае каталіцкае кансісторыі, пісаных тагачаснаю беларускаю моваю (8). Некалькі такіх дакумантаў зьявілася ў «Беларускім архіве». Там ёсьць між іншым ліст караля Жыгімонта «Велебнаму в Бозе князю Юрью кардиналу» (Радзівілу) з 15.1.1589 г. (9).

Ды ня толькі мова, але і дзейнасьць віленскіх каталіцкіх біскупаў з таго часу сьведчыць аб іхным беларускім патрыятызме. Напрыклад на дамаганьне віленскага біскупа Мацея з Трок (1421—1452) вял. князь Казімер у 1447 г. згадзіўся не назначаць настаяцелямі манастыроў, ані ў катэдру сьвятароў чужынцоў, пад якімі разумеліся тады палякі, а ў 1451 г. гэты біскуп на зьезьдзе ў Парчаве дамагаўся скасаваньня Ягайлаве вуніі з Польшчаю (10).

Асобна трэба зьвярнуць увагу на першапачаткавую дзейнасьць езуітаў у Беларусі, бо адносна іх усьцяж вядзецца прапаганда з расейскага боку, быццам яны былі найпаважнейшым штуршком палянізацыі ад першых крокаў свае дзейнасьці ў Вялікім Княстве. У пазьнейшай дзейнасьці яны сапраўды рабілі шмат для палянізацыі, але ў даным выпадку нас цікавіць, як яны распачалі сваю працу на Беларусі.

Заклікаў езуітаў у Беларусь віленскі біскуп Валерыян Пратасэвіч у 1569 г. для змаганьня з рэфармацыяй і для падняцьця каталіцызму (11). Як убачым далей, усе рэфарматарскія, ці дакладней кажучы, пратэстанцкія сэкты на Беларусі вялі працу ў польскай мове і ў польскім духу, і гэта ў вялікай ступені забавязвала езуітаў весьці супрацьпратэстанцкую акцыю так-жа папольску. Аднак міма гэтага езуіты спачатку не ўважалі сябе забавязанымі да польскасьці ў супрацьпратэстанцкай дзейнасьці і прызналі шырокае поле для беларускае мовы. У іхных школах ува ўсіх краінах усеўладнаю

[6] Е. Карскій.— Бѣлоруссы. Том I. Варшава 1903; В. Ластоўскі.— Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўня 1926, стар. 182.
[7] П. Н. Батюшковъ.—Бѣлоруссія и Литва. С. Петербургъ 1890, стар. 108. Примечаніе, стар. 16, нр. 286.
[8] Историческій архивъ Виленской римско-католической духовной консисторіи. «Виленскій Вѣстникъ» 1889 г. Нр. 230.
[9] Беларускі Архіў. Том III. Менскія Акты. Вып. першы. Менск 1931, стар. 37—38.

была лацінская мова; і вось вельмі характэрны факт, што ў Віленскай Акадэміі, быў на некаторы час зроблены вынятак і а. Фабрыцый выкладаў багасловіе пабеларуску (12). А ў гімназіях амаль усюды вучылі беларускую мову, як гэта сьцьвярджаюць гісторыкі школьніцтва на Беларусі Лукашэвіч і Харламповіч, апіраючыся на штогоднія справаздачы езуітаў аб іхных установах. Па касьцёлах так-жа карысталіся беларускаю моваю (13). Больш таго, у 1582 г. побач Віленскае Акадэміі яны зарганізавалі т. зв. Славянскую Сэмінарыю, якую папа Урбан VII дэкрэтам з 22.VIII.1624 г. зацьвердзіў як папскі алюмнат (14).

Айцы езуіты выдалі першую катэхізмоўку пабеларуску ў 1585 г. Пераклумачыў яе з лацінскае мовы на беларускую беларускі езуіт а. Базыль Амаскі (15). Агульна ведама так-жа, што ў інтэрмэдыях, як шмат пісалася ў езуіцкіх школах, заўсёды былі беларускія дыялёгі, праўда ня так для павучэньня, як для ўвядзеньня камізму. Гэтая практыка асталася і ў пазьнейшых часох, але нажаль прыняла характар насьмешкі над беларускаю моваю. Зьмены адносінаў айцоў езуітаў да беларускае мовы былі выкліканы тымі прычынамі, якія прычыніліся да ўпадку беларускае культуры.

## ПРЫЧЫНЫ ПАЛЯНІЗАЦЫІ

Вышэй пералічаных фактаў хіба-ж даволі, каб пераканацца, што каталіцызм ня быў і ня мог быць прычынаю палянізацыі на Беларусі. Дык што-ж было прычынаю? Адносна гэтага пытаньня зьявілася ў 1938 г. вялікая манаграфія францускага славіста А. Мартэля, у якой даказваецца, што найглыбейшая прычына палянізацыі ў Беларусі і Украіне ёсьць у тым, што «Польшча сталася праменюючым вогнішчам культуры, бо яе апладніў рэнэсанс. Беларусь-жа і Украіна наадварот, высыхалі і абясплодніваліся, бо да іх ня прыйходзіў ніякі новы сок ані з Візантыі, ані з Масквы. З двох культураў да гэтага часу моцна сталых, адна ўзбагачвалася, тады як другая вычэрпвалася» (16). Адносна гэтага цьверджаньня слушна заўважыў ведамы украінскі славіст Юры Шэрэх, што ня ёсьць праўдаю, быццам урадавая мова Вялікага Княства замірала, бо-ж сам Мартэль у сваёй кнізе дае прыклады, як гэтая мова ўсьцяж збліжалася да народнае мовы і тым самым «мела ў сабе не малыя магчымасьці далейшага разьвіцьця», але «Мартэль мае рацыю» — кажа далей Шэрэх цьвердзячы, што — «культура грэка-бізантыйскага паходжаньня тады была ў заняпадзе, а польская культура ў росьцьвіце». Аднак, як ён сам слушна зазначае, «падобныя сытуацыі пры-

---

10 Antoine Martel,— La langue polonaise dans les pays ruthenes Ukraine et Russie Bianche 1567—1667. Lille 1938, star. 172.

11 St. Zaleski,— Jezuici w Polsce. Tom 1. Lwow 1900.

12 Alberto Wiiuk Koialowicz,— Miscelina rerum ad statum ecclesiasticum in magno Lituaniae ducati pertinentium. Vilnae 1650, star. 226.

13 Кс. Адам Станкевіч.— Хрысьціянства і Беларускі Народ. Вільня 1940, а так-жа ў ягонай-жа кнізе: Родная мова ў сьвятынях. Вільня 1929.

14 St. Zaleski.— Jezuici w Polsce. Tom 11, Lwow 1990, star. 62.

15 Е. Карскій,— Два памятника старого западно-русского наръчія: І. Лютеранскій катихизисъ 1562 г. и 2. Католическій катихизисъ 1585 г. «Журн. Мин. Нар. Просв.». Августъ 1893

водзяць да вялікага ліку моўных запазычань, асабліва ў лексіцы, але не да поўнага адыходу ад свае мовы. Вось-жа зрачэньне свае мовы вымагае асобнага паясьненьня» (17). І далей Шэрэх цьвердзіць, што прычынаю таго зрачэньня роднае мовы на карысьць польскае ёсьць «беспасрэдны і пасрэдны ціск Польшчы», а далейшымі прычынамі былі: кампанія высьмейваньня «прастацкае мовы» і падразаньне ў корані, усіх тых грамадскіх пластоў, якія маглі быць носьбітамі, новастворанае на аснове сынтэзы з старое ўрадовае мовы і жывых гаворак, літаратурнае мовы. Мартэль сам прызнае, што носьбітамі гэтае мовы маглі быць двор пануючага і горад» (18).

Цьверджаньні абодвых дасьледнікаў маюць шмат праўды: усё сказанае імі сапраўды дзеялася і на Беларусі, і на Украіне, але першая прычына гэтае дзейнасьці была іншая чым яны кажуць. Калі-б упадак бізантыйскае культуры быў тою прычынаю, як кажа Мартэль, дык Маскоўшчына мусіла-б дайсьці да горшага ўпадку чым Беларусь і Украіна, бо туды сапраўды не даходзілі ніякія новыя сокі. Яшчэ больш неабаснаваным ёсьць цьверджаньне Шэраха, што першаю прычынаю быў ціск Польшчы. Сапраўды, ціск дзеяўся, але пачынаючы ад палавіны XVI ст., калі ўжо Вялікае Княства было паважна зьнясіленае бязупыннымі войнамі з Маскоўшчынаю, але перад тым ня толькі культурная, але і фізычная перавага была на баку Вялікага Княства.

Найглыбейшую прычыну палянізацыі трэба шукаць далей. Аб ёй успамінаюць абодва дасьледнікі, гаворачы аб двары пануючага і гарадох, але не зьвяртаюць на яе належнае ўвагі. Найпершаю і найважнейшаю прычынаю зьяўленьня палянізацыі між народаў калішняга Вялікага Літоўскага Княства было перанясеньне дзяржаўнага і культурнага цэнтру на польскі этнаграфічны абшар — Кракаў. Перанясеньне адбылося ў фэадальных часох, калі звычайна каля двара пануючага гуртаваліся ўсе тыя дзейнікі, што стваралі культурнае вогнішча, з якога праменьні расходзіліся па ўсёй краіне. У сёньняшніх часох цэнтр мае аграмаднае значэньне з гэтага гледзішча, а калісь ён меў вырашаючую ролю. Але перанясеньне віленскага цэнтру на карысьць Кракава адбывалася паволі і таму ягоныя вынікі спачатку адчуваліся вельмі нязначна. Пры тым даўжэйшы час у Вільні больш патрыятычна настроеныя магнаты рабілі стараньні захаваць дзяржаўныя традыцыі; на працягу XV ст. выбіралі вялікіх князёў, ня пытаючы згоды палякаў. Таму вялікія князі з XV ст. нават і пасьля таго, як іх палякі выбіралі каралямі, спрыялі Вялікаму Княству, хоць і жылі ў Кракаве. Але Кракаўскае акружэньне рабіла сваё і відаць што беларускія магнаты добра гэта адчувалі, бо пасьля таго, як у 1506 г. Жыгімонт Стары пакінуў Вільню быццам назаўсёды, на стараньне беларускіх магнатаў у 1529 г. ён назначыў вялікім князем свайго дзевяцігодавага сына Жігімонта-

[16] Antoine Martel, op. cit., star. 162.

[17] Юрій Шерех.— Польска мова в Україні в XV — XVII ст. «Україна» ч. 2. Париж 1949, стар. 104.

[18] Там-жа:

Аўгуста і дазволіў яму заняць віленскі вялікакняжы пасад з усімі цэрэмоніямі. Але як толькі сціхла рэха інсталяцыйных банкетаў юнак — вялікі князь — пакінуў Вільню і пераехаў да бацькі ў Кракаў, а там палякі пасьпяшаліся выбраць яго за наступніка каралю і сам Жыгімонт Стары прысьпешаным тэмпам 20.II.1530 г. наладзіў каранацыю сына. Вось-жа ў Кракаве добра ўсьведамлялі вартасьць свайго цэнтру і зырка сачылі, каб не дапусьціць да аднаўленьня ўпадаючага віленскага цэнтру. Трэба так-жа прыпомніць, што Кракаў яшчэ да Крэўскае вуніі меў адну перавагу над Вільняю з культурнага гледзішча — там існаваў ад 1364 г. унівэрсытэт, у якім пасьля Крэўскае вуніі вучылася шмат студэнтаў з Вялікага Княства. У 1409 г. для іх была збудаваная бурса. Праўда да XVI ст. выклады на унівэрсытэце адбываліся толькі па лаціне, але польскае асяродзьдзе ўсё-ж рабіла свой уплыў.

У XVI ст. пад уплывам рэфармацыі ў Польшчы абуджаецца моцная нацыянальная плынь; росквіт польскае культуры шпаркім крокам пайшоў напярод; зьявіліся вялікія нацыянальныя паэты і дзеячы, маючы добрую глебу для свае дзейнасьці. На Беларусі XVI ст. мае так-жа назоў залатога веку, бо гэта быў час, калі зьявіўся пераклад біблії д-ра Францішка Скарыны — першага беларускага друкара; час зьяўленьня славутага Літоўскага Статуту аж у трох рэдакцыях; час калі пачало пашырацца школьніцтва, у 1556 г. засналася нават вышэйшая праўная школа ў Вільні пры касьцёле сьв. Яна; час заснаваньня шматлікіх друкарняў. — Але пераважная кольказасьць гэтых культурных здабыткаў была вынікам ахвярнае працы адзінак і найчасьцей пасьля сьмерці іхніх стваральнікаў расьцярушвалася, бо не было цэнтру, дзе-б маглі захоўвацца іхныя творчыя традыцыі. Некаторыя творы нават ня былі даведзены да канца і шмат якія загінулі бясьследна. Наагул-жа ў гісторыі беларускага народу XVI ст. ёсьць адным з найбольш крывавых стагодзьдзяў. Праз усё стагодзьдзе вяліся войны з Маскоўшчынаю і калі яны спыняліся дык толькі на тое, каб падрыхтавацца да абароны ад няспынных нападаў прабуджанага маскоўскага імперыялізму. Ад вякоў-жа ведама, што «у часе вайны моўкнуць музы». Але на Беларусі ніколі не бракавала людзей з творчымі талентамі, і калі ім ня было магчымасьці разьвіваць гэтыя таленты ў сябе, дык часта аддавалі іх на карысьць суседзям — адны Польшчы, другія Маскоўшчыне. — Творчыя скарбы беларускага народу расьцярушваліся.

Перанясеньне дзяржаўнага цэнтру ня было-б такім фатальным, калі-б на Беларусі быў свой моцны рэлігійны цэнтр. Нажаль гэтага ня было. У тым часе на абшары Беларусі існавалі дзьве Царквы: Каталіцкая і Праваслаўная і абедзьве ад канца XV ст. перажывалі вялікі ўпадак. Праўда ў тым часе ня лепш было і ў іншых краінах. Паважнаю прычынаю ўпадку было так званае права патранату, на аснове якога біскупа назначаў кароль, а сьвятароў — магнаты і шляхта на абшары сваіх землеўладаньняў. Пры раздаваньні духоўных пасадаў адбываліся ўсякія надужыцьці. Асабліва багацей-

шыя парахвіі, манастыры і япіскапскія пасады вельмі часта куплялі сабе нягодныя кандыдаты пры помачы хабару. Страшэнна пашырыла хабарніцтва на Беларусі другая жонка Жыгімонта Старога (1506—1548) італьянка Бона (ад 1518 да 1556 г.). Тады на духоўных пасадах зьявілася толькі нягодных людзей, што аўтарытэт духавенства ўпаў зусім; тыя што мелі быць рассаднікамі сьвятасьці і асьветы, сталіся крыніцаю нячуванага згоршаньня. Адзін з найбольш вострых супрацькаталіцкіх палемістаў Іван Вышэнскі каля 1590 г. з горкім жалем мусіў сказаць аб праваслаўных духоўных: «Да прокляты будут владыкы, архимандриты и игумены, которие монастыръ позапустъвали и фольварки себъ зъ мъстъ святыхъ починили, и сами только зъ слуговинами и приятельми ся въ нихъ тълесне и скотски переховываютъ, на мъстохъ святыхъ лежачи, грошъ збираютъ, съ тыхъ доходовъ, на богомольци Христови наданных...» (19). Наагул сьведчаньні з XVI ст. аб духавенстве маюць вельмі чорны колер.

Калі ў тым часе зьявіліся на Беларусі прапаведнікі розных пратэстанцкіх рэфарматарскіх сэктаў, дык знайшлі вельмі ўраджайны грунт для свае дзейнасьці. За кароткі час большая частка магнатаў і шляхты пакінула веру сваіх бацькоў і знайшлася ў радох сэктантаў. Пасьля сьмерці Жыгімонта-Аўгуста (1572) у Вялікім Княстве налічвалася аж 72 сэкты (20). У канцы XVI ст. гэта значыць перад Берасьцейскаю царкоўнаю Вуніяю аставалася вельмі мала шляхты, якая яшчэ трымалася веры сваіх бацькоў. Паводля сьведчаньня а. Пятра Скаргі ў Наваградзкім ваяводзтве з 600 шляхоцкіх родаў усяго 16 заставалася праваслаўнымі: каля 650 цэркваў забралі арыяне.

Пры гэтай нагодзе неабходна звярнуць увагу на адзін факт, якім вельмі часта карыстаецца супрацькаталіцкая прапаганда. На старонках праваслаўнае прэсы часта можна стрэнуць спасылку на кніжку Мялеція Сматрыцкага «Трэнос», выданую ў 1610 г. у Вільні, дзе быццам пералічаюцца старыя шляхэцкія роды, якія перайшлі ў каталіцызм і праз гэта спалянізаваліся. Дарэчы, самая кніжка напісана папольску — значыць праваслаўны аўтар і да таго палкі абаронец Праваслаўнае Царквы быў вельмі блізка зьвязаны з польскасьцю. У сваёй кнізе Сматрыцкі апісвае наагул жалюгоднае палажэньне Праваслаўнае Царквы і між іншым укладае ў вусны Царквы такія запытаньні: «Дзе цяпер той бясцэнны камень карбункул, бліскучы, як сьветач, каторы я насіла ў кароне галавы мае між іншымі пэрламі, як сонца між зорамі, — дом князёў Астроскіх, што сьвяціў і я ўсё іншае бляскам сьветласьці свае старое веры. Дзе іншыя дарагія і так-жа бясцэнныя камяні тое кароны — слаўныя дамы рускіх князёў, бясцэнныя сапфіры, бясцэнныя дыяманты: князі Слуцкія, Заслаўскія, Збараскія, Вішнявецкія, Сангушкі?...» (21). Наагул Сматрыцкі называе 46 князёўскіх і магнацкіх родаў, якія ў тым

---

20 J. I. Kraszewski,— Wilno. Wyd. 1. Wilno 1838, star. 288.
21 П. Н. Батюшковъ.— Бълоруссія и Литва. С. Петербург 1890, стар. 210—211.

часе адыйшлі ад праваславія, але ня кажа як і калі. Ведамы дасьледнік пратэстантызму Ст. Кот дае вычэрпваючы адказ на пытаньне Сматрыцкага. З тых 46 родаў 31 займалі кіруючыя становішчы і 20 з іх на пачатку XVII ст. належалі да пратэстантызму, 8 часткава належалі да каталіцызму і часткава да праваславія, іншыя адразу перайшлі з праваславія ў каталіцызм лацінскага абраду, як гэта зрабілі сыны Кастуся Астроскага. Падобна было і з 15 названымі шляхоцкімі родамі. Кот падае вельмі цікавы сьпіс студэнтаў з Вялікага Княства, якія між 1550 і 1650 гадамі вучыліся ў заходнеэўрапэйскіх унівэрсытэтах. Найбольш іх было ў лютэранскіх унівэрсытэтах: Кэнінгсбэрг, Ляйпцыг, Іена, Віттэнбэрг, Тюбінгэн. Нямала было ў акадэміях рэфарматараў: Баль, Цюрых і інш. Толькі невялікая частка ў каталіцкіх (22). Словам, тады, як Сматрыцкі пісаў сваю кнігу сапраўды названыя ім роды ня былі ў Праваслаўнай Царкве, але мала хто быў у Каталіцкай. Пратэстантамі і кальвіністамі былі: Вішнявецкія, Галаўчынскія, Горскія, Забароўскія, Збаражскія, Лукомскія, Масальскія, Прунскія, Пузыны, Ружынскія, Сакалінскія. Толькі часткава былі пратэстантамі, але часткава яшчэ асталіся праваслаўнымі: Валовічы, Воіны, Зеневічы, Карсакі, Саламярэцкія, Скуміны, Тышкевічы, Чартарыйскія. Потым гэтыя магнацкія роды разам з іншымі шляхецкімі родамі з пратэстантызму і праваславія адразу пераходзілі ў каталіцызм лацінскага абраду.

Не пералічаючы ўсіх пратэстанцкіх рэфарматарскіх сэктаў, якія былі зьявіліся ў Вялікім Княстве, прыходзіцца сьцьвердзіць факт, што ўсе іхныя прапаведнікі прыйшлі да нас з Польшчы і вялі сваю працу ў польскім духу. Сталася так дзеля таго, што ў Польшчы рэфармацыя хутка выклікала моцную контррэфармацыю, якая старалася прадставіць каталіцызм, як старую польскую веру, а рэфармацыю як чужую веру. Каб зьняпраўдзіць стаўленыя ім закіды, усе рефарматарскія сэкты ў Польшчы прыймалі моцны польскі характар. Гэта ў сваю чаргу выклікала моцнае нацыяналістычнае польскае ахварбаваньне каталіцызму, як адзінае «польскае веры». Узаемнае спаборніцтва ў польскасьці прышчапіла такі моцны нацыяналістычны дух рэфарматарскім прапаведнікам, што яны зьявіўшыся на Беларусь, ня лічаць патрэбным зьмяняць свайго нацыяналістычнага польскага падыходу ў працы. Аб дробных адхіленьнях ў гэтым дачыненьні будзе сказана ніжэй.

Апякунамі і прыхільнікамі рэфармацыі былі ў першую чаргу тыя магнаты і шляхта, што вучыліся ў заграні́чных пратэстанцкіх унівэрсытэтах. Яны засноўвалі шмат розных пратэстанцкіх рэфарматарскіх школаў і друкарняў звычайна толькі польскіх. Адзіным выняткам была друкарня Радзівілаў у Нясьвіжы, якая ўсяго адзін год была беларускаю антытрынітарнаю друкарняю, дзе Сымон Будны надрукаваў дзьве беларускія кніжкі: «Катихизис» і «О опровданіи

[22] St. Kot,— La Refórme dans le Grand-Duche de Litnuanie, facteur d'occidentalisation culturelle. «Annuaire de l 'Institut de Philologie et d 'Histoire Orientale et Slave». Tom X11. Bruxelles 1953, s. 241—244.

грешного человека перед Богом». У далейшым усю сваю даволі плодную пісьменьніцкую дзейнасьць Будны вёў у польскай і часткава лацінскай мовах (23).

Аб характары рэфармацыі на Беларусі вельмі вымоўнае сьведчаньне даюць друкарні. Вось іхны сьпіс з XVI ст.:

Радзівілаўская ў Берасьці між 1558—1566 гадамі, потым перанесеная ў Вільню — лаціна-польская; Радзівілаўская антытрынітарная ў Нясьвіжы ад 1562 г., толькі ў першы год свайго заснаваньня была беларуская, потым лаціна-польская; арыянская ў Лоску між 1570—1583 лаціна-польская; арыянская ў Ракаве ад 1572 года лаціна-польская; кальвінскага сыноду ў Вільні ад 1580 г. — польская; дзьве рэфарматарскія ў Вільні ад 1583 і 1584 гадоў — абедзьве польскія. Да таго яшчэ ў XVII ст. было заснована некалькі рэфарматарскіх друкарняў і ўсе выключна польскія.

Што да рэфарматарскага пратэстанцкага школьніцтва, дык яно яшчэ больш чым друкарні выяўляе палянізацыйны характар рэфарматарскага руху на Беларусі. Праўда было пару выпадкаў вельмі кароткатрывалых і частковых адхіленьняў ад гэтага правіла, і то толькі на пачатку іхняе дзейнасьці, але яны былі такія нязначныя, што аб іх няма патрэбы гаварыць. Вельмі моцны палянізацыйны дух мелі школы кальвіністаў, соцыніянаў (24), а бадай найбольш — арыянскія. Некаторыя з польскіх дасьледнікаў школьніцтва ўважаюць іх за найбольшых палянізатараў. Напрыклад Яблоноўскі кажа: «Вельмі памыляюцца тыя, якія ўважаюць, быццам гэта каталікі лацінскага абраду, а потым вуніяты прычыніліся да захістаньня і пакіненьня (шляхтаю) старарускае мовы і да ўвядзеньня польскае культуры на Русі. У сапраўднасьці былі іншыя людзі, якім трэба прыпісаць гэтую ролю: наагул дыссыдэнты і між імі ў першую чаргу арыяне» (25).

Такая палянізацыйная дзейнасьць пратэстанцкае рэфармацыі навяла на думку некаторых дасьледнікаў нашага мінулага, што яе пачалі лічыць ня толькі фактарам палянізацыі, але нават і прычынаю, бо маўляў «пратэстанцкая рэфармацыя адвярнула беларускую шляхту ад праваслаўя і завярнула на Захад праз Польшчу» (26). Аднак у гэтым цьверджаньні ёсьць тая недакладнасьць, што калі-б Беларусь ня была папярэдне зьвязана з Польшчаю, калі-б ня страціла свайго цэнтру, дык рэфармацыя на Беларусі прыняла-б беларускі характар, як яна прыймала нацыянальны характар у іншых краінах. Вось-жа яна была толькі адным дзейнікам і пры тым досыць магутным дзейнікам папярэдне заіснаваўшае прычыны палянізацыі. Трэба яшчэ заўважыць, што рэфармацыя акрамя свае намерана палянізацыйнае дзейнасьці пасрэдна ўзмацняла іншыя па-

[23] Konrad Gorski — Studia nad dziejami literatury antytrynitarskiej XVI w. Krakow 1949. (Szymon Budny), star. 141—196.

[24] J. Lukaszewicz — Historya szrol w Koronie i W. Ksiestwie Litewskim od najdawniejszych czasow do 1794 r. Tom 1. Poznan 1849, star. 355.

[25] A. Jablonowski — Akademia Kijowsko-Mohylanska. Krakow 1899, star. 23.

[26] St. Kot. op. cit., star. 203.

лянізацыйныя дзейнікі: руйнавала старыя беларускія традыцыі, а сваею раздробленасьцю нішчыла магчымасьць стварэньня цэнтру адпору супраць польскага наступу.

Аб тым, што рэфармацыя магла ў нас прыняць іншы характар, калі-б быў не захістаны свой дзяржаўны і культурны цэнтр відаць з таго, што некаторыя першыя польскія прапаведнікі рэфармацыі вывучалі беларускую мову і карысталіся ёю ў сваёй працы. Сымон Будны, калі яшчэ быў кальвіністам, выдаў у Нясьвіжы «Катихизисъ», і ў прадмове між іншым заахвочвае Радзівілаў карыстацца беларускаю моваю: «Къ тому тъжь і для того, абы ся ваши княжацъские милости не только въ чужоземскихъ языцъхъ кохали, але бы ся тежъ ваши Княжецъские милости и того славъного языка словенсъкого розмиловати и онымъ ся бавити рачили. Слушная бо речъ есть, абы ваши Княжацъские милости того народу языкъ миловати рачили, въ которомъ давъные предъки и ихъ Княжацъские милости пановъ отцы вашихъ Княжацъскихъ милости славъне преднейшие преложеньство несуть» (27). Аднак гэткія адносіны Буднага да беларускае мовы былі нятрывалымі; ад 1563 г. ужо больш ня было чуваць, каб ён карыстаўся ёю (28). Дакумэнтальнае сьведчаньне аб тым, якія спадзяваньні былі ў некаторых беларусаў адносна рэфармацыі можна знайсьці ў беларускага кальвініста Васіля Цяпінскага. У прадмове да беларускага перакладу Евангельля, выданага каля 1570 г. ён апісвае жалюгодны нацыянальны і рэлігійны заняпад і ўважае, што ягоная дзейнасьць можа прычыніцца да таго, каб з таго заняпаду знайсьці ратунак. Ён вельмі балюча перажываў заняпад: «Хто бы немусілъ плакати, видичи так великихъ княжат, таких панов знатных, так мног(о) детокъ невинных мужов з жонами в таком зацномъ руском, а злаща передъ тым достипном оучоном народе, езыка своего славного занедбане, а просто възгарду, с которое за покаранемъ панским... (на іх) такая оплаканая неуместность пришла, же вже некторие и письмом её своим, а злашче в слове божемъ встыдают. А наостаток, што может быти жалостнейшая... ижъ тые, што се межи ними зовут духовными, и учители... в польскіе або в иные писма... дети запровуючи» (29). Гэтыя дакоры падыктавала яму «зычлівасьць ку атчызне» у абліччы абыякавасьці іншых «Которых я не одному которому, але всі з тою потребою отчизны вашое богобойности, пильности, ростропности и верности поручаю и заставую, просечи Пана, абых был готов, если она до конца згинет, з нею згинуть, або если через ваш ратунок будет выдвигнена, з вами и з неею выбрнуть» (30).

---

27) Археографическій сборникъ документовъ относящихся къ исторіи Съверозападной Руси. Томъ VII. Вильно 1870, стар. XX.

28) Konrad Gorski. op. cit., star. 158.

29) Е. Карскій. — Къ вопросу о разработкъ старого западно-рускаго наръч'я. «Труды Виленского отдъленія Московского предварительнаго комитета по устройству въ Вильнъ IX Археологического Съезда». Вильна 1893. Отд. III, стар. стар. 8, 9.

30) В. Ластоўскі. — Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўня 1926, с. 415.

Той роспачы, які адчуваецца ў гэтым закліку Цяпінскага, сьведчыць ня толькі аб жалюгодным палажэньні, але і аб палянізацыі, якая ўсюды шырылася, а так-жа і аб тым, што ён аставаўся бяз рэха. Гэта быў голас адзінкі, які аставаўся без падтрыманьня. Наагул падсумоўваючы дзейнасьць пратэстанцкае рэфармацыі на Беларусі яе нельга інакш ацаніць, як руйнацкую з кожнага гледзішча.

Цяпінскі не ўспамінае, што на рэлігійны заняпад ня ўсе глядзелі абыякава задоўга да зьяўленьня рэфармацыі і ў часе яе пашырэньня. Яшчэ ў 1509 г. адбыўся ў Вільні сабор праваслаўных ерархаў і было прынята цэлы рад пастановаў, якія мелі на мэце ўздым рэлігійнага жыцьця. Нажаль прынятыя пастановы асталіся толькі архіўным матэрыялам, а рэлігійны ўпадак усьцяж пабольшваўся, дзеля тых прычынаў, аб якіх успаміналася перш. Калі-ж рэфарматарская прапаганда апустошыла цэркві і касьцёлы, усё што яшчэ аставалася вернае веры сваіх продкаў, пачало актывізаваць свае сілы для сапраўднае адраджэнскае рэлігійнае працы і гэта бадай адзіная заслуга рэфармацыі. Аднак дзеля адсутнасьці свайго цэнтру і дзеля нястачы дастатковае сілы на мейсцы і праваслаўныя і каталікі былі змушаны шукаць помачы звонку.

Віленскі біскуп Пратасэвіч для ўздыму каталіцызму заклікаў у 1569 г. езуітаў з Кракава. Аб пачаткавай іхняй працы на Беларусі гаварылася перш, тут мусім сыцьвердзіць іншы факт. Праца айцоў езуітаў была плённай, рады пратэстанцкае рэфармацыі хутка радзелі і зусім зьнікалі. З усіх рэфарматарскіх сэктаў іхныя прыхільнікі пераходзілі ў Каталіцкую Царкву, але разам з сабою прыносілі туды тую польскасьць, якую займелі ў тых сэктах і гэта ўпраўніла езуітаў займаць выразна палянізацыйны характар у іхняй дзейнасьці. З цягам часу польскае засільле ў радох езуітаў змацнялася праз даплыў новых кадраў з Польшчы.

Праваслаўныя ерархі даўжэйшы час асталіся бязьдзейнымі ў абліччы рэфармацыі. І калі ўжо становішча Праваслаўнае Царквы пагражала поўнаю руінаю, за адраджэнскую рэлігійную працу ўзяліся мяшчане, арганізуючы брацтвы на ўзор распаўсюджаных да гэтага часу цэхаў. За паўтара дзесятка гадоў брацтвы ўжо былі ва ўсіх большых беларускіх гарадох: Троіцкае брацтва ў Вільні ад 1584 г., у Крычаве — 1588, у Магілёве — 1590, у Горадні — 1591, у Берасьці — 1591, Раства Багародзіцы ў Воршы — 1592, у Менску — 1592, а сьледам за тым у Мсьціслаўе, Слоніме, Прэабражэнскае ў Слуцку, Мікольскае ў Віцебску, у Полацку і іншых гарадох. Але ўсе яны, ня маючы падтрымкі ў сваіх магнатаў, пераважна пратэстантаў, а потым католікаў, пачалі арыентавацца на Маскву. У іхных школах пачалі моцна расейшчыць тагачасную ўрадовую беларускую мову, з гэтага атрымалася такая няжыцьцяздатная трашанка, якая ў XVIII ст. пайшла ў архіў. Словам, вынік іхняе ахвярнае працы быў зусім адваротны да іхняга намераньня.

Адначасна з рэфармацыяю вельмі паважным дзейнікам палянізацыі былі польскія ўрадаўцы, якія прысылаліся на Беларусь з

Кракава і шматлікія каляністы, якія самі прыязджалі сюды і якім каралеўскія ўрадаўцы давалі адказныя пасады. Ужо на Берасьцейскім сойме ў 1542 г. дэпутаты скаржыліся каралю, што ў «Літве і Русі ўрады і цівунствы параздаваныя ляхам». Падобныя скаргі паўтараліся і на другім Берасьцейскім сойме ў 1544 г. (31). Пратэсты мала што памагалі, а пасьля Люблінскае вуніі сталіся нават немагчымымі.

Асобна трэба зьвярнуць увагу на практыку высыланьня польскага духавенства ў Вялікае Княства. З гэтага гледзішча былі вельмі актыўнымі некаторыя манашыя чыны. У бэрнардынскіх манастырох у Вялікім Княстве на гэтым тле дайшло ў 1529 г. да паважных спрэчак. Мяйсцовыя манахі запратэставалі супраць таго, што ўсе кіруючыя становішчы ў іх манастырох абсаджваліся палякамі, якія акрамя палянізацыйнае працы яшчэ грабілі манастыры, высылаючы больш вартасныя рэчы ў Польшчу. Мяйсцовыя манахі сьпярша дамагаліся звароту забраных рэчаў, а потым утварэньня асобнае правінцыі. Беларускія і летувіскія магнаты падтрымалі сваіх магнатаў і манахаў і кароль Жыгімонт Стары прасіў у папы ўтварыць асобную правінцыю бэрнардынаў у Вялікім Княстве (32). Затое ў іншых манашых чынох, дзе беларусаў было мала, палажэньне было на толькі горшае, што ня было каму пратэставаць супраць нерэлігійнае дзейнасьці прыезджых з Польшчы манахаў.

За панаваньня Жыгімонта IV Вазы аднаўляецца практыка назначаць біскупаў у Вільню не з мяйсцівага духавенства але прысылаць з Кракава. У 1591 г. гэткім чынам кароль назначыў віленскім біскупам паляка Бэрнарда Мацеёўскага. Але тады канцлерам быў Леў Сапега, ён востра запратэставаў супраць такое практыкі і адмовіўся паставіць пячатку Вялікага Княства на каралеўскай грамаце з назначэньнем, апіраючыся на Літоўскі Статут, у якім засьцерагалася, што кіруючыя становішчы ня могуць займаць чужынцы. Доўга цягнуліся перагаворы, але ў канцы Сапега перамог, у 1598 г. кандыдатура Мацеёўскага была адклікана. Гэты канфлікт вымоўна сьведчыць, як моцны быў у тым часе палянізацыйны наступ з Кракава на Беларусь, калі такому энэргічнаму канцлеру, якім быў Леў Сапега, спатрэбілася аж 8 гадоў настойлівых дамаганьняў, каб палагодзіць адзін з канфліктаў, заплянаваных у Кракаве супраць беларускіх правоў.

З цягам часу дзейнікі палянізацыі ўсё збольшваліся. Калі беларускія магнаты мелі ўсе прывілеі польскіх магнатаў, тады ў нас, яшчэ горш чым у Польшчы запанавала анархія. Паводля правіла «Szlachcic na zagrodżie równy wojewodżie», пачало шырыцца самавольства і гвалты над слабейшымі — гэта той дзейнік, які Ю. Шэрах залічае да галоўных прычынаў палянізацыі. У сапраўднасьці гэты дзейнік зьявіўся тады, калі паважная частка беларускіх магнатаў і шляхты былі спалянізованыя. Але незалежна ад таго, калі ён зьявіўся і хто ім карыстаўся, гэты дзейнік ужы-

[31] П. Н. Батюшковъ. op. cit. стар. 115.
[32] Theiner August.— op. cit. star. 466—467.

ваўся даволі шырока і акрамя намеранае палянізацыі вытвараў узаемную варажнечу.

Разам з самавольствам распачалася прапаганда аганбліваньня і зневажаньня ўсяго старога беларускага. Прыкладам у гэтай дзейнасьці можа быць пісьменьнік Станіслаў Ожэхоўскі, які ў сваім творы «Quincunx» з 1564 г. між іншым заклікаў «Літву, каб хутчэй «ksieslwo swoje w Krolewstwo, a ksiedza litewskiego w krola polskiego, a niewole w swobode, hanbe w czesc, gluposc wmadsosc, a hrubosc swa cwiczona w nature polska so rychlej odmieni» (33).
Праўда, самыя-ж палякі называюць Ожэхоўскага «неакелзаным вархолам», але якраз для гэткіх людзей бязладзьдзе ў Рэчыпаспалітай стварыла шырокае поле для дзейнасьці і яны дзейнічалі. Адносна рэлігіі, дакладней кажучы адносна праваслаўя і каталіцызму, у шляхэцкіх кругох стварылася прыказка: «Bog stworzył popa dla chłopa, a pledana dla pana». Пры тым з панскасьцю абабязкава спалучалі польскасьць.

Усе вышэй пералічаныя дзейнікі палянізацыі дзейнічалі, разам і паасобку за часоў прыналежаньня Беларусі да Рэчыпаспалітае. Калі-ж уканцы XVIII ст. быў зьнішчаны польскі дзяржаўны цэнтр, — галоўная і першапачаткавая прычына палянізацыі, — поступ палянізацыі ня спыніўся, бо да гэтага часу стварылася на Беларусі моцная польская група, якая прадаўжала палянізацыйную працу ў новых абставінах. У XVIII ст. амаль зусім зьніклі на Беларусі рэфарматарскія сэкты: пасьля апошняга разбору Рэчыпаспалітае спынілася прысыланьне з Польшчы ўрадаўцаў, але на дапамогу палянізацыі зьявіўся новы дзейнік — русыфікацыя.

Ад калі Беларусь знайшлася ў расейскай акупацыі распачаўся наступ супраць беларускасьці з двох бокаў. Тады адзінаю апораю, дзе хоць часткава магла захоўвацца нейкая дрыбіна беларускае самабытнасьці ў арганізаванай форме, была Усходнекаталіцкая Царква. У 1839 г. яе зьнішчана і ў тым-жа годзе на ўсім абшары Беларусі забаронена гаварыць і ў каталіцкіх і ў праваслаўных сьвятынях казаньні пабеларуску, але католікам лацінскага абраду не забаронена карыстацца польскаю моваю. Сілаю гэтага факту каталіцызм пачаў прыймаць на Беларусі дэманстрацыйна польскае аблічча, чаго ня меў да гэтага часу ў Рэчыпаспалітай, і беларусы-каталікі для адрозненьня сябе ад расейцаў пачынаюць карыстацца польскаю моваю ня толькі ў рэлігійным, але часам і ў штодзённым жыцьці. Каталіцкая Царква на Беларусі стаецца адным з магутных дзейнікаў палянізацыі тады, калі іншыя падобныя дзейнікі або зьніклі, або зьменьшылі сваю наступальную моц. Адзін з польскіх журналістаў, пішучы аб тых часох, кажа: «Так дзіўна злажыліся адносіны агульнае дзяржаўнае палітыкі, што распараджэньне, якое мела на мэце здушэньне польскіх уплываў, узмоцніла іх, надаючы каталіцызму на Беларусі польскае ахварбаваньне» (34). Тут слова «ахвар-

[33] Cytuju pavodla: Antoine Martel, op. cit., star. 180.

[34] Piotr Zubowicz.— Bialorus i Bialorusini. «Praca», Nr. 1. styczen 1910.

баваньне» за слабое, каб азначыць сапраўдны стан каталіцызму на Беларусі ў тых часох, калі ён быў прыняў польскі вузка нацыяналістычны характар, які супярэчыць самай сутнасьці каталіцызму, як рэлігіі для ўсіх народаў і пляменьняў.

## НЕКАЛЬКІ ЗАЎВАГАЎ...

У зьвязку з усім вышэйсказаным неабходна яшчэ дадаць некалькі заўвагаў для большае яснасьці закраненага тут пытаньня.

Гаворачы аб галоўнай прычыне палянізацыі — перанясеньні культурнага цэнтру з Вільні ў Кракаў — вельмі мала казалася аб змаганьні за захаваньне гэтага цэнтру, вось-жа каб ня выглядала так, быццам дзяржаўныя мужы Вялікага Княства былі непразорлівымі і недаглянулі тых далёкасяжных трагічных насьледкаў, да якіх давяло тое перанясеньне, трэба ўспомніць аб некаторых гістарычных фактах, якія сьведчаць, што так ня было, што ў сапраўднасьці тагачасныя беларускія і летувіскія дзяржаўныя дзеячы ўжо пасьля Крэўскае вуніі 1385 г. бачылі да чаго вядзе гэткае аб'еднаньне і ўсімі сіламі стараліся ўдарэмніць акт тае вуніі. Аднак розныя гістарычныя абставіны змушалі на працягу паўтара стагодзьдзя больш дзесятка разоў аднаўляць той акт прынамся фармальна. Калі-ж кароль Жыгімонт Аўгуст разам з польскімі магнатамі заплянавалі на Люблінскім сойме ў 1569 г. канчаткова заключыць такую палітычную вунію, якая мела зусім падарваць дзяржаўны цэнтр Вялікага Княства, дык беларускія і летувіскія дэпутаты стараліся зусім сарваць той сэйм і тым самым не дапусьціць да вуніі. Дэпутаты пакінулі сэйм і паехалі дамоў. Напружаньне між Вялікім Княствам і Польшчаю завастрылася да таго, што пахла вайною. Але ў тым часе армія Вялікага Княства была моцна зьнясілена доўгагадоваю вайною з Маскоўшчынаю і ня мела ніякае магчымасьці тварыць яшчэ новы фронт, пры тым палякі, каб падарваць моц Вялікага Княства, падступна адарвалі ад яго і прылучылі да сябе ўсю украінскую частку Княства, і тады кароль заклікаў зноў беларускіх і летувіскіх дэлегатаў на сойм, паставіўшы іх у бязвыхаднае палажэньне. Пасьля доўгіх і ўпакорваючых перагавораў, перад падпісаньнем акту вуніі ў салі нарадаў адбылося паседжаньне, якое ўзрушыла ўсіх да глыбіны душы і выявіла ўвесь трагізм тагачаснага палажэньня. Калі дэлегаты Вялікага Княства вычарпалі ўсе свае дыплёматычныя заходы і аргумэнты ды сталі перад фактам засьляпленьня і грубага насільства сваіх быццам саюзьнікаў, дык у аўторак 27 чэрвеня 1569 г. ад імя ўсіх дэлегатаў Жмудзкі стараста Ян Хадкевіч зьвярнуўся да караля: «...Па загаду вашае каралеўскае міласьці мы зь вялікім болем і сьцісьненьнем нашага сэрца змаглі вымагчы ў нас згоду (на ўмовы праектаванае вуніі), але як гэта нам балюча, таго не магчыма выказаць словамі, бо-ж мы забавязаны дбаць аб на-

шай бацькаўшчыне, як яе добрыя сыны, і старацца аб яе дабры, колькі належыцца і колькі ў нас ёсьць сілы, і вашая каралеўская міласьць і ўсе тут сабраныя могуць пасьведчыць, што мы паводля нашае сілы, як толькі маглі, абаранялі нашую бацькаўшчыну, каторую захавалі цэлую да гэтага часу коштам нашае крыві і жыцьця. Калі-ж цяпер уступаем, дык толькі перад доляю і часам... А таму, што ўжо нам няма больш да каго зьвяртацца па помач акрамя Бога і вашае каралеўскае міласьці... дык просім, каб вашая каралеўская міласьць так давёў да канца гэтую справу, каб яна не прынесла паняволеньня і ганьбы нам і патомкам нашым... (тут горка заплакаўшы, Хадкевіч стаў на калені разам з усімі дэлегатамі і прадаўжаў). Не дапусьці-ж, ваша каралеўская міласьць, ганьбы, каб гэты акт быў так завершаны, каб на нас не асталося ніякае плямы... Нам і нашым унукам было-б вельмі балюча, калі-б з часам выявілася, што на гэтыя справы трэба глядзець замест з міласьцю — з горыччу, або нас абвіняць, што мы не разумелі свайго паняволеньня» (35).

Нажаль голас дэпутатаў Вялікага Княства ня быў выслуханы. Засьляпленьне ўзяло верх і прыйшло горкае паняволеньне краю з усімі дзяржаўнымі і культурнымі ўстановамі, а ў першую чаргу Каталіцкае і Праваслаўнае Цэркваў. Аднак трэба дадаць, што беларусы ніколі не зракаліся сваіх прыродных правоў на незалежнасьць і пры кожнай нагодзе больш або менш голасна заяўлялі аб гэтым там, дзе толькі мелі магчымасьць. Наагул пакуль вёўся наступ палянізацыі ня спынялася і барацьба супраць яе, а самая палянізацыя хоць збольшыла крыху польскі народ коштам рэнэгатаў, але стварыла ўзаемны недавер усіх калішніх няпольскіх народаў Вялікага Княства да палякаў і спрычыніла вялікую школу для рэлігійнага жыцьця.

Што да глыбіні і да шырыні палянізацыйнага працэсу, дык яго найчасьцей перабольшваюць і палякі і беларусы. Да гэтага часу поўнасцью спалянізаванымі можна лічыць толькі беларускіх магнатаў. Затое ў ніякім выпадку нельга залічыць да палякаў беларускае каталіцкае сялянства, бо-ж у шматлікіх каталіцкіх парахвіях у гадох 1917—1919 самыя вернікі актыўна змагаліся за беларусізацыю рэлігійнага жыцьця, а ў гадох 1942—1943 можна было бачыць, як гэтыя вернікі тысячамі правілі ў сваіх дакумантах польскую нацыянальнасьць на беларускую. Асобнае мейсца ў польска-беларускіх дачыненьнях займае беларуская шляхта. Шмат хто яе лічыць так-жа поўнасьцю спалянізаванаю, як і магнатаў, але і калісь і цяпер не заўсёды такі пагляд адказвае праўдзе. Поўнасьцю спалянізавалася толькі багацейшая шляхта — памешчыкі, а бяднейшая бадай усюды яшчэ захавала хоць прыглушаную беларускую сьведамасьць. Ня трэба забывацца, што якраз з гэтага асяродзьдзя выйшлі першыя дзеячы на ніве беларускага адраджэньня. Ужо не

---

35) Дневникъ Люблинского сейма 1569 года. Соединеніе Великого княжества Литовского съ королевствомъ Польскимъ. С. Петербургъ, 1869, стар. 468—471.

адзін дасьледнік беларускага мінулага зьвярнуў увагу на гэты факт і шукаў прычынаў абуджэньня беларускае сьведамасьці ў тых людзей, якіх афіцыяльна зарахоўвалі да спалянізаваных. Зацікаўленых адсылаем да паважнае працы на гэтую тэму а. Адама Станкевіча (36). Ясна, што калі-б пад уплывам палянізацыі беларуская шляхта зусім страціла сваю беларускую сьведамасьць, не змаглі-б яе абудзіць ніякія прычыны. Наперакор усякай прапагандзе факт астаецца фактам, што ані насільнае зарахаваньне беларускае шляхты да палякаў, ані каталіцызм у форме «польскае веры» не перашкодзілі, каб з гэтага асяродзьдзя выйшлі першыя беларускія адраджэнскія дзеячы, наадварот каталіцкае веравызнаньне было немалою падтрымкаю ў іх працы на карысьць Беларусі. Можна спытаць сябе: як-бы сёння выглядаў беларускі вызвольны рух, калі-б яго не пачалі: Ігнат Онацэвіч, (1787—?) (сын вуніяцкага сьвятара), Ігнат Даніловіч 1782—1842 (так-жа сын вуніяцкага сьвятара), Ян Баршчэўскі 1790—1851, Аляксандр Рыпінскі, Францішак Савіч, Ян Чачот 1797—1847, Паўлюк Бахрым 1805—1891, Арцём Дарэўскі-Вярыга, Вінцук Дунін-Марцінкевіч 1807—1884, Адам Кіркор 1812—1886, Вінцэсь Каратынскі 1828—?, Аляксандр Ельскі 1834—1916, Францішак Багушэвіч 1840—1900, Ян Няслухоўскі (Лучына) 1851—1897, Ігнат Грынявіцкі 1856—1881, Адам Гурыновіч, 1868—1894, Казімер Кастравіцкі (Карусь Каганец) 1868—1918, Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.) 1870—1922, Альбэрт Паўловіч 1875—1920, Алёізія Пашкевічанка (Цётка) 1876—1916, Андрэй Зязюля (кс. Аляксандр Астрамовіч) 1872—1921, праф. Браніслаў Эпімах-Шыпіла ?—1934, Іван Луцкевіч 1881—1919, Іван Луцэвіч (Янка Купала) 1882—1942 і інш.? Як бы бяз гэтых і іншых малодшых каталікоў выглядаў беларускі рух, хай адкажуць тыя, што яшчэ сёньня не перастаюцьісьці на павадку варожае супрацькаталіцкае прапаганды наагул, а ў адносінах да беларусаў каталікоў ў асаблівасьці.

На эміграцыі больш чым дзе ёсьць адзіная ў сваім родзе нагода і тым, што вялі палянізацыю і тым, што цярпелі ад яе, пазнаць сапраўднае аблічча каталіцызму і сьцьвердзіць, як недарэчнаю была палітыка атоесамліваньня каталіцызму з польскасьцю. Да таго сучасныя абставіны на бацькаўшчыне паказваюць, якую вялікую шкоду яна спрычыніла для рэлігійнага жыцця.

У інтарэсе лепшае будучыні беларускага народу і для лепшых суседзкіх узаемадачыненьняў неабходна паправіць калішнія памылкі. Пры добрай волі гэта зусім магчыма. Тым-жа, што засьлепленыя расейскаю прапагандаю не перастаюць атакаваць Каталіцкае Царквы ў супольным фронце з бальшавікамі, можна сказаць адно: той хто сапраўды жадае лепшае будучыні беларускаму народу, мусіць шчыра ўспамагаць Каталіцкую Царкву, ужо хоць-бы

[36] Adam Stankevic.— Bielaruski chryscijanski ruch. Vilnia 1938. Adnosna zakranienaje temy nladzi razdziel 3 Vytoki bielaruskaha chryscijanskaha adradzennia.

дзеля таго, што ніхто іншы акрамя яе не зможа адрабіць таго, што ёй нейкім чынам прыпісваюць.

**а. Л. Гарошка**

**Падрыхтаваў да друку Янка Трацяк.**
**«Божым шляхам». 1955 г., № 68—69.**

## □ НАШЫ ЮБІЛЯРЫ

### НАВУКОВЕЦ І КРАЯЗНАВЕЦ



У 1993 годзе споўнілася 50 год Андрэю Майсяенку, намесніку старшыні камісіі па навуцы, культуры, адукацыі і выхаванні абласнога Савета народных дэпутатаў, намесніку дырэктара па навуковай працы Інстытута біяхіміі АН Беларусі, сябру Праўлення Гродзенскага абласнога аддзялення БФК, фонду «Бацькаўшчына» і фонду імя А. Міцкевіча, старшыні краязнаўчай асацыяцыі.

Андрэй Майсяенак нарадзіўся 1 чэрвеня 1943 года ў г. Глыбокім, што на Віцебшчыне. Яго бацькі — мясцовыя інтэлігенты, скончылі Віленскі універсітэт (бацька — медыцыну, маці — біялогію) яшчэ да 1939 года. Іх добра ведаюць і ў Глыбокім, і ў Шаркаўшчыне, і ў Варапаеве (сучасны Пастаўскі р-н), дзе сям'я найбольш доўга пражыла і дзе Андрэй ад першага да апошняга класа прайшоў свой першапачатковы этап адукацыі.

Па сканчэнні школы ў 1959 годзе Андрэй Майсяенак паступіў на лячэб-

ны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага медычнага інстытута.

У 1960 г. упершыню сустрэўся з выкладчыкам, загадчыкам кафедры біяхіміі Юрыем Астроўскім. Гэта й вырашыла далейшы лёс студэнта. Біяхімія адкрыла перад ім новы, захапляльны свет навукі.

У канцы 1970 г. на базе навуковай групы праф. Ю. Астроўскага быў заснаваны Аддзел рэгуляцыі абмена рэчываў АН БССР. Вучоным сакратаром Аддзела, а ў той час адзіным намеснікам будучага акадэміка, быў пакліканы А. Майсяенак. У хуткім часе ён абараніў у Вільні дысертацыю на званне кандыдата медычных навук.

Паступова прыходзіла і навуковае прызнанне. Ён стаў аўтарам манаграфій «Пантатэнавая кіслата» (1980), «Вытворныя пантатэнавай кіслаты» (1989 г., разам з супрацоўнікамі). Па ініцыятыве А. Г. Майсяенка ўбачылі свет такія калектыўныя працы, як метадычнае настаўленне «Экспериментальная витаминология» (1979 г.) і калектыўная манаграфія «Метаболические эффекты недостаточности функционально-связанных В-витаминов» (1987 г.). Увогуле, Андрэй— аўтар больш 200 апублікаваных прац, 10 аўтарскіх пасведчанняў на вынаходніцтвы, навуковы кіраўнік 11 кандыдацкіх дысертацый.

Пасля смерці заснавальніка Інстытута, акадэміка Юрыя Астроўскага, А. Майсяенак зноў вяртаецца да навукова-арганізацыйнае дзейнасці, прыняўшы пасаду намесніка дырэктара Інстытута па навуковай працы (са студзеня 1992 г.). На гэтай пасадзе юбіляр знаходзіцца і па сённяшні дзень.

Часы перабудовы павярнулі многіх навукоўцаў да грамадскага, палітычнага і культурнага жыцця. Аднак не кожны змог уступіць на гэты шлях з самаадданаю і натхнёнаю рашучасцю. Разам з групай навукоўцаў Інстытута біяхіміі Андрэй Георгіевіч прыняў удзел у стварэнні клуба «Паходня», які ўзначаліў вядомы гісторык і археолаг Міхась Ткачоў. Палітычныя падзеі таго часу, актывізацыя культурнага жыцця паклікалі А. Г. Майсяенка да канструктыўнае працы ў галіне краязнаўства, гісторыі медыцыны, якой, дарэчы, ён займаўся і раней. Спачатку працаваў у краязнаўчым актыве Гарадзенскага гарадскога таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, пазней у камісіі краязнаўцаў Гродзенскага аддзялення Беларускага фонду культуры. У 1990 г. быў абраны народным дэпутатам Гродзенскага абласнога Савета і старшынёй Гродзенскай краязнаўчай асацыяцыі.

Шматлікія «пасады» Андрэя Майсяенка, народнага дэпутата, кандыдата медычных навук не перашкаджаюць яму ў навуковай і грамадскай працы, а толькі дапаўняюць адна другую на карысць навуковай і культурнай справы, да якой ён прызначаны сваім асабістым лёсам.

Прыклад дзейнасці гэтага чалавека, сапраўднага беларускага інтэлігента, заслугоўвае сама глыбокай павагі з боку ўсяго нашага грамадства, яго сяброў і паплечнікаў у справе Адраджэння Беларусі.

**Федар ІГНАТОВІЧ, гісторык медыцыны,**
**Алесь ТАЛЕРЧЫК, краязнаўца**

## IN DIESEM HEFT:

QUELLEN



IN DER EMIGRATION HERAUSGEGEBEN



CONTENTS:



MEETINGS



HISTORY AND CULTURE



POETRY



RESEARCH AND OPINIONS



LINGUISTIC CLARITY AND CULTURE



TRANSLATIONS



ART

## SILHOUETTES



## SOURSES



## PUBLICATIONS OF EMIGRANTS



# «БЕЛБІЗНЕСБАНК»

Беларускі акцыянерны камерцыйны банк рэканструкцыі і развіцця **«Белбізнесбанк»** адзін з найбуйнейшых банкаў Рэспублікі Беларусь з шырока разгалінаванаю сеткаю філіялаў на тэрыторыі Рэспублікі і высокакваліфікаванымі спецыялістамі. У 33 філіялах Белбізнесбанка ў г. Мінску, Гродна, Гомелі, Магілёве і многіх раённых цэнтрах абслугоўваецца звыш 33 тыс. кліентаў. Гэта прадпрыемствы лёгкае прамысловасці, дзяржгандлю, жыллёвакамунальнае гаспадаркі і бытавога абслугоўвання, іншыя суб´екты сацыяльнае сферы, а таксама малога і сярэдняга бізнесу.

Белбізнесбанк зарэгістраваны Нацыянальным банкам РБ 1 верасня 1992 года як таварыства закрытага тыпу са статутным капіталам 346 млн. рублёў. Найбуйнейшыя акцыянеры банка: рэспубліканскі харчовы канцэрн «Белхарчпрам», Мінскі камвольны камбінат, Гродзенскае прадзільнаніткавае аб´яднанне, акцыянернае таварыства «Агравіта» ды інш.

З кастрычніка 1992 года банк пераўтвораны ў таварыства адкрытага тыпу са статутным фондам 1,5 млрд. рублёў.

Дынамічнае і эфектыўнае развіццё банка дазволіла павялічыць капітал банка за кошт адкрыцця падпіскі на акцыі II выпуску толькі за 6 месяцаў у 4 разы і сфармаваць яго ў суме 5,5 млрд. рублёў.

Ступень даверу да банка характарызуецца тым, што к моманту перарэгістрацыі банка выпушчаныя акцыі былі напоўніцу сплочаны.

У цяперашні час абвешчана падпіска на трэці выпуск акцый Белбізнесбанка, у выніку якой статутны капітал банка плануецца павялічыць на 4 млрд. руб.

Белбізнесбанк карыстаецца ўстойліваю рэпутацыяй банка, што ўвасабляе надзейнасць, паважнасць, усеахопнасць сфераў абслугоўвання кліентуры.

Банк садзейнічае развіццю рыначнае інфраструктуры, развіваецца ў якасці універсальнага банка, не абмяжоўваючыся асобнымі відамі аперацый.

Белбізнесбанк гатовы прапанаваць кліентам найшырэйшае кола банкаўскіх паслуг:

— размяшчэнне часова свабодных сродкаў насельніцтва, прадпрыемстваў і арганізацый ва ўклады, дэпазіты і дэпазітныя сертыфікаты паводле ставак, якія гарантуюць засцярогу ад інфляцыі;

— разлікова-касавае абслугоўванне і даванне крэдытаў суб´ектам гаспадарання ўсіх формаў уласнасці;

— улік векселяў, чэкаў ды іншых грашовых абавязацельстваў;

— куплянне і продаж каштоўных папер за свой кошт;

— выдача гарантый і зарукаў;

— аказанне пасрэдніцкіх і кансультацыйных паслуг, звязаных з банкаўскаю дзейнасцю;

— набыццё і ўступка грашовых патрабаванняў (уключаючы фіктарынгавыя аперацыі);

— лізінг;

— ажыццяўленне разлікаў і пераводаў паводле даручэння кліентаў;

— пагадненне на камісійнай аснове;

— прыйманне і захоўванне каштоўнасцяў;

— кіраванне актывамі паводле даверанасці.

Згодна жаданням кліентаў на дамоўленай аснове высокакваліфікаваныя спецыялісты банка:

— ажыццявяць праверку праектна-каштарыснае дакументацыіі, правядуць экспертызу тэхнічна нескладаных аб 'ектаў;

— складуць каштарыс на аб 'екты, якія не патрабуюць выррабу рабочых чарцяжоў;

— праверацць разліковыя дакументы (акты прыёмкі выкананых работ);

— пракансультуюць паводле разлікаў за выкананыя работы, прэйскурантам, адзінкавым расцэнкам каштарыснае дакументацыіі.

Банк ажыццяўляе комплекс аперацый, звязаных са знешне-эканамічнаю дзейнасцю:

— адкрыццё бягучых рахункаў юрыдычным і фізічным асобам у замежнай валюце;

— прыём імянных чэкаў у замежных банкаў на інаксе;

— правядзенне пасярэдніцтвам тэлекснае сувязі міжнародных разлікаў (пераводы, інакса, акрэдытывы);

— размяшчэнне валютных сродкаў фізічных асоб ва ўклады і дэпазітываў з выплатаю працэнтаў у замежнай валюце;

— набыццё-продаж наяўнае, свабодна-канвертаванае валюты ў насельніцтва як за наяўны разлік, так і паводле безнаяўнага разліку шляхам выдання чэкавых кніжак;

— набыццё-продаж безнаяўнае свабодна-канвертаванае валюты ў фізічных асоб праз міжбанкавую валютную біржу;

— набыццё-продаж валют дзяржаў, раней прыналежных да СССР.

Пункты абмену валют:

— чыг. вакзал, тэлефон: 45-25-77

— КПП «Брузгі»

Белбізнесбанк мае прамыя карэспандэнцкія сувязі з 11 краінамі свету (Германія, Аўстрыя, ЗША, Вялікабрытанія, Францыя, Італія, Польшча, Чэхаславакія і г. д.), што дазваляе ажыццяўляць плацяжы ў любую краіну свету за найкаротшы тэрмін.

Белбізнесбанк запрашае Вас да ўзаемнага супрацоўніцтва і гарантуе кваліфікаванае банкавае абслугоўванне.

Вас чакаюць на адрас:

г. Мінск, вул. Кісялёва, 6а
г. Гродна, вул. Карбышава, 17
Тэлефоны: 47-29-64, 47-03-17, 47-02-38, 47-03-66
г. Гродна, вул. Савецкіх пагранічнікаў, 110
Тэлефон: 2-64-43
г. Ліда, вул. Савецкая, 10, тэл. 3-21-66
г. п. Астравец, вул. Набярэжная, тэл. 2-16-76.

